# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (84) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2018 г.




*Рэкардсмен Беларусі па ультрамарафону Лявон Анацка, 2018 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 4 ( 84 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2018 г.**


## У НУМАРЫ:




***Стар. 2. Рэкардсмен Беларусі Лявон Анацка.***



***Стар 6. Кроніка Ліды.***

***Стар. 10. 100 гадоў беларускаму руху ў Лідзе.***



***Стар 13. Лідскія юбіляры 2018 г.***

***Стар. 14. Пахаванне паўстанцаў у Стрэліцы.***



***Стар. 16. Гута Ленскага (1883-1901).***

***Стар. 22. Прыходы ў Голдаве і Бабрах.***



***Стар. 41. Піяры ў Воранаве і Лідзе.***

***Стар 54. Лідская павятовая 5-ці класная вучэльня.***




***Стар. 61. Лідскія калекцыі.***

***Стар. 64. Паўвеку. Вайна.***


**На першай старонцы вокладкі адна з апошніх шляхочых хатаў на Лідчыне. Былы засценак Станкевічы. 2018 г.** *Здымак С. Судніка.*


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 250 асобнікаў**
**8,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 3066.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2018 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.01.2019 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792










**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Рэкардсмен Беларусі Лявон Анацка

Лідскі ультрамарафонец, старшыня Лідскай раённай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка ў катэгорыі індывідуальнага заліку стаў рэкардсменам па даўжыні прабегу ў рэйтынгу міжнароднага клуба аматараў бегу (КЛБМатч) за 2018 год. Ён адолеў 3650 кіламетраў і 390 метраў у васямнаццаці найдаўжэйшых стартах.

Лявон Анацка ніколі не займаўся прафесійным спортам, а ў 54 гады вырашыў паспрабаваць сябе ў сутачным бегу. На сёння ён наведаў больш за 15 краін, прыняў удзел у шасцідзесяці забегах і ўстанавіў рэкорд Беларусі ў шасцісутачным бегу. У 2018 годзе Лявон Анацка прымаў удзел у ультрамарафоне ў Італіі. Там ён абнавіў асабісты і нацыянальны рэкорд: за шэсць сутак прабег 721,47 км. Пры гэтым за апошнія суткі забегу пераадолеў 141 кіламетр.

Мінулы рэкорд Лявона - 602 кіламетры. А папярэдні рэкорд Беларусі на дыстанцыі ў шэсць сутак належаў Уладзіміру Кандыбу і складаў 677, 02 кіламетра. Ён быў установлены яшчэ ў 1994 годзе ў Адэсе.

Шасцісутачны марафон, у якім прымаў удзел Лявон Анацка, праходзіў у італьянскім горадзе Палікора. Усяго у ім прымалі ўдзел 29 бегуноў з адзінаццаці краін свету. Леанід фінішаваў у агульным забегу трэцім, але заняў першае месца ў сваёй узроставай групе.

Такія поспехі, нарэшце, сталі нагодай для таго, што Лявон Анацка падаў заяўку ў Гарадзенскае абласное ўпраўленне спорту і турызму пра ўступленне ў Федэрацыю лёгкай атлетыкі.

- Я неяк спрабаваў гэта год таму зрабіць. Вагаўся, ці трэба гэта рабіць. Але атрымалася так, што два дні таму я стаў індывідуальным прадпрымальнікам. Раней я быў рабочым на абутковай фабрыцы, дзе 10 гадоў прапрацаваў. Суткавы забег, суткавыя ультрамарафоны змусілі мяне стаць багатым, бо не хапае грошай. Калі не на мяне, то на беларускую каманду, на наша падарожжа і ўсе планы.

**Лявон Анацка адказаў на пытанні карэспандэнта “Звязды” Дар'і Лабажэвіч.**

***- Лявон, раскажыце, чаму менавіта ў 54 гады вы пачалі займацца бегам?***

- Сябар яшчэ гадоў 10 таму запрашаў паўдзельнічаць у марафоне, а ў мяне то дзеці былі малыя, то бацькі хворыя, то работа. Пасля ён зноў звярнуўся з такой прапановай, прабегчы 42 км. Я кажу: неяк мала, каб сто якіх або суткі. А сам пра сябе думаю: які з мяне бягун? Вось у грыбы хаджу, на ровары езджу. За суткі добра натупаю. Чатыры гады таму ў Маладзечне быў забег у 100 км на 12 гадзін. Гарачынёй у 34 градусы вырашыў паспрабаваць сябе. За 12 гадзін натупаў 66 км і неяк не стаміўся. Украінец з гэтага забегу ў Маладзечне запрасіў мяне на сутачны забег у Кіеў, і я паехаў у сваіх лідскіх тапках, якія мы робім на фабрыцы. Хадзіў, хадзіў, і да раніцы 100 км нахадзіў. Пакуль маладыя набегаліся і спаць пайшлі ці на масаж,




я далей хадзіў і выйшаў на шостае месца ў абсалюце, на другое ў сваім узросце. А пасля гляджу, яны ўжо прачнуліся і пачалі мяне даганяць, думаю, трэба і мне тады пабегаць, і так у мяне за суткі выйшла 136 км. Наступны старт, праз паўгода, быў ужо двое сутак, і так пайшло.

***- А ў 2017 годзе вы ўжо ўзялі ўдзел у чэмпіянаце свету па сутачным бегу.***

- Ён праходзіў у Белфасце, гэта была вельмі цікавая паездка, 500 удзельнікаў з розных краін свету. Я адзіны беларус, паехаў туды, не ведаючы мовы, і паставіў рэкорд - 165 км. У сваім узросце заняў чацвёртае месца. Пасля Белфаста ў мяне з'явілася думка, каб і ў Лідзе зрабіць такое свята, сабраць усіх гэтых спартсменаў. 27 верасня мінулага года ў Лідзе мы стварылі міжнародны клуб ультрамарафону (пакуль там толькі 16 чалавек, сярод іх беларусы, украінцы, расіяне і нават адзін афрыканец) і правялі падобны фестываль на адны, двое і трое сутак.

Ведаеце, некаторыя лічаць мяне нават не зусім здаровым, не разумеюць, як можна сто долараў аддаць і яшчэ двое сутак бегаць. Калі ты аддаеш грошы на цыгарэты або застолле, пасля якога яшчэ таблетак трэба купіць, гэта - нармальна, а калі траціш грошы, каб пабыць з людзьмі свайго складу мыслення, разважаюць вось так. За суткі, пакуль бяжыш, ты знаёмішся з людзьмі, можаш штосьці ім расказаць, падтрымаць адно аднаго. Ультрамарафон - гэта не толькі спаборніцтва, тут вырашальны, акрамя фізічнага стану, яшчэ і духоўны, эмацыянальны. Бо прабегчы 600 разоў па адным і тым жа крузе не кожны вытрымае.

***- Траса ультрамарафону заўсёды праходзіць толькі па стадыёне?***

- Ёсць і больш цікавыя, складаныя - па перасечанай мясцовасці. Бяжыш ноччу, і ўсялякае можа здарыцца. Звычайна забегі праходзяць у нейкім адведзеным парку, дзе круг - паўтара кіламетра, на ім размешчаны палаткі ўсіх спартсменаў, тут можна схадзіць у прыбіральню, недзе адпачыць. Калі ўсе знаходзяцца ў адным месцы, гэта ўсё фіксуецца. Так больш надзейна, бо ўсе бачаць адно аднаго, калі штосьці здарылася, можна дапамагчы. І, вядома, лягчэй весці падлік.

Суткі - гэта афіцыйная дыстанцыя, але яе пакуль няма ў праграме Алімпіяды, хоць на Гульнях у Лондане была размова, каб уключыць сутачны бег у праграму.

***- Які асабісты рэкорд вы маеце сёння?***

- 179 км, я пакрысе падрастаю, але, каб атрымаць першы разрад, трэба за суткі прабегчы 190 км, для кандыдата ў майстры спорту - 220 км, у майстра - 240 км. Але гэта ўжо для моладзі. Я кажу так: пакуль не прабягу ў Нью-Ёрку пяць тысяч км за 52 дні, ні пра якую хуткасць не думаю, проста працую на працягласць. Самае складанае ў пераходзе ад марафону да ультрамарафону - навучыцца бегчы павольна. Бо калі ў марафоне можна не есці, не піць - проста бегчы, то на сутачным марафоне так не вытрымаеш. Галоўнае, не бегчы хутка першыя 100 км, а далей усё пойдзе.

***- Што паспяваеце зрабіць за гэтыя суткі, пакуль бежыце?***

- У залежнасці ад таго, якая дыстанцыя. Калі гэта - чэмпіянат свету, то тут нічога не будзеш мудрыць: не спаць, і толькі наперад. Калі гэта шасцісутачны забег, тут можна трошкі з сапернікамі пагуляцца. Напрыклад, у Італіі я так і зрабіў. Там мне пашчасціла пабіць рэкорд Беларусі ў шасцісутачным забегу - 721 км.

Я прыехаў на гэты забег стомлены, бо прыляцеў за чатыры дні да старту. Прыляцеў у Рым, а забег быў у Палікора. Ну, думаю, як гэта быць у Італіі і не пабываць у Ватыкане. Пабываў, а потым з самымі таннымі білетамі на аўтобусах і цягніках, а недзе і пешшу, дабраўся да месца старту. Прыйшоў за дзве гадзіны да пачатку, ноч перад гэтым спаў на чыгуначным вак-






зале. Вядома, у першы дзень не змог хутка бегчы, таму пасля шасці гадзін на дыстанцыі вырашыў трохі паспаць. Такім чынам, у першы дзень прабег толькі 113 км, у адрозненне ад лідара, іспанца, які прабег 190 км. Я быў тады недзе 17-м з 30 удзельнікаў. На другі дзень ужо стаў 10-м, потым 6-м, 5-м і вось, у перадапошні дзень, падабраўся да гэтага іспанца і яшчэ на 20 км яго абагнаў. Я кажу гэта да таго, што трэба ўмець пакінуць сілы на апошні дзень і пралічыць, як будуць паводзіць сябе канкурэнты.

Зараз мне цікава паспрабаваць сябе ў дзесяцісутачным забегу ў Нью-Ёрку, я атрымаў запрашэнне на гэты марафон. Трапіць туды вельмі цяжка, запрашэнне абы-каму не дадуць, але арганізатары прааналізавалі маю статыстыку і вырашылі запрасіць. Зараз вырашаю пытанні з візай.

***- Што вы б назвалі самым важным у ультрамарафоне?***

- Каб чалавек быў станоўчы эмацыянальна. Заўсёды кажу: няшчасны чалавек суткі не пабяжыць.

Калі бяжыш ноччу, цяжка дачакацца ўзыходу сонца. Калі кладзешся спаць, самае складанае потым падняцца, арганізм ужо не хоча бегчы, пераламаць сябе вельмі складана.

***- Усе паездкі вы аплачваеце за свае грошы?***

- Так, тыдзень таму я яшчэ быў рабочым лідскай абутковай фабрыкі, атрымліваў невялікі заробак, але жыву па такім прынцыпе - багацеюць не прыбыткам, а расходам, гэта і праўда так.

***- Дарэчы, як трэба харчавацца марафонцу?***

- Гарбату не п'ю, каву таксама. Кашы наеўся, цыбуляй закусіў. У маім звыклым рацыёне - разынкі, яблыкі, лімон, імбір. Магу з'есці мяса, але для марафонца лепей нават сала. Ужываю алей, цудоўная рэч для мяне - кефір, хлеб. Я адчуваю, што ў мяне ўсё працуе. Ежа - гэта вельмі важна, калі не працуе страўнік або працуе не так, як трэба, то ні да якога бегу няма спраў.

***- Што вы звычайна бераце з сабой на забег?***

- Спальнік, хлеб, соль, ваду, капусту, разынкі, імбір, мёд - усё натуральнае. Неяк не было ўжо чаго есці ў Капенгагене, гляджу - айва расце, а яе ніхто не збірае, я айвы набраў.

***- Колькі краін вы ўжо аб'ездзілі?***

- Вялікабрытанія, Грэцыя, Іспанія, Італія, Данія, Эстонія, Латвія, Польшча, Румынія, Малдова, Украіна,

Расія, Літва, Венгрыя, Швецыя. Больш за ўсё спадабалася Данія, сціплая краіна з такой жа архітэктурай. Калі я падарожнічаю, стараюся рабіць не так, як нашы багатыя турысты, мяне не цікавяць пяцізоркавыя гатэлі. Так жыццё чужой краіны не ўбачыш. Я бяру заплечнік і іду па вуліцах, запытваюся ў людзей. Дарэчы, англійскай мовы не ведаю, да ўсіх звяртаюся на беларускай. Важна не тое, што мы гаворым, а тое - як мы гаворым. Наша мова не горшая за іншыя, з ёй можна выжыць.

***- Як вы трэніруецеся?***

- У мяне ўся трэніроўка заўсёды была ў працы. Я адзін будаваў хату, потым другую. Праязджаю на ровары каля 25 км, потым цэлы дзень іду па лесе, набіраю два вядры лісічак, назаўтра іх здаю. За дзень я мог зарабіць тыднёвы заробак на працы. Напрыклад, тыя ж ягады, калі было больш часу, вядро ягад я рукамі набіраў, мне гэта прыносіла задавальненне.

***- У дзяцінстве спортам наогул не займаліся?***

- Я шмат хварэў, да дзесяці гадоў некалькі разоў на запаленне лёгкіх. Потым, калі пайшоў у інстытут, пачаў загартоўвацца, абціраўся снегам, потым у палонцы купаўся. Цяпер па снезе басанож хаджу. З дзяцінства быў вельмі маленечкі, у 9 класе - 154 см. Мне параілі пайсці на лёгкую атлетыку. Два гады я пабегаў. За год на 12 см падрос, але спартыўных вынікаў не паказваў.

***- Ці змянілася здароўе, калі пачалі займацца марафонам?***

- Вядома, яно стала значна лепшым. За тры гады ў мяне каля 60 стартаў. Ні ў адным з іх я не перавышаў свае магчымасці. Я заўсёды адчуваю свой арганізм, слухаю яго, паважаю, гэта вельмі важна. Трэба слухаць сябе і не глядзець ні на кога. Гэта і ў бегу, і ў жыцці. Я ніколі не стаўлю будзільнікаў, нават калі трэба на самалёт. Мне нешта дапамагае, у сне я вырашаю многія свае задачы, кладуся спаць, і да мяне прыходзяць думкі, кажуць, гэта бацькі, дзяды і прадзеды нам дапамагаюць. Я ў гэта веру.

***- Разумею, што дрэнных звычак у вас ніколі не было?***

- Прызнаюся, некалі пасля школы курыў, за ўсё жыццё я выкурыў пачак "Космасу", тады гэта былі самыя дарагія цыгарэты. Хадзіў на танцы, віно нейкае піў, але ў мяне да гэтага ніколі не было асаблівага жадання. На сённяшні дзень перад ядой магу трохі выпіць натуральнага віна, але ж не бутэльку.

***- А якія звычкі ў вас сфарміраваў бег?***

- Я цяпер больш па-філасофску гляджу на ўсё. Ведаю, куды б я ні паехаў, атрымаецца нават лепш, чым я планаваў, будзе не так, як я хацеў, можа - горш, але нешта будзе нашмат лепш, чым я думаў. Па жыцці я цяпер аптыміст.

***- Ці падтрымлівае вас сям'я?***

- Як я разумею, тут два моманты. Па-першае, дзеці лічаць, што тата не шануе сваё здароўе, а па-другое, што яму грошы дзяваць няма куды. Але прама такое ў лоб яны мне не кажуць. Атрымліваецца, не надта падтрымліваюць, але і не перашкаджаюць.

***- А як ставяцца да вашага захаплення аднагодкі, сябры?***

- Трошкі з падазрэннем, а хтосьці і падтрымлівае. Я ўсім кажу: вы рабіце, як хочаце, галоўнае, каб маглі адчуваць сябе здаровымі, шчаслівымі, багатымі і пажадана ў канцы жыцця. І мама мая казала, не важна, як чалавек жыве, важна, як ён дажывае. Колькі мы пакінулі сабе здароўя, сродкаў, эмацыянальнага настрою.

**Добра, гэта недзе там, а што ж у Лідзе?**

**2-4 сакавіка 2018 года** па ініцыятыве Лявона Анацкі ў Лідзе праходзіў двухсуткавы ультрамарафон пад назвай "Самапераадоленне". Удзельнікі забегу стартавалі ў трох дыстанцыях - на 12, 24 і 48 гадзін. Прычым, самым масавым аказаўся 48-гадзінны забег, у якім стартавала 14 чалавек. Сярод іх было і двое








лідзян - Леанід Анацка і Алег Салянік. Нягледзячы на мароз і снежную завею, на старт выйшлі каля двух дзясяткаў атлетаў з Беларусі, Украіны, Расеі і Малдовы. Заяўлены атлет з Польшчы не стартаваў.

У 12-гадзінным забегу першым стаў Павел Лысенка з Маларыты (Берасцейская вобласць) з вынікам 95 кіламетраў, другім быў госць з Кіева Валерый Хрыстэнак. Яго вынік 84 кіламетры 665 метраў. Трэцім прызёрам на гэтай часавай дыстанцыі стаў Яўген Дзядоў з Кішынёва з вынікам 84 кіламетры.

Сярод "сутачнікаў" наймоцным быў Віктар Лісоўскі са Шчучына з вынікам 137 кіламетраў. На 35 кіламетраў менш прабег мянчук Анатоль Лапуць, які заняў 2-е месца.

Сярод тых, хто ў гэтых няпростых умовах не пабаяўся выйсці ў забег на 48 гадзін, лепшым быў мянчук Пётр Рагойша. Яго вынік не можа не ўразіць - 271 кіламетр 495 метраў. Дарэчы, Пётр упершыню ўдзельнічаў у двухсутачным ультрамарафоне. Не на шмат меней за яго прабег расеец Васіль Дзюкін, якому 13 сакавіка споўнілася ўжо 60 гадоў. Яго вынік 256 кіламетраў. Трэці вынік таксама ў расейца Андрэя Зіноўева - 233 кіламетры.

Сярод жанчын у 48-гадзінным забегу лепшай была мянчанка Аксана Сулімчык з вынікам 221 кіламетр.

Асобна хочацца адзначыць паказаўшую другі вынік Ларысу Лабарткову з Львова. У студзені гэтага года ёй споўнілася 69 гадоў, і ў гэтым узросце яна за двое сутак здолела пераадолець 212 кіламетраў. Трэцяй была яшчэ адна мянчанка Святлана Ярац з вынікам 182 кіламетры.

Леанід Анацка пераадолеў за двое сутак 192 кіламетры 246 метраў.

**28 - 30 верасня** ў Лідзе прайшоў другі этап Міжнароднага фестывалю-ультрамарафону "Самапераадоленне".

Месцам правядзення другога этапу стала лыжаролерная траса ля Кургана Неўміручасці. 28 верасня ў 12 гадзін стартавалі тыя, хто прыняў рашэнне бегчы 24 і 48 гадзін. І такіх аказалася 15 чалавек. Гэта прадстаўнікі Беларусі, Расіі і Украіны. У іх ліку і двое лідзян: Леанід Анацка і Алег Салянік.

Нягледзячы на не вельмі спрыяльнае для бегу надвор'е, удзельнікі ультрамарафону выйшлі на старт з добрым настроем. Як яны самі растлумачылі, для бегу дрэнных умоў не бывае.

Яшчэ пяць ультрамарафонцаў далучыліся ў дзевяць гадзін вечара 29 верасня. Яны беглі 12 гадзін.

У забегу на 48 гадзін першае месца заняў Пётр Рагойша з Беларусі з вынікам 288, 853 км. На другім месцы - Лявон Анацка з Ліды з вынікам 261, 989 км. На трэцім месцы - Барыс Дзюкін з Расіі з вынікам 261, 204 км. У забегу на 24 гадзіны першае месца заняў Юрый Чарнашэй з Рэчыцы з вынікам 184, 190 км.





Трэці этап Міжнароднага фестывалю-ультрамарафону "Самапераадоленне" прайшоў у Лідзе **29-31 снежня.**

Найбліжэйшы ультрамарафон на беларускай зямлі плануецца правесці ўлетку на Шчучыншчыне. Цяпер у склад новай лідскай міжнароднай дружыны "Ultrarun veras", акрамя Лявона Анацкі, уваходзіць 18 чалавек.

Так, дзякуючы Лявону Анацку, Ліда сталася цэнтрам такога віду спорту, я ультрамарафон.

***Паводле СМІ.***

# КРОНІКА ЛІДЫ

11 кастрычніка ў офісе ТБМ у Менску адбылася прэзентацыя новага сайта газеты "Наша слова" nslowa.by.

Газета "Наша слова" атрымала паўнаартасны сайт.





Пад 2 лістапада ("Дзяды") высілкамі і на сродкі вядомага, і знакамітага на Лідчыне чалавека - трэнера па боксу, Аляксандра Іванавіча Памахі каля вёсачкі Чараўкі, што схавалася ў лесе за в. Біскупцы, праведзена рэстаўрацыя мясцовых могілак

Усе работы выконваліся з непасрэдным фізічным удзелам самаго сп. Памахі, які нарадзіўся ў гэтай вёсачцы.

11 лістапада на ўездзе ў в. Ёдкі асвечаны крыж на месцы будаўніцтва праваслаўнай царквы Лукі Крымскага (Война Ясянецкага).









У лістападзе штангіст з Ліды Вадзім Ліхарад стаў бронзавым прызёрам ЧС-2018 у вагавай катэгорыі до 73 кг. Па суме дзвюх спробаў ён паказаў вынік 343 (156+187) кг. Золата ў кітайца Шы Чжыюна - 360 (164+196) кг, срэбра ў паўднёвакарэйца Вон Чжон Сіка - 348 (153+195).




У лістападзе ў Лідскай друкарні выйшла кніга лідскага пісьменніка Уладзіміра Васько “Энергія душы”. 160 ст. Наклад 100 ас.



У лістападзе ТАА "Лідскі мясакамбінат", у якім дзяржаве належыць 97,78 працэнта акцый і 2,22 - работнікам, прызнана банкротам і да 25 ліпеня 2019 года будзе ліквідавана.

У Бярозаўцы на шклозаводзе "Нёман" зрабілі крыштальныя шахматы. Фігуры выкананы па чарцяжах, знойдзеных у архіве прадпрыемства.
На заводзе выпусцілі два варыянты крыштальных шахмат: адзін бясколерны, а другі - з каляровага крышталю.



12 снежня ў Лідзе на курсах "Мова нанова" адбылася прэзентацыя прыватнай батлейкі. Ініцыятарам яе стварэння стаў мясцовы бізнесовец Віталь Карабач - гаспадар аграсядзібы "Гасьціна", што ў в Пескі Лідскага раёна.





У пачатку снежня асвечаны "ефрасіннеўскі" крыж каля царквы ў вёсцы Дакудава Лідскага раёна. Гэта ўжо 9-ты падобны крыж на Лідчыне.





У канцы снежня Указам Прэзідэнта Беларусі медалём "За працоўныя заслугі" ўзнагароджаны:
- Багдан Гейштаўт, дырэктар ААТ "Мінойтаўскі рамонтны завод",
- Галіна Кеўра, начальнік цэха сухіх малочных прадуктаў ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат",
- Вітольд Ненартовіч, шклавар ААТ "Завод "Оптык",
- Іван Фаляжынскі, оптык-механік ЗВУП "Белтэкс Оптык",
- Пётр Савіцкі, токар ААТ "Кіраўнічая кампанія холдынга "Лідсельмаш".

# Падведзены вынікі III Лідскага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям"

20 снежня 2018 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы на ўрачыстай цырымоніі падводзілі вынікі і ўзнагароджвалі пераможцаў III раённага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям".

Гэты конкурс з'яўляецца яшчэ адной лідскай культурнай традыцыяй, ладзіцца ён раз у два гады і ўпершыню прайшоў у 2014 годзе. Арганізуе конкурс дзяржаўная ўстанова культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" пры падтрымцы лідскага ТБМ. Мэта конкурсу - прапаганда творчай спадчыны Веры Сяргееўны Навіцкай сярод лідзян, выяўленне, падтрымка і заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей.

Вера Сяргееўна Навіцкая - пісьменніца канца XIX - пачатку XX стагоддзя (з 1910 года яна ўзначальвала "Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф.Л. і В.С. Навіцкіх"), аўтар некалькіх дзіцячых кніг прозы пра дзяўчынак - гімназістак. Для горада Ліды Вера Навіцкая на сёння - найбуйнейшы лідскі дзіцячы пісьменнік усіх часоў, таму конкурс і носіць яе імя.

Конкурс праходзіў з 15 чэрвеня па 10 снежня 2018 года. Да ўдзелу ў конкурсе было прынята 16 заявак. Тры аўтары выступілі ў намінацыі "Проза", астатнія - у намінацыі "Паэзія". Сярод удзельнікаў былі як аматары, так і пісьменнікі, і паэты, якія маюць не толькі вялікі вопыт, а і ўзнагароды за свае творы.



***Старшыня журы А. Мартынаў і пераможац конкурсу А. Мацулевіч***



***Удзельнікі конкурсу***




***Кніжачка М. Канапніцкай***

Пераможцамі III раённага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" сталі:

- I месца - Алесь Мацулевіч (намінацыя "Паэзія");
- II месца - Ірэна Сліўко (намінацыя "Паэзія");
- III месца - Ірына Бараздзіна (намінацыя "Проза").

Па-за конкурсам была прадстаўлена кніжачка дзіцячых вершаў Марыі Канапніцкай (23 траўня 1842 - 8 кастрычніка 1910) "Ад вясны да зімы". Кніжачка ўтрымоўвае 19 дзіцячых вершаў у перакладзе з польскай мовы Станіслава Судніка і ў адным асобніку будзе знаходзіцца ў Лідскай бібліятэцы.

Напрыканцы мерапрыемства са шматлікімі віншаваннямі і словамі падзякі, сябры журы запрасілі ўсіх да ўдзелу ў наступным IV Лідскім літаратурным конкурсе імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які адбудзецца ў 2020 годзе.

***Яраслаў Грынкевіч.***

***100 гадоў таму назад створана першая беларуская арганізацыя ў Лідзе***

*Леанід Лаўрэш*

# Гротэ дэ Буко ва ўспамінах Станіслава Іваноўскага

***19 кастрычніка 2019 года Ліда адзначыла 100-годдзе ўтварэння ў Лідзе першай беларускай арганізацыі новага часу. Стварыў і ўзначаліў арганізацыю герой Першай сусветнай вайны генерал-маёр Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко.***

Галоўнай крыніцай інфармацыі пра дзейнасць генерала фон Гротэ дэ Буко ў Лідзе канца 1918 пачатку 1919 гг. быў Юзаф Дзічканец, аўтар кнігі "Самаабазрона Лідскай зямлі" і відавочца тых падзеяў, ён пісаў: *"Самым небяспечным канкурэнтам для палякаў у справе атрымання зброі ад немцаў побач з яўрэямі быў арганізатар беларускага руху ў Лідзе, былы расійскі "исправник" фон Гротэ-дэ-Буко, які па прычыне свайго нямецкага прозвішча меў пэўныя перавагі ў штадтгаўптмана (начальніка павета). Толькі ён мог прыняць рашэнне аб выдачы зброі. Досыць доўгі час працягваліся спробы атрымання зброі"*. Далей Дзічканец адзначае: *"Дзіўна, што рускіх, якія перад вайной мелі прэтэнзіі да Ліды як да "истинно русского города", у гэты час у Лідзе не было. За выключэннем толькі невялікай групкі, амаль усе "истинно русские люди" пакінулі чужы для іх край і горад, накіроўваючыся да сапраўднай сваёй Бацькаўшчыны - Расіі. Былы лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко, і той пакінуў шэрагі расіян. ... фон Гротэ дэ Буко ... пачаў арганізоўваць беларусаў, каб стварыць* ***Беларускую Народную партыю"*** [1].

Удалося знайсці інфармацыю пра генерала ва ўспамінах польскага дзеяча Лідскай і Гарадзенскай Самаабароны Станіслава Іваноўскага - брата нашага Вацлава Іваноўскага і самага малодшага з дзяцей Леанарда Іваноўскага.

Вывучаючы сям'ю Іваноўскіх, я заўважыў, што Станіслава Іваноўскага не любілі ні яго родныя, ні беларускія сяляне. І, пэўна, было за што. Каб праілюстраваць інтэлектуальна-маральныя якасці Станіслава Іваноўскага, перакажу фрагмент з яго ўспамінаў, якія ён напісаў у 1937 г. - амаль што праз 20 гадоў пасля падзей. І праз 20 гадоў ён ганарыцца дробнай антыбеларускай правакацыяй, якую арганізаваў у Гародні і з вялікім задавальненнем пераказвае той выпадак у сваіх успамінах пра стварэнне польскай "Самаабароны" і складаныя моманты 1918-1919 гг. на Лідчыне і Гарадзеншчыне: *"На пачатку 1919 г. у Гародні*



134 Евгеній ГРОТЕ ДЕ БУКО
Генералъ-Маіоръ



*арганізавалася дэлегацыя беларусаў для паездкі ў Бельведэр* (да Пілсудскага - *Л.Л.*). *На чале гэтай дэлегацыі стаў нейкі Гадыцкі-Цвірка*[2] *са Случчыны. Пра прыезд гэтай дэлегацыі пісалі варшаўскія газеты і калі Гадыцкі-Цвірка вярнуўся ў Гародню, ён быў арыштаваны ўладамі і пасаджаны ў турму.*[3] *... Гадыцкага-Цвірку павінны былі перавезці ў Коўню. Пра дзень перавозкі я быў праінфармаваны. Вясеннім днём у 4-й гадзіне пасля поўдня яго везлі па вуліцы Ажэшкі ў турэмнай карэце пад канвоем гусараў* (беларускіх - *Л.Л.*). *На іх шляху, пры палацы князя Чацвярцінскага, на ходніках чакалі каля дзесятка чальцоў польскай вайсковай арганізацыі з рэвальверамі. Гусары праз*

[1] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 49.

[2] Кастусь Мардар'евіч Гадыцкі-Цвірка (05(17).04.1880 - пасля 1931) - беларускі педагог, публіцыст. У 1903-1923 гг. выкладчык Слуцкай гімназіі, Дзвінскага і Менскага рэальных вучылішчаў, Менскага настаўніцкага інстытута, Менскіх педагагічнага і політэхнічнага тэхнікумаў, рабфака БДУ. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 г.).

[3] У канцы сакавіка 1919 года К. Цвірка-Гадыцкі раптам з'яўляецца ў Варшаве, дзе складае на імя польскага прэм'ер-міністра І. Падарэўскага адозву з рэзалюцыяй нібыта праведзенага Беларускага краёвага з'езда, у якой сцвярджалася, што "існаванне самастойнай Беларускай дзяржавы немагчыма", таму Беларусь "у сваіх этнаграфічных межах" павінна была ўвайсці ў "сціслы звязак з Польскай Рэччу Паспалітай". Калі звесткі пра гэта дайшлі да Гародні, В. Захарка ў ноце ад імя

*хвіліну былі рассеяныя залпамі з рэвальвераў ... і паўцякалі. Усе немцы пахаваліся, было бачна, што яны не жадаюць браць удзел у канфлікце ... Скарыстаўшыся замяшаннем, я паехаў да каменданта цвердзі Гародні ... палкоўніка Лавенфілда і заявіў яму, што ўся віна за інцыдэнт ляжыць на беларусах і выказаў пажаданне, каб больш не было страляніны, якая пагражае жыццю нямецкіх жаўнераў у горадзе. ... палкоўнік Лавенфілд запэўнім мяне, што зробіць для гэтага ўсё магчымае. ... з таго памятнага дня знікла ўсякае значэнне Народнай беларускай рады ..."* [4].

Такім чынам і праз 20 гадоў ён не зразумеў, што непрыстойна і нават бязглуздна хваліцца правакацыяй, не асэнсаваў свае дзеянні і нават не зрабіў спробу неяк па-іншаму інтэрпрэтаваць тыя падзеі.

Не быў Станіслаў Іваноўскі і разумным чалавекам. Адназначную ацэнку разумовых здольнасцяў Станіслава даў Антон Луцкевіч, у студзені 1919 г. ён запісаў у сваім дзённіку: *"Прыходзіў Станіслаў Іваноўскі. З усёй яго гутаркі, як заўсёды дурной і бязладнай, з тэндэнцыяй выказаць свой розум, годнай увагі была толькі заява, што цяпер усе палякі маюць адну супольную ідэю: за ўсялякую цану далучыцца да Польшчы. "Краёвая ідэя, - сказаў ён, - магла б мець вагу толькі тады, калі б за ёй стаялі некалькі корпусаў войска. А цяпер мы аб ёй забыліся". Шчыра і ясна!"* [5].

Гэтая прэамбула пра малодшага з Іваноўскіх неабходная, каб разумець, хто напісаў тыя ўспаміны. Станіслаў Іваноўскі ўзгадвае генерала ў самы крытычны момант спробы ўзяцця ўлады ў горадзе:

*"Немцы жадалі супрацьпаставіць Радзе раней створаны руска-яўрэйскі камітэт* (беларуска-яўрэйскі - *Л.Л.*) *пад кіраўніцтвам былога спраўніка Лідскага павета палкоўніка* (генерала - *Л. Л.*) *фон Гротэ дэ Буко.*

*Калі мы даведаліся пра рэвалюцыю ў Берліне, пайшлі дэлегацыяй да мясцовага бургамістра - нямецкага афіцэра (прозвішча не памятаю), ведаю што быў юрыстам па адукацыі і напісаў ілюстраваную манаграфію пра горад Ліду, і патрабавалі, каб ён перадаў нам уладу ў горадзе. У склад дэлегацыі ўваходзілі Станіслаў Іваноўскі, ксёндз-дэкан Шкоп, ляснічы Рашкоўскі. Яўрэі пра гэта даведаліся, і тут жа пайшла другая руска-яўрэйская дэлегацыя з фон Гротэ на чале, але не высунула ніякіх патрабаванняў.*

*Напалоханы бургамістр сабраў некалькі ландштурммістраў і загадаў нас арыштаваць, але потым супакоіўся і абяцаў справу перадачы ўлады неяк залатвіць. У тую ж ноч бургамістр быў сам арыштаваны нямецкім жаўнерскім камітэтам, і ўся яго, з цяжкасцю сабраная маёмасць, была камітэтам канфіскавана"* [6].

З успамінаў Дзічканца мы бачым, што ніякай "рускай" актыўнасці ў горадзе ў той час не было, да таго ж зразумела, што *"истинно русские люди"* (як іх называе Дзічканец) ніколі б не супрацоўнічалі з яўрэйскай грамадой. Беларусы ў той час дзейнічалі разам з летувісамі, але зусім не з бальшавікамі. Цікава, што і ў арганізаваным немцамі Шчучынскім (Плянцкім) павеце, нямецкі начальнік павета гаўптман (капітан) Ліндаман хацеў перадаць уладу прадстаўніку ўраду Літвы, Тадэвушу Іваноўскаму - брату Станіслава і Вацлава Іваноўскіх, якія, дарэчы, па маці былі немцамі. І Тадэвуш Іваноўскі вёў палітычную працу ў Шчучынскім павеце разам з беларускім рухам[7].

Станіслаў Іваноўскі апісвае падзеі пры канцы 1918 г., калі палітычнае становішча ў горадзе і павеце рэзка абвастрылася. Мясцовыя палітычныя фракцыі - польская, яўрэйская і ў меншай ступені літоўская - імкнуліся да таго, каб германскія акупанты пры сваім адыходзе перадалі ўладу менавіта ў іх рукі. 29 снежня 1918 г. у Лідзе быў створаны павятовы рэўкамітэт. Яго чальцамі сталі 9 чалавек: 5 камуністаў - Утроб (Чэхаў), Лазараў, Вацлаў Калясінскі (селянін з Ёдкаў), Адольф Сцяпанавіч Сегень (селянін вёскі Вінькаўцы), Камінскі, Камянецкі, і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты. Рэвалюцыйны камітэт заняў дом бежанца ў гады вайны, мясцовага купца Ілютовіча, які размяшчаўся па вуліцы Садовай. Бальшавікі захапілі склад са зброяй, якая належала мясцоваму аддзяленню літоўскай партыі - 100 вінтовак, і стварылі гарадскі атрад народнай міліцыі колькасцю каля 100 чалавек, абсалютную большасць чальцоў міліцыі складалі лідзяне яўрэйскай нацыянальнасці.

Далейшую інфармацыю пра фон Гротэ дэ Буко мы знаходзім у мемуарах лідскага ксяндза Гіпаліта Баярунца, адкуль даведваемся, што пры другім *"нашэсці бальшавікоў на Ліду"*, у горадзе засталіся яслі і прытулак для старых, *"якія пры бальшавіках цярпелі вялікую нястачу, ... галоўнае кіраўніцтва над імі пераняла яўрэйка Камянецкая і былы колішні расейскі спраўнік Гротэ дэ Буко"* [8]. Як бачым яшчэ ў 1920-м г. генерал фон Гротэ дэ Буко заставаўся ў нашым горадзе і разам з яўрэйскай супольнасцю ратаваў жыццё шматлікіх сірот Першай сусветнай вайны.

---

Рады Міністраў БНР апратэставаў заяву "беларускай" дэлегацыі. Калі ж К. Цвірка-Гадыцкі зноў з'явіўся ў горадзе, на загад К. Езавітава ён быў арыштаваны і адпраўлены ў мясцовую турму. Улічваючы палітычны рэзананс, польскі камісар у Гародні Станіслаў Іваноўскі, які і з'яўляўся арганізатарам адпраўкі дэлегацыі ў Варшаву, атрымаў ад Генеральнага Штаба загад выпусціць К. Цвірку-Гадыцкага на волю. Калі вязня пад вартай эскадрона беларускіх гусар везлі з турмы на чыгуначны вакзал, на іх напаў атрад "Польскай арганізацыі вайсковай". Завязалася кароткая перастрэлка, падчас якой быў забіты адзін з нападнікаў. Аднак адбіць К. Цвірку-Гадыцкага не атрымалася. Гл: Чарнякевіч Андрэй. Нараджэнне беларускай Гародні: З гісторыі нацыянальнага руху 1909-1939 гадоў. Мінск, 2015. С. 55-56.

[4] Iwanowski Stanislaw. Samoobrona w Lidzie i Grodnie w 1918-1919 // Zeszyty Historyczne. Paryz. 1995. № 113. S. 120-121.

[5] Асабісты архіў гісторыка А. Чарнякевіча.

[6] Stanislaw Iwanowski. Samoobrona w Lidzie i Grodnie w 1918-1919 // Zeszyty Historyczne. 1995. №113. S. 111-112.

[7] Brochocki Andrzej. Dzieje samoobrony w Szczuczynie Nowogrodzkim (rok 1918 - 19) // Slowo № 52, 22 lutego 1936, Slowo № 53, 23 lutego 1936.

[8] Лідскі летапісец № 2 (54). С. 32.

*Станіслаў Іваноўскі*

# Самаабарона ў Лідзе

## (першая частка з успамінаў “Самаабарона ў Лідзе і Гародні ў 1918 - 1919 гг.”)[1]

У кастрычніку 1918 г. пасля вяртання з Расіі, вырашылі з групай асоб у Лідзе, а менавіта з паручнікам Вацлавам Шукевічам, доктарам Рамуальдам Сапоцькам, аптэкарам Рудольфам Бергманам і яшчэ некалькімі асобамі, закласці грамадскую арганізацыю, якая магла б пераняць уладу з рук немцаў. З-за аслаблення немцаў уладу можна было пераняць шляхам перамоваў, без ужывання сілы. Арганізавалі нешта накшталт выбараў і ўтварылі Народную (Нацыянальную) Раду Лідчыны. Яе старшынём стаў землеўладальнік Эміль Буткевіч, віца-старшынём Станіслаў Іваноўскі, у склад Рады ўвайшлі Рудольф Бергман, Рамуальд Сапоцька, ксёндз-дэкан Шкоп і некалькі асоб, прозвішчаў якіх не памятаю.

З мэтай падвышэння вагі нашай арганізацыі, належала як найхутчэй збіраць узброеных людзей, якія з аднаго боку маглі даць адпор бандам, што гарцавалі па павеце, з другога зрабіць немагчымымі пазазаконныя нямецкія рэквізіцыі. Пра стварэнне Народнай Рады было паведамлена адмысловай адозвай, надрукаванай у мясцовай друкарні і разасланы ганцы па ўсім павеце. Адозва мела моцны вынік: з усіх канцоў павета пачалі паступаць прапановы дапамогі ці просьбы аб помачы і прысылцы ўзброеных людзей. Часта двары прасілі дапамогі ў спрэчках з скамунізаванымі вёскамі. У такіх выпадках Рада дапамагала вельмі асцярожна, бо распальванне класавых спрэчак было па-за яе палітыкай.

На адозву Рады першымі адказалі працоўныя гуты шкла Нёман. Некаторыя з іх прыехалі з валізкамі, каб адразу ўступіць у войска. Таксама гарэла добраахвотніцтвам дробнашляхецкая моладзь з шматлікіх засценкаў, расцярушаных каля Радуні і Жырманаў, гэтыя былі на конях.

Паразумеўшыся з паручнікам Шукевічам, мы паехалі ў маёнтак Дзітрыкі да генерала Макрэцкага з просьбай, каб ён узяў на сябе камандаванне ствaранай вайсковай часткі. Мы думалі сварыць конныя і пешыя аддзелы ў Лідзе, Шчучыне, Радуні, Эйшышках. Памалу знаходзілася зброя як расійскай, гэтак і нямецкай вытворчасці. Конны аддзел мы пакінулі па-за Лідай, бо было лепей, каб ён застаўся ў вёсцы, дзе коні мелі бясплатны фураж. На пачатку не мелі сувязі з Вільняй і нават баяліся гэтых кантактаў, бо лічылі, што Вільня захоча нас сабе падпарадкаваць.

Спрыянне немцаў летувісам у справе зрабіць з Вільні сталіцу Летувы прымушала нас да асцярожнасці. Было жаданне мець як больш пляцовак на захад для моцнай сувязі з Гародняй, Ваўкавыскам, Беластокам і Берасцем - гэтыя гарады пад немцамі стваралі адміністрацыйную адзінку Обер-Ост пад назвай Урад Гародня-Беласток (Gouvernement Gradno-Bialistok, Sud-Lithau). Жадалі стварыць незалежную ад Вільні адміністрацыйную і вайсковую адзінку, сабраць сілы, каб супрацьстаяць таму лёсу, які немцамі быў вызначаны для Вільні і больш за тое, непасрэдна ўплываць на лёс Вільні. Маючы чыгуначныя і шашэйныя дарогі на захад, можна было трымаць кантакты з захадам.

Агітацыя за ўступленне ў нашы збройныя аддзелы сустрэла энергічны адпор з боку камуністаў, якія пераважна рэкрутаваліся з яўрэяў і праваслаўных.

З ціхай згоды немцаў штаб аддзела Самаабароны ўсяліўся ў лідскую Скарбовую касу, акрамя таго аддзел займаў яшчэ некалькі дамкоў каля гмаха Касы, не даходзячы да касцёла.

Тым часам да Ліды дайшлі весткі аб стварэнні збройнай сілы ў Вільні. Мы дэлегавалі паручніка Вацлава Шукевіча ў Вільню. Ён прывёз ад генерала Вейткі намінацыю для генерала Макрэцкага на камандванне 3-м аддзелам Самаабароны.

Зараз не памятаю, адкуль аддзел меў грошы. Не памятаю, ці атрымлівалі мы якія-небудзь грошы ад генерала Вейтка. Праўдападобна, мелі мы толькі ахвяраваныя грошы мясцовага насельніцтва.

Немцы жадалі супрацьпаставіць Радзе раней створаны руска-яўрэйскі камітэт (беларуска-яўрэйскі - *Л.Л.*) пад кіраўніцтвам былога спраўніка Лідскага павета палкоўніка (генерала - *Л. Л.*) фон Гротэ дэ Буко.

Калі мы даведаліся пра рэвалюцыю ў Берліне, пайшлі дэлегацыяй да мясцовага бургамістра - нямецкага афіцэра (прозвішча не памятаю), ведаю што быў юрыстам па адукацыі і напісаў ілюстраваную манаграфію пра горад Ліду, і патрабавалі, каб ён перадаў нам уладу ў горадзе. У склад дэлегацыі ўваходзілі Станіслаў Іваноўскі, ксёндз-дэкан Шкоп, ляснічы Рашкоўскі. Яўрэі пра гэта даведаліся і тут жа пайшла другая руска-яўрэйская дэлегацыя з фон Гротэ на чале, але не высунула ніякіх патрабаванняў.

Напалоханы бургамістр сабраў некалькі ландштурммістраў і загадаў нас арыштаваць, але потым супакоіўся і абяцаў справу перадачы ўлады неяк залатвіць. У тую ж ноч бургамістр быў сам арыштаваны нямецкім жаўнерскім камітэтам, і ўся яго, з цяжкасцю сабраная маёмасць, была камітэтам канфіскавана.

Тым часам да нас звярнулася некалькі нямецкіх вайскоўцаў-палякаў з прапановай дапамогі. Нейкі Вайноўскі, камендант маёнтка Бердаўка, прыслаў 20 карабінаў. Дапамагалі і іншыя, прозвішчаў якіх не памятаю, а таксама паручнік Стахоўскі.

Утварылі штаб у складзе: камандзір - генерал Макрэцкі, начальнік штаба - флоцкі паручнік Станіслаў Іваноўскі, старшы ад'ютант - Уладзіслаў Лясковіч і без адмысловай пасады - харунжы Юстын Макрэцкі. Паручнік Вацлаў Шукевіч атрымаў камандаванне аддзелам у Лідзе. Іншых прозвішчаў не памятаю.

Стасункі з немцамі складаліся па-рознаму. Спыніліся пазазаконныя рэквізіцыі, якія любы жаўнер чыніў сваёй рукой, каб даслаць сваёй галоднай сям'і ў Германію. Гэта выклікала незадавальненне нямецкіх жаўнераў. Большасць афіцэраў, разумеючы, што раней ці пазней давядзецца пакінуць павет, у асноўным ставіліся зычліва, бо мы пераняў у іх частку функцый па ўсталяванні парадку. Разумелі, што нельга пасля сябе пакінуць пустату і трэба некаму перадаць уладу. Нават афіцыйна, ад нямецкіх уладаў, было перададзена 20 карабінаў для Самаабароны і прызначаны афіцэр-інструктар. Ці праводзіў ён якія небудзь заняткі, не памятаю. Здаецца, што ўсе закончылася яго добрымі намерамі.

*Пераклад Леаніда Лаўрэша .*

[1] Stanislaw Iwanowski. Samoobrona w Lidzie i Grodnie w 1918-1919 // Zeszyty Historyczne. 1995. №113. S. 110-113.

# Лідскія юбіляры 2018 года

## Ён у адкрытым баі змагаўся за незалежнасць Беларусі

***Да 130-годдзя беларускага ваеннага, палітычнага і грамадска-царкоўнага дзеяча Міколы Дзямідава.***

Нарадзіўся **Мікола Дзямідаў** 10 снежня 1888 года ў Гарадку. Ён быў сынам Станіслава Катнароўскага і Аляксандры з Каліноўскіх гербу Калінова, прозвішча меў па другім мужу маці. У 1905 годзе Мікола здаў экзамен на настаўніка дзюхкласных пачатковых школ у настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. У 1907 годзе паступіў, як вольны слухач, на вечаровыя курсы на гістарычна-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта; працаваў у канцылярыі службы руху Управы Прывіслянскай чыгункі. 1 кастрычніка 1911 года Мікола Дзямідаў быў прызначаны кіраўніком чыгуначнай школы чыгункі ў Беластоку. З 1914 года ён знаходзіўся на ваеннай службе ў царскай арміі. А 1 лютага 1917 года скончыў Першую Паўлаўскую вайсковую школу. Удзельнічаў у кастрычніцкай рэвалюцыі, быў Наваградскім акруговым камісарам. З сакавіка да лістапада 1918 года знаходзіўся ў нямецкім палоне. Актыўна арганізоўваў беларускія аддзелы ў Вільні. А 1 снежня 1918 года яго накіравалі ў Літоўскае міністэрства абароны. З 20 снежня 1918 года да 1 чэрвеня 1919 года займаў пасаду каменданта Гародні. У 1920 годзе ў наваколлях Беластока Мікола Дзямідаў набраў з добраахвотнікаў батальён (каля 400 чалавек) і далучыўся да арміі Станіслава Булак-Балаховіча. У складзе Астроўскага пяхотнага палка другой пяхотнай дывізіі 10-14 лістапада вёў баі за Калінкавічы, 21 лістапада ўдзельнічаў у баях над Прыпяццю. Са сваім батальёнам працягваў барацьбу таксама пасля адступлення арміі Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю. Вёў баі да студзеня 1921 года, пасля чаго адышоў на польскі бок фронту і быў інтэрнаваны. Дарэчы, яго батальён у канцы 1920 года з'яўляўся апошнім беларускім падраздзяленнем, якое ў адкрытым баі аказвала супраціўленне савецкім войскам у барацьбе за незалежнасць Беларусі. У 1921-1922 гадах Мікола Дзямідаў працаваў настаўнікам у Гарадку, патым жыў у Латвіі. У 1940 годзе беларуса арыштавалі і да 1941 года пасадзілі ў Маскве на Лубянку. Праўда, праз год яму ўдаецца адтуль вызваліцца, і ён едзе ў Дзвінск. У сярэдзіне вайны Мікола Дзямідаў пераязджае ў Ліду, дзе працуе акруговым інспектарам, ён арганізоўвае настаўніцкія курсы і батальён самааховы, куды ўваходзілі ў асноўным настаўнікі. З восені 1944 года Мікола Дзямідаў жыве на эміграцыі. Ён быў адным з ініцыятараў склікання сабора Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы у Канстанцы ў 1948 годзе і аднаўлення БАПЦ пасля адыходу Беларускага епіскапату да расійскай замежнай праваслаўнай царквы. У 1950 года Мікола Дзямідаў выехаў у ЗША і напачатку пасяліўся ў Лансінгу ў штаце Мічыган, але неўзабаве перасяліўся ў Чыкага. У тым самым годзе стаў сябрам кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскай Народнай Рады (БАНР), адзінай арганізацыі старой беларускай эміграцыі, якая прымала новых палітычных эмігрантаў. З 1950 года Мікола Дзямідаў вёў беларускія радыёперадачы ў Чыкага. Ён быў актыўным дзеячам Згуртавання беларусаў штата Ілінойс, заснаванага ў 1953 годзе, а таксама сярод заснавальнікаў беларускай праваслаўнай парафіі св. Юрыя ў Чыкага і першым рэгентам яе хору. Пазней, аднак, Мікола Дзямідаў далучыўся да беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў адным з найбольш актыўных парафіянаў. Памёр у беднасці ў 1967 годзе. Пахаваны грэка-каталіцкім святаром на могілках ў Чыкага.



*"Мікола Дзямідаў" (мастак Андрэй Мікалаеў).*




*Мандат 2-га Усебеларускага Кангрэса ад г. Ліды*

***Паводле Радыё Рацыя.***

***155-я ўгодкі паўстання 1863 года***

# Пахаванне паўстанцаў 1863 г. каля каля былога фальварка Стрэліца на Лідчыне




Вывучаючы машынапіс (больш за 400 старонак) аднаго з апошніх уладальнікаў маёнтка Ішчална Караля Лясковіча, я натрапіў на гэткую інфармацыю: *"На адлегласці 1,5 км ад Стрэліцы, у паўночна-ўсходнім накірунку* (так у тэксце, рэальна - у паўночна-заходнім накірунку - *Л.Л.*) *знаходзілася адзіная ў гэтай мясцовасці шляхецкая ваколіца Станкевічы. Паміж дваром і ваколіцай меўся высокі курган з крыжам на вяршыні - помнік 1863 г. Тут была супольная магіла паўстанцаў, палеглых у сутычцы з казакамі".*

Пасля гэтага на месца пахавання была зладжана экспедыцыя, і быў знойдзены той самы курган, дзе пахавалі паўстанцаў. Да кургана вядзе добрая палявая дарога, але сам курган і зямля вакол яго не разараны, мабыць, пра магілу ведалі здаўна. Знайсці рэшткі крыжа не ўдалося. Гэтая інфармацыя мела досыць шырокі распаўсюд праз незалежныя сродкі масавай інфармацыі і сацыяльныя сеткі, распаўсюду інфармацыі, часткова спрыяла тое, што няўрымслівая журналісты знайшлі "прывід" каля месца пахавання паўстанцаў ...

Праз адну з сацыяльных сетак да мяне звярнуўся Іван Аркадзьевіч Давідовіч (1958 г. н.), урач-неўролаг, інтэлігентны і высокаадукаваны чалавек. Ён нарадзіўся ў вёсцы Ігнаткаўцы, і хутары яго вёскі пераходзілі ў хутары засценка Станкевічы - тая мясцовасць родная для Івана Аркадзьевіча. Ён усё жыццё цікавіўся гісторыяй, чытаў і зараз чытае шмат гістарычнай літаратуры, да таго ж многа размаўляў і размаўляе са старымі людзьмі, ды і яго бацька (1933 г.н.) - сапраўдны скарбец нашай гісторыі.

Дык вось, старыя людзі, якія нарадзіліся ў Ігнаткаўцах яшчэ на пачатку XX ст. у свой час расказвалі Івану Аркадзьевічу, што сутычка паміж паўстанцамі і казакамі адбылася каля населенага пункта Ваенполь - мясцовая легенда нават звязвала назву "Ваенполь" ці "Вайнаполе" менавіта з той сутычкай. Вядома, што населеных пунктаў з гэтка назвай ў 1784 г. не было, на карце Лідчыны, яны з'явіліся пасля другой паловы XIX ст. Цікава, што на гэтай карце маюцца два блізкія адзін да аднаго фальваркі з назвай Ваенполь (Вайнаполе) - адзін каля Ігнаткаўцаў (трошкі на ўсход ад вёскі), а другі наўпрост каля Стрэліцы. У 1920-я гг. гэты, апошні, фальварак меў ужо назву Антопаль. Гэта не так істотна, але сутычка паміж паўстанцамі і казакамі магла адбыцца і наўпрост каля Стрэліцы.

Фальварак Ваенполь (які каля Ігнаткаўцаў) і засценак Станкевічы ляжалі каля старажытным гасцінца



***Курган з магілай паўстанцаў на вяршыні***

Мыто - Голдава - Жалудок, гэтак апісанага ў вопісе Жалудоцкай парафіі 1784 г.: *"(Дарога) ад Ліды да Жалудка ... ад Жалудка на карчму ў Жушме, дзе ёсць мост на рацэ Лебяда, з Жушмы праз Ходараўцы (вёска яснавяльможнага пана Валовіча, Слонімскага маршалка), каля Беразаўца (яснавяльможнага пана Шукевіча, капітана) і двор Стрэліца (яснавяльможнага пана Сяклюцкага) ... адсюль трэба ехаць на Голдава (яснавяльможнага пана Важынскага), з Голдава да Радзівонішак (яснавяльможных паноў Нарбутаў), з Радзівонішак да Мыто (яснавяльможнага пана Паца)"*.

Калі сутычка адбылася каля Ігнаткаўцаў, дык забітых паўстанцаў па старажытным гасцінцы адвезлі да кургана, які знаходзіўся на зямлі маёнтка Стрэліца, і тут пахавалі. Калі ж сутычка адбылася каля Ваенполя Стрэліцкага, забітых нікуды вазіць і непатрэбна было, пахавальны курган быў зусім блізка. Сутычка, магчыма, сталася вынікам засады паўстанцаў на нейкі расейскі атрад ці пошту. Па ўсім відаць, што паўстанцы з поля бою не ўцякалі, а спакойна хавалі сваіх забітых. Значыць, перамога была тут за імі. У метрычных кнігах бліжніх праваслаўных цэркваў павінны былі б быць запісы пра пахаванне расейцаў на нейкіх тутэйшых могілках, бо тады расейцы сваіх забітых нікуды не вывозілі, а хавалі на полі бою ці недалёка, але пакуль нічога падобнага не знаходзілі.

Іван Аркадзьевіч яшчэ каля 1970 г. асабіста сам бачыў той крыж на кургане. Ён памятае, што гэты зарослы бэзам драўляны крыж быў бачны здалёк і раней пра яго добра ведалі ўсе мясцовыя людзі. Памятае гэты крыж на кургане каля Стрэліцы і яго родная сястра Ганна Аркадзеўна Фунт (1961 г.н.) і, канешне ж, яго бацька.

Трэба ўлічваць, што ўладальнікам маёнтка Стрэліца ў час паўстання быў Вінцэнт Сяклюцкі (Сяклуцкі, 1793-1864). На Лідчыне ён валодаў яшчэ адным маёнткам - Гарнастаішкі (каля Эйшышак). Дык вось, за падтрымку паўстання царскія ўлады наклалі секвестр на маёнтак Гарнастаішкі, але даказаць "віну" Вінцэнта Сяклюцкага так і не змаглі, і таму сын Вінцэнта Сяклюцкага Уладзіслаў праз суд вярнуў маёмасць. Сяклюцкія - калі наўпрост не прымалі ўдзел у паўстанні, дык спачувалі яму. Пра іншыя рэпрэсіі супроць Сяклюцкіх, акрамя канфіскацыі Гарнастаішак, невядома, але смерць Вінцэнта Сяклюцкага ў 1864 годзе выклікае пэўныя пытанні.

Іван Аркадзьевіч Давідовіч таксама расказаў, што ў 1950-х гг. з Сібіры ў засценак Станкевічы вярнуўся толькі адзін чалавек, але выжыла значна больш жыхароў гэтага старога шляхецкага асяродка - усе астатнія з Сібіры адразу ж з'ехалі ў Польшчу.

Па словах Давідовіча, ад Стрэліцы ў той час засталіся толькі гаспадарчыя пабудовы, дарэчы, галоўны, "панскі" дом быў спалены адступаўшымі рускімі войскамі яшчэ ў 1915 г.

***Леанід Лаўрэш.***

***Валеры Сліўкін***

# Гута Ленскага (1883-1901)

## *135 гадоў з моманту заснавання*

Напачатку 1880-х гадоў у межах сучаснай Беларусі дзейнічалі 9 гутаў. Тры з іх знаходзіліся ў Гарадзенскай губерні: ва ўрочышча Няўрага Слонімскага павета, ва ўрочышча Міхаліна Слонімскага павета, у маёнтку Гродзіск-Планты Ваўкавыскага павета. Ніводнае з гэтых месц знаходжання гутаў не ўвайшло ў склад цяперашняй Гарадзенскай вобласці. Першай гутай у сучасных межах Гарадзенскай вобласці з'яўляецца завод ва ўрочышчы Устронь Лідскага павета.

19 верасня 1883 г. абшарнік Зянон Антонавіч Ленскі падаў у Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне прашэнне: *"Просьбіт жадае ўладкаваць у лясной дачы маёнтка майго Заенчыцы шкляны завод ці "гуту" для вырабу шкла і шклянога посуду, для чаго хачу атрымаць дазвол належнай улады. А таму маючы на ўвазе: што законных перашкод для ўладкавання гэтага шклянога завода ці фабрыкі сустрэцца не можа, адважваюся пакорліва прасіць Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне дазволіць мне ўладкаванне і адкрыццё шкляной фабрыкі ці "гуты" ў лясной дачы маёнтка майго Заенчыцы, у чым выдаць мне належнае пасведчанне"* (LVIA. Ф. 382. Воп. 1. Спр. 1183. Л.3 = № 3. Л. 3).



***Прашэнне***

Лідскі павятовы паліцэйскі спраўнік Уладзіслаў Восіпавіч Казакевіч даручыў прыставу 1-га стану зрабіць агляд мясцовасці і дазнанне *"ці не сустракаецца якіх - небудзь перашкод да адкрыцця гуты"*.

Прыстаў 1-га стану Міхаіл Іванавіч Садзікаў 9 кастрычніка агледзеў урочышча Устронь: *"Мясцовасць складаецца са змешанага, звычайна хваёвага, лесу, адстаіць ад г. Ліды за 25 вёрст, ад Ганчарскага валаснога кіравання за 8 вёрст, за ракой Нёманам ад берага 4 вярсты, ва ўрочышчы знаходзіцца невялікая рэчка без назвы, якая выцякае з Наваградскага павета і ўпадае ў раку Нёман. Вакол каля мясцовасці, дзе мае быць завод, знаходзіцца лес, які належыць абшарніку Ленскаму, мяжуе гэты лес з двух бакоў на адлегласці 3 вёрст ад месца меркаванага завода з лесам абшарніка Пашэрганскага, з трэцяга боку, на адлегласці паўвярсты з лесам маёнтка Вашкевічы Ледухоўскага і з чацвёртага боку з берагам р. Нёмана і сенажацямі сялян Ганчарскай воласці. Найбліжэйшыя вёскі знаходзяцца ў Ганчарскай воласці: Астраўна за 1 вярсту, Дуды за 3 вярсты, Ганцавічы і Агароднікі за 4 вярсты, ад лініі чыгункі, якая будуецца, і станцыі Сялец на адлегласці 4 вярсты. Ва ўрочышча знаходзяцца розныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы, якія адстаяць ад меркаванага шклянога завода за 100 сажняў, усе пабудовы, а роўна і лес належаць абшарніку Ленскаму, і якіх-небудзь перашкод да адкрыцця шклянога завода ў разгляданай мясцовасці не знойдзена"* (3. Л. 4-5).

У той жа дзень прыстаў М.І.Садзікаў зрабіў дазнанне: *"Прыпісныя сяляне суседніх вёсак Ганчарской воласці: вёс. Банцавіч Дамінік Рахман, Адам Каламіцкі, Іван Казак, Іван Шут, Міхайла Каламіцкі, вёс. Агароднікаў Казімір Сянкевіч, вёс. Бенявіч Якаў Бянецкі і з в. Дуды Вікенцій Буйніцкі і з с. Ганчары Адам Данейка растлумачылі, што ўрочышча, званае абшарнікам Ленскім Устроня сапраўды ... належыць Ленскаму. У сярэдзіне ўрочышча працякае невялікая рэчка пад назвай "Чорная рэчка", каля якой ... ёсць сенажаць, і што да адкрыцця ў азначаным урочышчы шклянога завода, як лічаць бакі роўна і не можа ніякіх сустрэцца перашкод, бо вакол меркаванага да адкрыцця завода знаходзіцца лес, які належыць абшарніку Ленскаму..."*. Паколькі сяляне былі непісьменнымі, дазнанне падпісаў Ануфрый Іваноў Вільбік.

11 кастрычніка 1883 г. М.І. Садзікаў прадставіў

пратакол у павятовае паліцэйскае кіраванне. Паліцэйскі спраўнік У.О. Казакевіч паведаміў у Віленскае губернскае кіраванне, што Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне *"для адкрыцця завода перашкод не сустракае"*.

14 жніўня 1884 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання адмовіла Ленскаму ў дазволе на адкрыццё завода: *"... абшарнікам Ленскім не прадстаўлены план, без чаго пытанага дазволу на пабудову завода быць не можа. З прычыны гэтага Будаўнічае аддзяленне прапануе Паліцэйскаму кіраванню абвясціць абшарніку Ленскаму, каб ён прадставіў план на запрошваны ім да пабудовы завод"* (3. Л. 7-7 аб.).

10 верасня Зянон Ленскі даў распіску ў тым, што прадстаўленне Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання *"пра нявыдачу мне дазволу на пабудову шклянога завода ў маёнтку Заенчыцах, аж да прадстаўлення мною на згаданы завод плана, мне гэтага дня змест такога ў дакладнасці растлумачаны"* (3. Л. 9-9 аб.). Распіску адбіраў паліцэйскі ўраднік 4-га ўчастка 1-га стану Рафаловіч.

Адмова не збянтэжыла Ленскага, ён працягнуў будаўніцтва гуты. Зянон Антонавіч Ленскі паходзіў з роду Ленскіх гербу "Астоя" Менскага павета. Дзед яго, любавіцкі стараста Павел Ленскі ў 1789 г. набыў маёнтак Вашкевічы. Бацька Антоні Паўлавіч Ленскі (1797-1873) - уладальнік маёнтка Сула быў маршалкам межавага суда Менскага павета, маці Соф'я паходзіла з роду Любіч-Залескіх. Мелі 7 дзяцей: Аляксандра 1836 г.н., Кастуся 1839 г.н., Зянона 1841 г.н., Міхася (1845-1910) і дочак Марыю, Міхаліну і Вільгяльміну. Кастусь і Зянон прынялі ўдзел у паўстанні 1863 г. і былі сасланы *"на жыццё ў меней аддаленыя месцы Сібіры"*. Пасля адбыцця пакарання былі дараваны з вяртаннем правоў і зямельных уладанняў. Зянон у 1873 г. жаніўся з Ганнай Іаахімаўнай Бржазоўскай, затым узяў шлюб з Уладзіславай Здзяхоўскай, з якой меў 4 сыноў: Уладзіслава 1875 г.н., Здзіслава 1877 г.н., Юзафа 1880 г.н. і Станіслава 1887 г.н.

На працягу 1884 г. З.А. Ленскі пабудаваў гуту. У 1885 г на заводзе 15 рабочых вырабілі каля 200 скрынь аконнага шкла і 50000 бутэлек на суму ў 6000 руб. (2. С. 345). У 1886 г. 11 рабочых вырабілі шкляной прадукцыі на 3000 рублёў (5). У 1890 г завод практычна не дзейнічаў, адзін рабочы вырабіў прадукцыі на 150 рублёў (6.Л. 43 аб.).

Узніклыя складанасці і няўдачы вымусілі З. Ленскага ў 1891 г. перадаць гуту ў арэнду Вільгельму Альбінавічу Краеўскаму і Юлію Аўгусцінавічу Столе (1. Ст. 60).

Увосень 1891 г. Віленскае губернскае кіраванне выявіла, што ва Устроні без дазволу дзейнічае гута, і 27 верасня праз лідскага павятовага спраўніка адправіла адносіну ўладальніку. 5 кастрычніка Зянон Ленскі растлумачыў сітуацыю, якая склалася: *"8 гадоў таму назад пры пабудове шклянога завода я звярнуўся да сп. Лідскага павятовага спраўніка ... і атрымаў дазвол, пры тым, як пачаў атрымліваць акладныя лісты і выплачваць казённы збор, то і не клапаціўся пра ... асаблівы дазвол"* (3.Л.11).

Лідскі павятовы спраўнік С.М. Ляўданскі 16 кастрычніка прадставіў у Губернскае кіраванне тлумачэнне З. Ленскага і далажыў, што *"ці быў выдаваны які-небудзь дазвол яму, Ленскаму, папярэднікам маім на права адкрыцця Ленскім шклянога завода звестак сабраць немагчыма з-за знішчэння пажарам, які быў*



*у г. Лідзе ў ноч на 7 дзень гэтага кастрычніка, усіх спраў і папер"* (3.Л.10-10 аб.).

18 кастрычніка губернскі інжынер М.В. Айвазоў прапанаваў Лідскаму павятоваму паліцэйскаму кіраванню: *"Абавязаць абшарніка Зянона Ленскага, каб на працягу 2-х месяцаў з часу аб'явы гэтага выклапаціў бы ўстаноўлены дазвол на ўладкаванне ім шклянога завода ў маёнтку Заенчыцы Лідскага павета, у чым адабраць ад яго падпіску, у адваротным выпадку ўзбудзіць супраць яго судовы перасълед"* (3. Л.13).

5 лістапада Зянон Ленскі даў падпіску, што на працягу 2-х месяцаў выклапаціць дазвол на ўладкаванне гуты. 1 лютага 1892 г. Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне прадставіла ў Віленскае губернскае кіраванне рапарт і падпіску З. Ленскага. Рэзалюцыя на рапарт паліцэйскага спраўніка абвяшчала: *"У выніку сыходу двухмесячнага тэрміну, прызначанага абшарніку Ленскаму на засведчанне ўстаноўленага дазволу на пабудову шклянога завода паведаміць паліцыі пра ўзбуджэнне супраць яго судовага пераследу і хадайнічаць на Судзе пра закрыццё завода надалей да атрымання дазволу. Айвазаў"* (3. Л.12).

У адведзены тэрмін З. Ленскі не ўклаўся: *"... гонар маю растлумачыць, што паводле прадпісання Віленскага губернскага кіравання ад 18 кастрычніка 1891 г за № 789 і выдадзенай мною падпіскі ад 5-га лістапада адносна дазволу на шкляны завод у маёнтку маім Устронь па хадайніцтве майму па цяперашні час яшчэ не атрымаў. 1892 г 10 студзеня. Зянон Ленскі"* (3. Л.15).

І толькі ў траўні 1892 г. З. Ленскі звярнуўся з прашэннем у Віленскае губернскае кіраванне: *"Усепрасвятлейшы, дзяржаўнейшы Вяліківаспан Імпе-*



*ратар Аляксандр Аляксандравіч Самадзержац Усерасійскі, васпан Найусеміласцівы. Просіць абшарнік Зянон Антонавіч Ленскі пра ніжэйзгаданае: Прадстаўляючы пры гэтым праект, знятага з натуры існага шклянога завода ў маёнтку маім Заенчыцы (урочышча Устронь) 1 стану Лідскага павета Віленскай губерні з копіяю з яго, усепадданнейша прашу, каб загадана было праект разгледзець, зацвердзіць і выдаць мне на рукі. Траўня 7- дня, 1892 года. Да падання належыць у Віленскае губернскае кіраванне. Гэтае прашэнне са слоў просьбіта складаў і пісаў мяшчанін Арон Шэбсялеў Арлюк. Абшарнік Зянон Ленскі руку прыклаў. Жыхарства маю ў маёнтку Устронь Лідскага павета 1 стану. 7 траўня 1892 г."*


ВЕЛИКІЙ ГОСУДАРЬ ИМПЕРАТОРЪ
АЛЕКСАНДРЪ АЛЕКСАНДРОВИЧЪ

(4. Л.1).

Да прашэння прыкладаліся план месцазнаходжання завода і чарцяжы яго ўладкавання

12 траўня 1892 г Будаўнічае аддзяленне дало знаць Лідскаму павятоваму паліцэйскаму кіраванню,




***План участка маёнтка Устронь з гутай***



***Схема размяшчэння печаў***

а) вялікая печ для варэння шкла ў гаршках;

b) круглая печ для выпальвання пяску, вапны і іншых матэрыялаў;

с) круглая печ для выпальвання гаршкоў;

d) печы для ацвярдзення гатовых шкляных пасудзін;

e) печ для сушкі дроў;

f) палівы з паднябеннямі і адтулінамі ў іх;

g) ачолкі перад палівамі (гэта прамежкі паміж сценкамі);

h) памост для працоўных.





***Схема размяшчэння печаў***

*"што пасля паступлення ў Губернскае кіраванне прашэння абшарніка Ленскага пра дазвол яму ўладкавання шклянога завода ў маёнтку Заенчыцы, у наш час узбуджэнне крымінальнага судовага пераследу не з'яўляецца неабходным"* (4. Л.3-3 аб.).

Прашэнне З. Ленскага з чарцяжамі праляжала ў Будаўнічым аддзяленні амаль чатыры гады. 2 сакавіка 1896 г службоўцы ўспомнілі пра гуту Ленскага і абавязалі Лідскае паліцэйскае кіраванне неадкладна данесці, ці знаходзіцца завод у дзеянні. 27 сакавіка Лідскі павятовы спраўнік С. М. Ляўданскі рапартаваў, што *"шкляны завод ва ўрочышчы Устронь маёнтка Заенчыцы абшарніка Зянона Ленскага знаходзіцца ў дзеянні"* (4. Л.7).

За гэтыя гады арандатары В.А. Краеўскі і Ю.А. Столе павялічылі вытворчасць шкляной прадукцыі з 10,3 тыс. рублёў у 1891 г. да 89 тыс. рублёў у 1893 г. Быў набыты лакамабіль магутнасцю 10 к.с. Колькасць працоўных узрасла з 52 да 148 чалавек. Рынкавы попыт і фінансавыя поспехі патрабавалі пашырэння вытворчасці: 3 чэрвеня 1894 г. В.А. Краеўскі і Ю. Столе падалі прашэнне на пабудову ўласнай паравой гуты ў маёнтку Магодзіна на зямлі, арандаванай у пані Ганны Смальян, і пасля атрымання дазволу 12 ліпеня прыступілі да яе будаўніцтва (1. Ст. 60).

8 красавіка 1896 г. Віленскае Губернскае кіраванне дазволіла *"існаванне шклянога завода абшарніка Зянона Ленскага"*. 9 красавіка чарцяжы былі зацверджаны губернатарам А.А. Фрэзе, губернскім інжынерам Л. Д. Вінерам і губернскім архітэктарам А.В. Полазавым, 13 красавіка падпісаны адпаведны Указ. 22 красавіка Указ быў паведамлены З. Ленскаму.

*"1896 г красавіка 22 дня я, ніжэйпадпісаны дваранін Зянон Ленскі, даю гэтую распіску ў тым, што Указ Віленскага губернскага кіравання ад 13 гэтага красавіка за № 345 пра тое, што дазволена далейшае існаванне шклянога завода ва ўрочышча Устронь мне гэтага дня абвешчаны, у чым роспісваюся. Зянон Ленскі.*

*Распіску сведчу. Прыстаў 1 стану, подпіс"* (4. Л. 14).

Такім чынам, на 12-ы год існавання завода быў атрымана афіцыйны дазвол на яго дзейнасць.

13 жніўня 1896 г. В. Краеўскі і Ю. Столе завяршылі будаўніцтва гуты ў маёнтку Магодзіна. У 1897 г. у Магодзіна было выраблена бутэлек і посуду на 140 тыс. руб., працавалі 129 чалавек, на заводзе З. Ленскага ва ўрочышчы Устронь працавалі 164 чалавекі, выраблена посуду сталовага, лямпавага, аптэкарскага і прадметаў раскошы на 116,7 тыс. руб. (1. Ст. 60).

28 траўня 1898 г. па суседстве ў маёнтку А.Ф. Квяцінскага Астроўня група гандляроў лесам завяршыла будаўніцтва трэцяй гуты.

21 лістапада 1899 г. губернскі архітэктар А.В. Полазаў і губернскі інжынер Л.Д. Вінер у суправаджэнні Лідскага павятовага спраўніка А.В. Махцэвіча* прыбылі ў м. Заенчыцы для агляду гуты, якая знаходзілася ў арэндзе ў Столе і Краеўскага. Там і быў складзены гэты акт.

*"Акт. 1899 г. лістапада 21 дня. Мы, ніжэйпадпісаныя аглядалі шкляны завод у маёнтку Заенчыцы, урочышча Устронь, 1 стану Лідскага павета Віленскай губерні абшарніка Зянона Ленскага, які знаходзіцца ў арэндным утрыманні ў Юліюса Столе і Вільгельма Краеўскага, пры чым аказалася: шкляны завод у наш час знаходзіцца без дзеяння, печы разабраны і мяркуецца ўладкаванне такіх ізноў; драўляны падстрэшак у дрэнным выглядзе і патрэбна яго ўмацаваць, бо інакш ён можа абрынуцца нават пры моцным ветры. Пры заводзе маецца шліфавальная майстэрня, станкі якой прыводзяцца ў дзеянне лакамабілем; чарцяжа гэтай пабудовы ў справе дазволу ўладкавання завод няма. На падставе вышэйпададзенага мы знаходзім, што пры перабудове завода неабходна выканаць указанні, пазначаныя ў гэтым акце, а на ўладкаваную майстэрню для шліфоўкі прадставіць у Будаўнічае аддзяленне план пабудовы, зняты з натуры. Таксама было заўважана, што ў аддзяленні, дзе знаходзяцца муфельныя печы, апошнія ўтрымоўваюцца не цалкам здавальняльна, роўна як і каміны; у тых і другіх маюцца расколіны, якія патрабуецца неадкладна заладзіць.*

*Губернскі інжынер Вінер.*

*Губернскі архітэктар Полазаў.*

*Лідскі павятовы спраўнік Махцэвіч"* (4. Л. 17).

18 студзеня 1900 г. чальцы Будаўнічага аддзялення прынялі рэзалюцыю па гуце ва Устроні: *"Каб пры перабудове завода былі выкананы ўказанні, пазначаныя ў акце... Пра палажэнні гэтай справы даць ведаць Лідскаму павятоваму спраўніку, прапанаваць яму наглядаць за Ленскім, каб пры перабудове азначанага завода былі ўхілены заўважаныя недахопы і пасля прывядзення завода ў здавальняльны стан было б заяўлена Будаўнічаму аддзяленню на прадмет другаснага агляду завода тэхнікам. Акрамя таго абавязаць Ленскага прадставіць у Будаўнічае аддзяленне на зацвярджэнне чарцёж, зняты з натуры, выбудаванага без належнага дазволу будынка шліфавальнай майстэрні пры заводзе, пра наступны давесці да ведама Будаўнічага аддзялення.*

*За Губернскага інжынера Губернскі архітэктар Полазаў.*

*За Віцэ-Губернатара Старэйшы дарадца подпіс "* (4. Л. 16-18 аб.).

28 красавіка 1900 г. З. Ленскі даў распіску Лідскаму павятоваму спраўніку ў тым, што *"адносіна Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання ад 26 мінулага студзеня за № 125 мне гэтага дня ў поўным змесце абвешчана і патрабаванне яе абавязваюся выканаць у найкароткі тэрмін, у тым і роспісваюся. З тым жа тлумачэннем, што па ўмовах кантракту з арандатарамі спсп. Столе і Краеўскім, усе перабудовы і папраўкі яны абавязаны рабіць, а я не маю права распараджацца на працягу тэрміну арэнды. З. Ленскі"*(4. Л. 20).

У жніўні 1900 г. В.А. Краеўскі і Ю.А. Столе купілі завод у Астроўне. У красавіку 1901 г. яны спынілі ўсе работы на гуце З. Ленскага.

12 снежня 1901 г. Будаўнічае аддзяленне прадпісала Лідскаму паліцэйскаму кіраванню абавязаць В. Краеўскага і Ю. Столе неадкладна падаць на зацвярджэнне чарцёж выбудаванага без належнага дазволу будынка шліфавальнай майстэрні пры шкляным заводзе ва ўрочышча Устронь, а таксама апавясціць ці ўхілены недахопы на заводзе.

Вось тлумачэнне В.А. Краеўскага і Ю.А. Столе: *"1901 года, снежня 28 дня мы, ніжэйпадпісаныя шкляных заводаў Нёман А і Нёман Б на прад'яўленае нам прадпісанне Будаўнічага аддзялення Віленскага Губернскага кіравання ад 12 снежня за № 2144 гэтым гонар маем растлумачыць, што на шкляным заводзе ва ўрочышча Устронь усе работы спынены, і завод застаецца зачыненым з красавіка месяца г. г. Шліфавальная майстэрня згарэла ва Устроні ў студзені*

* А.В. Махцэвіч - першы муж вядомай лідскай дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай.

*месяцы г.г. і іншай пабудавана не было. Усе будынкі былога завода ва Устроні цяпер знаходзяцца ў распараджэнні ўладальніка Ленскага.*

*Краеўскі і Столе. Подпіс сведчу.*

*Прыстаў, подпіс"* (4. Л. 23).

Гута З. Ленскага функцыянавала 15 гадоў з 1885 г. да 1899 г. Не думаю, што арандатары Краеўскі і Столе ў 1900 г. збіраліся аднаўляць печы, завод ва Устроні ім быў непатрэбны, у іх у працы быў завод у Магодзіна, і вяліся перамовы пра куплю новага завода ў Астроўне.

11 студзеня 1902 г. в.а. губернскага інжынера М.М. Прозараў звярнуўся да Лідскага павятовага спраўніка з адносінай: *"Запытаць уладальніка шклянога завода ва ўрочышчы Устронь Ленскага, ці будзе ён перабудоўваць азначаны завод, частка якога згарэла"*. Спраўнік Мікалай Іванавіч Салаўёў перадаў 6 лютага запыт прыставу 1-га стану да выканання. 16 сакавіка прыстаў Сяргей Яхімавіч Астравумаў паведаміў: *"Уладальнік шкловарнага завода ва ўрочышчы "Устронь" Зянон Антонавіч Ленскі, са свайго маёнтка, увосень мінулага года адлучыўся невядома куды, не пакінуўшы на месцы намесніка; пра месца жыхарства яго збіраліся звесткі і выяўлена, што ён у наш час пражывае ў горадзе Менску па Скобелеўскай вуліцы ў доме пад № 8, таму патрабаванне Віленскага губернскага кіравання яму не прад'яўлена.*

*Прыстаў Астравумаў*".

Адносіна была накіравана ў Менск, адкуль 2 красавіка 1902 г. З.А.Ленскі адказаў адназначна: *"Маю гонар растлумачыць, што згарэлага шклянога завода ў м. Устронь я ўладкоўваць ці перабудоўваць (...?) не буду, у чым падпісваюся. Зянон Ленскі"*.



Прыпіска: *"9 красавіка 1902 г. Гэтае даручэнне па выкананні маю гонар прадставіць у Лідскае гарадское паліцэйскае кіраванне сп. Лідскаму павятоваму спраўніку.*

*Прыстаў. Подпіс. № 7408, красавіка 4 дня, 1902 г."* (4. Л. 27).

19 красавіка 1902 г Лідскі павятовы спраўнік Н.І. Салаўёў адправіў перапіску і распіску З. Ленскага ў Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання.

**Першакрыніцы:**

1. Герасімовіч М.Ф. Шклозавод "Нёман"// Лідскі летапісец. 2007. № 2 (38).

2. Указатель фабрик и заводов Европейской России. Материалы для фабрично-заводской статистики. Составили П.А. Орлов и С.Г. Будагов. СПб. 1894.

3. LVIA. Ф.382. Оп. 1. Д. 1183. Дѣло Виленскагo Губернскагo Правления по рапорту Лидскагo уѣзднагo Полицейскагo Управленія о разрешеніи помъщику Ленскому постройки стеклянного завода въ именіи Заенчицы Лидскагo уѣзда.

4. LVIA. Ф.382. Оп.2. Д.742. Дѣло Виленскагo Губернскагo Правления по прошенію помъщика Зенона Антоновича Ленскагo, о разрѣшеніи существованія стекляннагo завода въ имънии его Заенчицы/урочище Устронь Лидскагo уѣзда.

5. LVIA. Ф 388. оп 1. д.871 - Дело о представлении в Министерство финансов ведомостей о деятельности фабрик и заводов по Виленской губернии за 1886 г.

6. LVIA. Ф 388. оп 1. д.920 - Дело о представлении в Министерство финансов ведомостей о деятельности фабрик и заводов по Виленской губернии за 1890 г.

*lida.info.*

*Леанід Лаўрэш*

# Прыходы ў Голдаве і Бабрах

Верагодна, на сёння, найбольш поўную гісторыю Голдава напісаў выдатны беларускі гісторык Герман Брэгер. Вядома, што ў XV-XVII ст. гэты населены пункт у дакументах мае назву "Овдово" ці "Олдово". У XV-XVI ст. каля вёскі існавала некалькі маёнткаў з гэтай жа назвай. Адзін з маёнткаў Голдава пры вялікім князі Казіміры Ягайлавічы (памёр у 1492 г.) уваходзіў у склад вялікакняскага Беліцкага павета, які па прывілеях караля трымалі беліцкія баяры Шымка і Барташ Ганусавічы. Потым кароль Казімір надаў Голдава гаспадарскаму баярыну Герману Дзетрыховічу (Дзітрыковічу), а беліцкім баярам узамен даў землі ў Ваўкавыскім павеце. Аднак, браты Ганусавічы не атрымалі ад Казіміра пацвярджальных дакументаў, і вялікі князь Аляксандр адабраў у іх землі. Тады баяры Ганусавічы пачалі аспрэчваць у Дзітрыковіча Голдава, як ранейшае наданне караля Казіміра, і ў 1498 г. Аляксандр пацвердзіў ім валоданне маёнткам.

У 1495 г. берасцейскі намеснік Сенька (Сямён) Алізаравіч купіў двор Голдава ў жалудоцкага баярына Пятрашкі Міхайлавіча, гэтую пакупку яму пацвердзіў вялікі князь Аляксандр.

Тады ж, іншы маёнтак Голдава належаў васілішскім баярам Ваську і Івану Міхайлавічам (верагодна, братам Пятрашкі) і іх стрыечнаму брату Станку Дашкавічу. Іван узяў за сына гаспадарскага пісара Ігната Мікіціпіча, якому і запісаў па сваёй смерці сваю частку маёнтка. Васька Міхайлавіч і Станка Дашкавіч пазычылі ў Ігната пэўную суму грошай, аднак, у тэрмін не вярнулі, і ў 1503 г. яму былі перададзены ў валоданне іх часткі маёнтка за доўг. Ігнат Мікіціпіч з жонкай Марынай, не маючы дзяцей, узялі сабе за сына гаспадарскага маршалка - усынавілі астрынскага дзяржаўцу Аляксандра Іванавіча Хадкевіча і ў 1518 г. запісалі яму і яго старэйшаму сыну Івану маёнтак Голдава. У 1526 г. А. І. Хадкевіч прыкупіў да Голдава фальварак Няцеча (зараз вёска ў Лідскім раёне) і іншыя землі і лясы ў навакольных баяраў. На жаль, далейшую гісторыю гэтага маёнтка Голдава адсачыць не ўдалося.

Ёсць яшчэ звесткі пра той другі маёнтак Голдава, які купіў С. Алізаравіч.

Памёр ён каля 1506 г. і пакінуў пасля сябе адзінай дачцэ Настассі Сямёнаўне Алізараўне ўсе свае маёнткі, у тым ліку і Голдава. Спачатку яна выйшла замуж за князя Януша Міхайлавіча Сангушку-Ковельскага, а пасля яго смерці (паміж 1516 і 1520 г.) - за князя Івана Міхайлавіча Вішнявецкага, будучага эйшышскага, а потым чачэрскага і прапойскага дзяржаўцу. Паміраючы, Настасся Алізараўна запісала трэцюю частку сваіх маёнткаў, у тым ліку і Голдава, мужу, якому ў 1538 г. кароль пацвердзіў гэты запіс. Тады ж князь І. М. Вішнявецкі ажаніўся ў другі раз з Магдаленай Дэспатаўнай, якой запісаў ва ўласнасць Голдава і іншыя маёнткі. Па смерці мужа ў 1542 г. Магдалена Дэспатаўна неўзабаве выйшла замуж за сына луцкага старасты князя Аляксандра Фёдаравіча Чартарыйскага, будучага валынскага ваяводу і ў 1551 г. запісала Голдава мужу. У 1569 г. князь А.Ф. Чартарыйскі перад смерцю напісаў тастамант, якім маёнтак Голдава перадаваў у пажыццёвае валоданне сваёй жонцы, пасля смерці якой уладанне павінна было перайсці на карысць іх сына князя Міхайлы Чартарыйскага. У 1571 г. памерла і ўдава, але ў яе тастаманце Голдава не фігуруе, бо, верагодна, яго ўжо трымаў сын князь Міхайла, які ў сваю чаргу напісаў тастамант у 1582 г., але і ў гэтым дакуменце Голдава няма. Ёсць звесткі, што ён прадаў маёнтак у 1581 г. саноцкаму кашталяну пану Трызне. З тых часоў род Трызнаў валодаў Голдавам больш за сто гадоў.

Трэба яшчэ дадаць, што побач з гэтым маёнткам існаваў яшчэ адзін, невялікі маёнтак Голдава, які ў 1567 г. належаў былому васілішскаму зямяніну (пасля рэформы 1565 г. - лідскаму) Яроцкаму Яраславічу Станкевічу, а потым нейкаму яго сваяку - лідскаму зямяніну Войцаху Янавічу Станкевічу, якому ў 1571 г. кароль дазволіў пабудаваць у маёнтку вольную карчму.

Такім чынам маёнтак Голдава ў канцы XVI ст. купіў ў Чартарыйскіх каралеўскі дваранін Ян Рыгоравіч Трызна. У 1613 г. яго сыны Адам і Аляксандр (будучы лідскі падкаморы) падзялілі паміж сабой бацькоўскія ўладанні. Першаму дастаўся маёнтак Лебяда (зараз вёска ў Лідскім раёне), другому - маёнтак Голдава. Голдава, акрамя панскага маёнтка, было тады мястэчкам з царквой Св. Спаса, якую заснавалі і надзялілі фундушамі продкі братоў Трызнаў. У 1633 г. Аляксандр Трызна заснаваў пры Голдаўскай царкве кляштар. Паміраючы бяздзетным, ён запісаў маёнтак Голдава ў пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Хрысціне Швяйкоўскай[1].

У сваім тастаманце лідскі падкаморы Аляксандр Трызна запавядаў жонцы заснаваць у маёнтку Голдава пры царкве, дзе ён прасіў сябе пахаваць, невялікі манастыр і даручыць тую царкву з манастыром у апеку манахам віленскага манастыра Св. Духа. А за гэта ён даручыў ёй адвесці віленскім манахам 3 моргі зямлі і аддаць пляц з домам у Навагрудку на Ковенскай вуліцы. Сама ж яна магла карыстацца маёнткамі, якія засталіся ад мужа, кожны год выплачваючы голдаўскім манахам 200 злотых, а перад сваёй смерцю - яшчэ і аддаць ім у вечнае карыстанне свой фальварак або заплаціць за яго 3000 злотых.

Хрысціна выканала волю мужа часткова: перадала Свята-Духаўскім манахам 3 моргі зямлі і пляц з домам у Навагрудку. Аднак, хутка ўзяўшы другі

[1] Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 90-91.

шлюб, 200 злотых за 1634 г. не выплаціла, а пакінутыя ў спадчыну маёнткі мужа прадала. Справа дайшла да суда з віленскім манастыром[2].

У 1634 г. маёнтак Голдава выкупіў брат нябожчыка Адам Трызна разам са сваёй жонкай, княжной Альжбетай Друцкай-Горскай. У пачатку 1660-х г. Голдавам валодаў іх сын Казімір Крыштаф Трызна, які развёўся са сваёй жонкай Ганнай Ломскай і, стаўшы манахам, узначаліў Свята-Духаў манастыр у Вільні, а ў 1680 г. быў абраны праваслаўным епіскапам. У манастве ён вядомы як Клеменс (Клемент) Трызна. У 1680 г. кароль Ян III Сабескі пацвердзіў мястэчку Голдава старажытныя прывілеі на гандлі і кірмашы.

У 1685 г., перад сваёй смерцю, Клемент Трызна запісаў Голдаўскаму праваслаўнаму манастыру фундуш на землі і сялян. Пасля Трызны Голдавам валодала яго сястра Тэадора Соф'я Трызнянка, жонка Мікалая Стэфана Паца. У 1690 г. уладальнікам маёнтка быў ужо ваўкавыскі стольнік Уладзіслаў Юры Трызна, які памёр пасля 1714 г. Голдава апынулася ў валоданні розных застаўных пасэсараў[3], у якіх у 1718 г. маёнтак выкупіў троцкі падсудак Францішак Міраслаў Вянцковіч.

У гэтым жа годзе Голдаўскі манастыр разам з царквой стаў уніяцкім, і ў 1721 г. Францішак Вянцковіч запісаў Голдаўскаму базыльянскаму кляштару фундуш на зямлю і сялян[4]. Дачка гаспадара Голдава Мар'яна Вянцковіч выходзіць замуж за ўладальніка Ішчалны Юзафа Валя, і яны разам, на ўласныя грошы на месцы старога драўлянага касцёла ў Ішчалне будуюць прыгожы барочны мураваны парафіяльны касцёл. Гэты касцёл стаіць да нашага часу[5].

У 1762 г. маёнтак Голдава ў якасці пасагу па жонцы атрымаў скарбнік ВКЛ Антон Важынскі. У 1791 г. маёнткам валодаў яго сын (па іншай версіі - малодшы брат) Фелікс Важынскі, які на месцы занепалага манастыра пабудаваў новую царкву[6].

**Голдаўская царква**

Магчыма, першая царква з'явілася ў Голдаве яшчэ ў XV ст.

З візітацыі 1784 г. даведваемся, што тут знаходзіцца *"Царква пад тытулам Launch Пэратварэння Панскага і нараджэння Панны Марыі фундацыі ЯВп Вянцковіча, падсудка Троцкага. У каляцыі ... ЯВп Антона і Тарэзы з Вянцковічаў Важынскіх, скарбнікаў ВКЛ"*[7]. Да канца XVIII ст. царква знаходзілася ўжо ў дрэнным стане: *"Драўляная, цалкам парушана, саломай крытая, з трыма жалезнымі крыжыкамі ... Столь і паддашак зруйнаваныя, вокны пабітыя і закрытыя дошкамі"*[8].

З каштоўных кніг у царкве мелася старое друкаванае напрастольнае Евангелле без вокладкі[9]. Каля храма меліся *"неагароджаныя могілкі. Два сапсаваныя званы замкнуты ў бабінцы, вагой 4 камяні. Сігнатурка ў купале - 2 фунты"*[10] і *"стары шпіталь, крыты саломай, з каморай і сенямі. Дзед і адна баба, якія тут жывуць ... з ласкі двара. Фундушу няма"*[11].

Дакументы царквы загінулі ў пажары згарэлі ці знаходзяцца *"ў Голдаўскім двары"*[12]. Святары царквы яўна знаходзіліся ў канфлікце з дваром, бо: *"Фундушовай раллі і сянажыці няма ... забраны дваром. ... Дакументы ... ў пажары згарэлі ці ў Голдаўскім двары ... ЯВп Важынскі ... падчас генеральнай візіты не дазволіў скласці спіс парафіі"*[13].

У 1784 г. Голдаўская царква мела капліцу: *"Капліца на зямлі ЯВ паноў Шукевічаў, капітанаў ЯКм, Бярэзінічы* (потым Бярозавец - каля Канюшан, на карце сярэдзіны XIX фальварак Бярозавец, на карце 1929 г. двор Бярозаўка, зараз гэтага населенага пункта не існуе - *Л.Л.*). *Драўляная, старая, адрамантаваць немагчыма, мае мала начыння, афіляваная да Голдаўскай царквы"*[14].

У візітацыі 1792 г. мы ўжо бачым новую царкву: *"Царква пад тытулам Нараджэння Насвяцейшай Панны, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, у фундацыі і каляцыі ЯВп Важынскіх, скарбнікаў ВКЛ, зараз у ЯВп Важынскіх, палкоўнікаў Жмудскіх, старастаў Тыркшлеўскіх* (каля Цельшаў, Ковенскага ваяводства - *Л.Л.*). *Драўляная, з брусаванага ... дрэва, нанава добра пабудаваная, крытая гонтай, з двума купаламі, з якіх адзін з жалезным крыжам над фацыятай"*[15]. Падрабязнае апісанне царквы гл. у дадатках.

Гэтая царква стаіць на Лідчыне і сёння і з'яўляецца выдатным узорам беларускага народнага мастацтва. Сучасная царква Нараджэння Багародзіцы была пабудавана ў Голдаве да 1792 г. (дата пабудовы ва ўсіх даведніках - 1795 г., памылковая) з дрэва на месцы манастыра. Перад царквой устаноўлена двух'я-

---

[2] Макарий. История Русской церкви. Т. 5. отдел 1. глава 4. [Электронный ресурс] - Рэжым доступу: azbyka.ru/otechnik/Makarij_Bulgakov/istorija-russkoj-tserkvi/5_5 - Дата доступу: 12.01.2019.

[3] Застаўны пасэсар (лац. possesio) - уладальнік зямлі паводле права закладавага валодання (застаўны - закладны).

[4] Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 91.

[5] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 13.

[6] Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 91.

[7] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 101.

[8] Там жа. А. 101-А. 101 адв.

[9] Там жа. А. 102.

[10] Там жа. А. 102 адв.

[11] Там жа.

[12] Там жа.

[13] Там жа. А . 102 адв -103.

[14] Там жа. А. 127 адв.

[15] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 19.

русная шатровая званіца каркаснай канструкцыі. На званіцы прымацаваны тры званы розных памераў: вялікі 1991 г., сярэдні 1928 г.; на малым звоне дата вырабу адсутнічае. Званіца як і царква - помнікі беларускага народнага драўлянага дойлідства.

Асаблівую цікавасць уяўляюць два каваныя крыжы, устаноўленыя на цыбулепадобнай галоўцы і над апсідаю. Па форме крыжоў бачна, што царква будавалася як уніяцкая - яны маюць традыцыйную нацыянальную форму. Крыжы ўніяцкіх цэркваў звычайна вылучаюцца ажурнасцю, багаццем дэкору, глыбінёй сімвалічнага зместу. Уніяцкая царква - народная царква (у канцы XVIII ст. да 80% беларускіх сялян былі ўніятамі), і таму яе атрыбутыка ўтрымлівае шматлікія элементы традыцыйнай народнай культуры. Круглы дыск на месцы перакрыжавання разам са звілістымі палоскамі (ззяннем) сімвалізуе сонца, прамяні святла. Унізе - паўмесяц, сімвал ночы. Так увасабляецца ідэя перамогі жыццесваральнай сілы Бога над цемрай, перамога дабра над злом. Тры крыжыкі на канцах вялікага крыжа сімвалізуюць Святую Тройцу[16].



***Голдаўская царква ў пачатку XX стагоддзя***

У 1792 г. капліцы ў Бярэзінічах (Бярозаўцы) ужо няма.

Паведамлялася, што ў Голдаўскай царкве захоўваўся старажытны абраз Божай Маці візантыйскага стылю[17]. У візітацыі апісаны толькі адзін гэтакі абраз, левы, бакавы алтар *"з абразом Найсвяцейшай Панны ў штуцы упрыгожанай разьбой, у срэбных шатах з пазалочанай каронай, на абразе Панна паказвае на сэрца, з гербам Вянцковічаў - стралой"* [18].

Ніякай зямлі, акрамя гароду, плябанія не мела: *"Святар жыве на грошы, якія выплачвае двор і за кошт штогадовых памерных выплат з ардынацыі. Зямля плябаніі і падданых .. была забрана пасля фатальнай смерці тры гады таму вялебнага святара Ігната Ханкоўскага, адміністратара Голдаўскай царквы ... ніякі судовы працэс не быў пачаты ... Ніякіх дакументаў у плябаніі няма, часткова згарэлі праз пярун, а часткова забраны дваром ранейшымі калятарамі"*[19]. Голдаўскі святар, акрамя 250 злотых, атрымліваў на ануаты[20] хлеб, соль, парсюка, бараноў, масла, сыры, селядцы, алей, парасятаў, гусакоў, качак, курэй, сена, гарэлку, салому, цёрты мак, свечкі, воск[21] - праз сто гадоў тое самае атрымліваў ад абшарніка і праваслаўны святар (гл. далей).

Вядомы наступныя грэка-каталіцкія святары Голдаўскай царквы.

Тадэвуш Пятровіч, у 1771 г. святар царквы ў мястэчку Голдава, у 1766 - 1775 гг. лідскі дэкан[22].

Якуб Жухавецкі, высвечаны мітрапалітам Ф.-П. Валадковічам ў 1771 г., 1771 - 1784 гг. вікарый царквы ў Голдаве. З 17.02.1784 па 07.05.1784 г. адміністратар царквы ў Лідзе[23].

Ян Савіч, сын Лявона, нарадзіўся ў 1753 г. У 1775 г. высвечаны і інсталяваны мітрапалітам Ф.-П. Валадковічам. З 1776 г. святар царквы ў в. Сенна Наваградскага павета, у 1784 г. адміністратар царквы ў м. Голдава, пасля - навагрдскі дэкан[24].

Рыгор Шыманскі, у 1778 г. перайшоў з Пінска-Тураўскай епархіі ў Кіеўска-Віленскую, у 1784 г. вікарый царквы ў м. Голдава[25]. Гэты святар узгадваецца ў візітацыі 1784 г.

Ігнат Ханкоўскі, у 1790 г. памёр на пасадзе ад-

[16] Лакотка А. І. Нацыянальныя рысы Беларускай архітэктуры. Мінск, 1999. С. 67.

[17] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 100.

[18] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 19.

[19] Там жа. А. 20.

[20] Ануаты - штогадовая рэнта.

[21] Литовские епархиальные ведомости. 1870. № 5.

[22] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. Мінск, 2015. С. 436.

[23] Там жа. С. 246.

[24] Там жа. С. 464.

[25] Там жа. С. 573.

[26] Там жа. С. 528.

міністратара царквы ў м. Голдава[26].

Ян Мыслевіч. У 1791 г. высвечаны пінска-тураўскім біскупам Г. Дашковічам-Гарбацкім, у 1781-1784 гг. вікарый у царкве в. Ганчары, у 1784 г. адміністратар царквы ў в. Мыто, у 1792-1795 г. адміністратар царквы ў мястэчку Голдава. *"Звычаяў ухвальных, навук сярэдніх"* [27]. Гэты святар служыў у царкве падчас візітацыі 1784 г.

Давыд Кургановіч, у 1795 г. адміністратар царквы ў Лідзе, у 1832 г. адміністратар царквы ў в. Голдава, *"звычаяў ухвальных, мае веды ў маральнай тэалогіі"* [28].

З паслужных спісаў уніяцкага духавенства ад 1828 г., даведваемся пра а. Давіда Вашылу: *"З святарскай сям'і Гродзенскай губерні Кобрынскага павета. Ад роду мае 52 гады. Навучаўся ў Брэст-Літоўскім вучылішчы (экс-езуіцкім), скончыў 3 класы. Уступіў у духоўнае званне 4 красавіка 1804 г. прасвітарам у горад Ліду ... і там займаў парафіяльную пасаду па 1813 г. 27 студзеня 1813 г. пераведзены ў Голдава таго ж Лідскага павета. Дэпутат судоў Лідскага павета па духоўнай частцы з 1810 г. і зноў зацверджаны на гэтай пасадзе ў 1822 г. Камандзіраваны духоўным следчым (*інстыгаратам - *Л. Л.) Неаднаразова камандзіраваўся у розныя месцы для правядзення духоўных следчых спраў. Удоў. Дзяцей не мае"* [29].

А. Ян Навіцкі, нарадзіўся ў 1805 г., у 1837 г. святар царквы ў м. Голдава[30].

Пасля смерці Фелікса Важынскага маёнтак перайшоў да яго сына Антона (1788 - 1880?). У 1820 г. Францішка, дачка чарговага уладальніка Ішчалны, віца-маршалка Лідскага павета Караля Лясковіча, дзяўчына, якая прыгожа спявала і грала на арфе рускаму цару Аляксандру І, калі той наведаў Ішчалну, выйшла замуж за суседа з Голдава Антона Скарбак-Важынскага гербу Абданк, пазнейшага маршалка Лідскага павета. Гэтак злучыліся два маёнткі - Ішчална і Голдава[31].

У 1822 г. памёр Караль Лясковіч, і панамі на Ішчалне сталі Важынскія. Голдава знаходзіцца за 3 мілі (22 км) ад Ішчалны. Пра асобу Францішкі з Лясковічаў Важынскай - жанчыны, якая ўспадкавала ўсю маёмасць свайго бацькі, у памяці суседзяў нічога, апрача яе вакальна-музычных здольнасцяў, не захавалася. На партрэтах, якія да 1939 г. захоўваліся ў Ішчалне, Францішка мела выгляд звычайнай жанчыны, чыя першая маладосць ужо прайшла, а яе муж Антон быў намаляваны высокім і прыстойным мужчынам ў гадах[32].

Антон Скарбак-Важынскі з'яўляўся гаспадаром маёнткаў Пабаляны ў Шавельскім і Ішчалны з Голдавым у Лідскім паветах. У паўстанні 1831 г. асабіста ўдзелу не прымаў, але яго Голдава два разы было месцам канцэнтрацыі паўстанцкіх аддзелаў, якімі камандавалі генералы Хлапіцкі і Тышкевіч, і як павятовы маршалак шляхты 30 траўня 1831 г. у Лідзе ён пачаставаў сытым сняданкам шматтысячнае войска паўстанцаў[33].

Ігнат Дамейка ўспамінаў: *"Лідскі павятовы маршалак Важынскі запрасіў на снеданне генералаў Хлапоўскага і Тышкевіча ды шматлікі эскорт афіцэраў, было даволі віна і патрыятычных парываў. Тут я лепш пазнаёміўся з генералам Хоапоўскім і даўжэй з ім размаўляў"* [34].

Антон і Мар'яна Скарбак-Важынскія мелі аднаго сына Баляслава, які жаніўся на суседцы з вялікага Мажэйкава Марыі Грабоўскай. Баляслаў і Марыя мелі чатырох дзяцей: рана памёршага сына Баляслава[35] і тры дачкі: Зоф'ю, Марыю і Ізабелу. Жылі яны шумна, з вялікімі выдаткамі, і таму грошай з двух маёнткаў не хапала. Калі сюды дадаўся карцёжны азарт Баляслава, дык неўзабаве сям'я мела ўжо шмат даўгоў. Каля 1880 г. Баляслаў, не маючы чым заплаціць картачныя даўгі, учыніў самазабойства. Убачыўшы мёртвага мужа, тут жа каля яго ад інфаркту памерла і жонка. Тры дачкі засталіся сіротамі. Апеку над імі прыняў родны брат маці граф Станіслаў Грабоўскі - уладальнік Вялікага Мажэйкава, даўнейшай маёмасці Хадкевічаў. Гэтак граф Станіслаў Грабоўскі на нейкі час пачаў кіраваць трыма вялікімі маёнткамі[36].

Галоўнай задачай апекуна было выхаванне дзяўчынак і выратаванне маёнткаў. Апеку над пляменніцамі ўзяла на сябе родная цётка Аскерка з Грабоўскіх, а матэрыяльнымі справамі кіраваў Станіслаў Грабоўскі. Першай справай Станіслава Грабоўскага быў зварот да крэдытораў - яны павінны былі прад'явіць свае прэтэнзіі. Даўгі аказаліся вельмі вялікімі, але не безнадзейнымі. Апякун падзяліў іх на дзве групы: у першую ўвайшлі грунтоўныя даўгі - падаткі, выплаты грошай за працу, пазыкі, у другую - карцёжныя даўгі. Даўгі з першай групы граф сплаціў з улас-

[27] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 387.

[28] Там жа. С. 327.

[29] Архив Лидского благочиния. Ф. 1., Оп. 1., Д. 9. Арк. 245.

[30] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 391.

[31] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 15.

[32] Там жа. S. 16.

[33] Там жа. S. 176.

[34] Ігнат Дамейка. Мае падарожжы. Мінск, 2002. С. 29.

[35] Баляслаў, адзіны мужчына ў сям'і, сын Баляслава Важынскага, памёр з-за сухотаў. Яму нават не дапамагло лячэнне ў Швейцарыі.

[36] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 16-17.

ных сродкаў, выплаты па даўгах з другой групы расклаў на шмат гадоў з мінімальнымі працэнтамі ці наогул ануляваў.

Наступным крокам стала існаванне ў рэжыме эканоміі. У Ішчалне і Голдаве запанавала амаль што кляштарная ціша. З-за адмены паляванняў і з'ездаў Грабоўскі цалкам разлічыўся з паляўнічымі і лоўчымі, ліквідаваў псярню з псярамі і г.д. Адміністрацыю абодвух ключоў - Ішчалнянскага і Голдаўскага, граф даручыў свайму эканому. За мажэйкаўскія грошы яму ўдалося захаваць інвентар і ўсе фальваркі.

Эканомія, аднак, не датычыла выхавання пляменніц. Дзяўчаты атрымалі старанную дамашнюю адукацыю, валодалі французскай, нямецкай і англійскай мовамі. Пасля здачы экстэрнам экзаменаў за курс гімназіі, атрымалі вышэйшую адукацыю. Дзве з іх: Марыя і Зоф'я мелі ступені дактароў - медыцыны і гуманітарных навук, трэцяя вывучала мастацтва.

Калі апякунства дзядзькі стала ўжо непатрэбным, маёнткі цалкам ужо не мелі даўгоў. Станіслаў Грабоўскі з-за сваёй гаспадарлівасці і шляхетнага сэрца цешыўся павагай як сярод землеўладальнікаў, гэтак і сярод сялян, аднак сваёй сям'і не меў. Памёр без нашчадкаў у Парыжы падчас Першай сусветнай вайны[37].

Аніводная з сясцёр Важынскіх не выйшла замуж, усе памерлі паненкамі ў часы Першай сусветнай вайны: Зоф'я ў 1917 г. у Хельсінкі, Ізабела ў 1916 г. у Вільні, а самая малодшая Марыя развіталася з гэтым светам 20 лютага 1920-га года ў Варшаве.

На падставе судовага выраку, маёнткі, якія пасля іх засталіся, атрымалі дальнія сваякі: Ішчална адышла Лясковічам, а Голдава - нашчадкам па пабочнай лініі Антона Скарбак-Важынскага[38].

Перад 1914 г. Важынскія валодалі двума ключамі - Ішчална (3 200 гектараў) і Голдава (каля 2 000 гектараў). Маёнтак Голдава з 1 500 - 2 000 га успадкаваў уладальнік маёнтка Табарышкі з Віленшчыны Юзаф Скарбак-Важынскі і тры браты Валейкі. Трэба ўзгадаць, што падчас калядных вакацый 1902 г. у Лябёдцы Іваноўскіх Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія, а таксама Вінцэнт Валейка з братамі Антонам і Станіславам на гектографе, накладам 200 асобнікаў, надрукавалі першую беларускую газету XX-га ст. На тытульным аркушы часопіса значылася: "Свабода, № 1, 1903 г.".[39]

**Але вернемся да царквы.** 30 гадоў, з 1851 па 1881 г., у Голдаўскай царкве служыў а. Антон Іванавіч Амельяновіч. Сын дыякана, ён закончыў вучылішча дыяканаў у Жыровічах і з 1846 па 1851 г. служыў дыяканам у Лябёдскай царкве. Пасля Голдава, у 1881 г. а. Антона перавялі ў Лідскую царкву, пасля чаго, у 1902 г. - у Лябёдскую.

Пры канцы XIX ст. царква мела 3 дзесяціны зямлі, ад гаспадароў маёнтка, як і ранейшы грэка-каталіцкі святар, праваслаўны святар меў "ругу"[40], якая складалася з грошай (37 руб. 50 кап.) і натуральных прадуктаў: 7 бочак жыта, 4 - ячменю, 5 - аўсу, 1 і 2/8 бочкі гароху, 3/8 бочкі бабоў, 18 вазоў мурожнага сена, 15 вазоў яравой саломы; корм для 1 парсюка, 2 вяпрукоў, 4 бараноў; дзве чвэрці ялавічыны, 24 гарнцы солі, 24 гарцы гарэлкі, 5 гарнцаў французскага віна, 6 гарнцаў масла, 2 капы сыроў, 3 капы селядцоў, 6 парсючкоў, 4 гусі, 4 качкі, 8 кур, 4 гарнцы маку, 12 фунтаў сталовых сальных свечак і 1 пуд жоўтага воску для царквы. З 1885 г. псаломшчык пачаў атрымліваць ад маёнтка 1/4 "ругі" святара. Парафія мела 189 двароў, 755 мужчын і 773 жанчын[41].

Акрамя апісанай вышэй, на Голдаўскіх могілках існавала драўляная царква святых Канстанціна і Алены, пабудаваная ў 1867-1870 г. на сродкі мясцовага святара Канстанціна Самсонавіча Брэна, царква згарэла ў 1970-я г.[42] Прэса паведамляла, што *"Лідскі дабрачынны Брэн паведаміў у кансісторыю, што 29 чэрвеня (1867 г.), у свята Св. Апосталаў Пятра і Паўла, пасля ўрачыстай літургіі, пры невялікай колькасці народу, была асвечаная закладка мураванай царквы на могілках сяла Голдава ў імя Св. роўнаапостальных цароў Канстанціна і Алены"*[43]. Новая царква была высвечана 8 верасня 1870 г.[44]

У 1869 г. Канстанцін Брэн стаў памочнікам новага лідскага дабрачыннага Іосіфа Каяловіча[45]. У 1908 г. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства" надрукаваў некралог па протаіерэі Яраславе Брэне (1844-1908), сыне Голдаўскага святара Канстанціна Брэна і ўнуку першага праваслаўнага дабрачыннага і ліквідатара уніі на Лідчыне Самсона Брэна[46].

Святара Голдаўскай царквы ў 1927 г., па інфармацыі канфідэнтаў, лідская паліцыя характарызавала наступным чынам: *"Кудасаў Уладзімір, пробашч у Голдаве з 17.12.1924 г., рускі, не мае польскага грамадзянства. Да маральнага стану заўваг няма, палітычна не пэўны, непрымальны для польскай улады, перакананы вораг каталіцкага касцёла"*[47].

Некаторую інфармацыю пра Голдава можна знайсці ў газетах 1920-30-х гг. Пры канцы 1920-х гг.

[37] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 182-183.

[38] Там жа. S. 17.

[39] Гл: Лаўрэш Леанід. Іваноўскія і Валейкі // Наша слова, № 39 (1398), 26 верасня 2018.

[40] Заробак святарам з казны ці з даходу ўладальніка маёнтка.

[41] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильно, 1893. С. 24.

[42] Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 91.

[43] Литовские епархиальные ведомости. 1867. № 17.

[44] Литовские епархиальные ведомости. 1870. № 18.

[45] Литовские епархиальные ведомости. 1869. № 21.

[46] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства 1908. №6. С. 128-131.

[47] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 184.

людзі, якія мелі сталую працу, пачалі нядрэнна зарабляць. Напрыклад, пра добрыя заробкі працоўных лясной фірмы Айзенштадта і Шарашэўскага, якая месцілася ў Голдаве, пісаў вясковы карэспандэнт газеты "Грамадзянін", у гэтай фірме працавала каля 500 чалавек[48]. Галоўнай бядой вёскі было п'янства. *"Быў такі выпадак: на Пятра і Паўла было вялікае набажэнства ў Голдаўскай вясковай царкве, прыйшоў адзін хрэсны ход з в. Дзікушкаў з абразамі, другі з в. Бабры так сама з абразамі. Адным словам сабралася шмат народу каб памаліцца. А на другім канцы вёскі работнікі, напіўшыся гарэлкі, пачалі рабіць гранду і пад вечар дайшло да таго, што прышлося запатрэбаваць паліцыю"* [49].

На пачатку 1950-х гг. у Голдаўскай царкве служыў святар Лінько Павел Кірылавіч. З 1991 г. - Вабішчэвіч Леанід Іванавіч.

У Голдаўскай царкве Нараджэння Багародзіцы маецца (ці меўся?) збор дакументаў з 64 спраў, якія захоўваліся ў шафах, што стаялі ў дапаможных памяшканнях царквы. Да цяперашняга часу згаданыя матэрыялы нікім не даследаваліся. Дакументы не класіфікаваны і не сістэматызаваны, вопісаў не існуе, лісты не пранумараваныя і ў большасці не прашнураваныя. Частка кніг мае пашкоджаныя аркушы. Гэтыя дакументы, у асноўным, датычаць часоў, калі царква стала праваслаўнай[50].

Летам 2014 г. у Голдаўскай царкве праводзіліся рамонт даху і замена ніжняга бярвення зруба, раней, гэты ўнікальны архітэктурны помнік перажыў два капітальныя рамонты - у XIX ст. і ў 1976-1979 гг.[51]

**Прыход у Бабрах**

У XVII ст. вёска Бабры ўваходзіла ў склад "нойбургскіх маёнткаў" Людвікі Караліны з Радзвілаў, Бабры разам з Смолачу і Пішчоўцамі (30 дымоў) трымаў у заставе Ян Дубраўскі, падстолі венданскі[52]. Як вядома, у сваіх "нойбургскіх маёнтках" Радзвілы-пратэстанты штучна ўтрымлівалі праваслаўе, і вёска Бабры, магчыма, была часткай Голдаўскай праваслаўнай парафіі.

У тыя часы розныя парафіі перакрыжоўваліся паміж сабой і ў межах, напрыклад, рыма-каталіцкай парафіі знаходзіліся і вёскі з насельніцтвам іншых канфесій, якія ў сваю чаргу ўваходзілі ў свае парафіі. Як ужываліся паміж сабою людзі розных канфесій у гэтым рэгіёне Лідчыны, добра бачна з дакументаў суседняй, каталіцкай парафіі ў Ельні. У візітацыі 1633 г. віленскі канонік і каралеўскі сакратар Каспар Заліўскі адзначыў, што на тэрыторыі парафіі акрамя каталікоў, жывуць уніяты, "ератыкі" (кальвіністы), а таксама "схізматыкі" (праваслаўныя)[53].

З візітацыі, выкананай у 1668 г. упаўнаважаным віленскага біскупа Аляксандра Сапегі, каралеўскім сакратаром Аляксандрам Катовічам з дапамогай ельненскага пробашча Юзафа Буткевіча-Папуцэвіча, бачна, што на тэрыторыі Ельненскай парафіі тады жыло тры сям'і ўніятаў-шляхты. Характарызуючы сялянскае насельніцтва парафіі, візітатар адзначае, што большая яго частка трымаецца "рускай рэлігіі" - гэта значыць уніі. Жылі тут таксама 5 шляхціцаў-кальвіністаў і некалькі мусульманскіх сем'яў - відочна беларускіх татараў. У матэрыялах 1668 г. праваслаўныя ўжо не фігуруюць.

Акрамя гэтых рэлігійных супольнасцяў, візітатары ў 1668 г. згадваюць яшчэ адну, якую называюць "яцвягі, Старая Літва". Верагодна, у гэтую групу патрапілі людзі, якіх немагчыма было залічыць у іншыя - этнічнае паходжанне ў той час нікога не хвалявала. У візітацыі 1668 г. запісана: *"... простыя людзі ўсе трымаюцца рускай рэлігіі* (грэка-каталіцкай - *Л. Л.*), *іншыя ж яцвягі, Старая Літва, але такіх менш, святы і пасты яны правяць паводле рускага абраду, але шмат хто з іх, і здаровыя, і хворыя, прымаюць камунію паводле рымскага абраду"*. Вяскоўцы не зважалі на канфесіі і хадзілі ў той храм, які ім быў бліжэй. Але на Вялікдзень гэтыя вернікі ішлі да споведзі ў касцёл і тлумачылі гэта тым, што іх бацькі і яны самі заўсёды да споведзі ходзяць у касцёл. Візітатар запісаў: *"З таго, што наведваюць і царкву* (грэка-каталіцкую - *Л. Л.*), *і касцёл, вынікае, што трымаюцца яны нейкай асаблівай веры"*. Адсутнасць вызначаных межаў парафіі дазваляла вернікам вольна выбіраць касцёл ці ўніяцкую царкву. І, верагодна, жыхары аддаленых вёсак, наведвалі храмы толькі па вялікіх святах. У выніку сфармаваліся своеасаблівыя рэлігійныя традыцыі, калі людзі не адносілі сябе да нейкай канкрэтнай канфесіі - галоўным для іх было выкананне рэлігійных абрадаў пры тым, што яны нават не ўсведамлялі іх сэнс.

У інвентары Ельненскай парафіі, складзеным у 70-х гг. XVII ст. пробашчам Юзафам Буткевічам-Папуцэвічам, сцвярджаецца, што вяскоўцы-уніяты маюць сваю царкву (Голдаўскую ці Ганчарскую) і святара, але нярэдка прымаюць сакраманты ў каталіцкім касцёле. Пробашч адзначае наступнае: *"Сярод іх ёсць невялікая група, якая завецца новай Яцвезю або Старой Літвой, яны трымаюцца не вызначаных касцёлам правілаў, але нейкіх уласных, успадкаваных ад бацькоў і дзядоў, законаў, з якімі ні ў якім разе не жадаюць развітацца"*. Святар адзначае, што не можа

[48] Грамадзянін № 15, 2 жніўня 1928.

[49] Грамадзянін № 15, 2 жніўня 1928.

[50] Пятроў В. Архіў Голдаўскай прыходскай царквы Раства Багародзіцы // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 91-94.

[51] Лідская газета. № 193 (12511), 11 верасня 2014.

[52] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskigo. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 227.

[53] Камунтавічэне Вайда. Насельніцтва Ельненскай парафіі ў XVII ст. ("Старая Літва", або яцвяжскі след у Віленскім біскупстве) // Архэ. 2016. № 5 (150). С. 313.

прымусіць гэтых людзей жыць па касцельных законах, бо для іх большым аўтарытэтам з'яўляюцца звычаі, якія засталіся ад продкаў. Гэтыя звычаі можна разглядаць як глыбока ўкаранёныя рэшткі паганскіх веравызнанняў, якія былі часткова хрысціянізаваныя, але захавалі паганскую сутнасць[54].

У візітацыі Ельненскай парафіі не падаюцца назвы мясцін, дзе жыла Старая Літва. Але назвы гэтых населеных пунктаў падаюцца у дакуменце 1721 г. - судова-следчай справе духоўнага кансісторскага суда. Гэта справа была заведзена на ваўкавыскага лоўчага Казіміра Станіслава Калушэўскага. Уніяцкі мітрапаліт Леў Шлюбіч-Заленскі абвінавпаціў тады Калушэўскага ў гвалтоўным пераводзе сялян-уніятаў з яго вёсак Нецеч, Старажымавічы і Чаплічы ў рыма-каталіцтва. Сведкаў па справе пераводу ў рыма-каталіцтва пыталі, якую веру сяляне вызнавалі да таго. Тыя адказвалі, што ў вёсках жылі і каталікі, і ўніяты, была і "схізма" (праваслаўе), згадваюць веру пад назвай "старалітва" [55].



***Крыжаўзвіжанская царква ў Бабрах. Фота Я. Балзункевіча, 1910-я гады***

У ходзе следства высветлілася, што К. Калушэўскі і яго жонка Марыяна з Невяроўскіх фундавалі ў Нецечы касцёл і 19 жніўня 1715 г. надалі новастворанай рыма-каталіцкай парафіі фундуш: 3 валокі зямлі, 10 прыгонных сялян і карчму. Першым пробашчам парафіі стаў ксёндз Антоні, родны брат фундатара[56]. Вось тады Калушэўскія, каб новая парафія займела дастатковую колькасць вернікаў, і ўжылі *"адміністрацыйныя захады"* адно сна ўніятаў з навакольных вёсак. Мы ж, з гэтай судовай справы, даведаліся, дзе жылі тыя апошнія, "легендарныя" яцвягі на Лідчыне. Аднак, імаверна, гэткіх вёсак было больш.

Трэба заўважыць, што вёскі з назвай Старажымавічы няма ў "Рэестры Лідскага павета 1690 г." [57], а вёску Няцеча ў тым жа 1680 г. трымаў Фердынанд Ян Рор (яе рыма-каталіцкая частка якраз належала Ельненскай парафіі)[58]. Няма Старажымавічаў і ў "Вопісах парафій Лідскага дэканата ў 1784 г.". Памылкі пра расчытванні архіўных дакументаў здараюцца, і таму я выказваю здагадку, што насамрэч - "Старажымавічы" гэта вёска Ерамеевічы. Вядома, што ў XVIII ст. Чаплічы, Нецеч і Ерамеевічы належалі аднаму гаспадару - ЯВп Барымоўскаму, і ўсе гэтыя вёскі знаходзіліся ў непасрэднай блізкасці ад вёскі Бабры. У 1784 г. Бабры - частка вялікай радзівілаўскай маёмасці на Лідчыне, акрамя ўніятаў, тут жывуць і рыма-каталікі, якія належаць да Няцецкай парафіі[59].

На пачатку XIX ст. маёмасць Бабры набыў у Дамініка Радзвіла Караль Лясковіч[60]. Да 1810 г. ён фундаваў тут будаўніцтва драўлянай Свята-Крыжаўзвіжанскай царквы. Каля новай царквы тады пасадзілі дуб, які расце да гэтага часу. Дуб настолькі магутны і шырокі, што трэба з дзясятак рук, каб абхапіць ствол дрэва. Існуе меркаванне, што гэтаму дубу можа быць і чатырыста гадоў.

**Што нам вядома пра фундатара будаўніцтва царквы Караля Лясковіча?**

З 1702 па 1798 гг. маёнткам Ішчална валодалі Валі. У Юзафа і Мар'яны Валяў, пра якіх я ўжо пісаў

---

[54] Камунтавічэне Вайда. Насельніцтва Ельненскай парафіі ў XVII ст. ("Старая Літва", або яцвяжскі след у Віленскім біскупстве) // Архэ. 2016. № 5 (150). С. 314-320.

[55] Марозава С. В. Ваўкавыскія ўніяты. Ваўкавышчына: З гісторыі краю і лёсу людзей. Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі. Ваўкавыск, 1997. С. 63-66.

[56] Piramidowicz D. Kosciol parafialny Sw. Michala Archaniola w Niecieczy // Ziemia Lidzka 2007. № 1.

[57] Гл: Metryka Litewska. Rejestry podymnego Welkiego Ksiestwa Litewskiego. Wojewodztwo wilenskie, 1690 r. Warszawa, 1989. S. 200-235.

[58] Там жа. S. 208.

[59] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Няцецкая // Лідскі летапісец. 2017. №3(79). С. 19.

[60] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 151.

вышэй, быў сын, таксама Юзаф - чалавек слабага характару і нават неразумнік. Прыціснуты моцнай індывідуальнасцю свайго бацькі ён вырас нездольным да самастойных учынкаў чалавекам. Ва ўзросце больш за 40 гадоў Юзаф па вялікім каханні жаніўся са значна маладзейшай за яго дачкой маршалка павета, прыгожай паннай Агнешкай Шукевіч з маёнтка Крупава. Шукевічы не былі вельмі багатай сям'ёй, і таму на згоду бацькоў Агнешкі паўплывала тое, што Юзаф Валь паабяцаў перапісаць увесь свой маёнтак на маладую жонку, калі тая згодзіцца выйсці за яго замуж. Закаханы стрымаў сваё слова. За дзень да шлюбу ён перапісаў сваёй будучай жонцы ўсё, што меў і такім чынам стаў яе слугой і нявольнікам. Пра нейкія пачуцці да яго з боку маладой жонкі не магло быць і размовы. Прыгожая паненка сталася жорсткай жонкай. Агнешка беспардонна выкарыстоўвала свае перавагі - узрост і прыгажосць - і гэтак атрымала ўладу над сляпым ад кахання мужам. Ніхто з тых, хто гасціў у Валяў нават і не думаў, што той стары, які сядзіць на далёкім, не ганаровым канцы стала і ёсць сапраўдны гаспадар маёмасці і муж маладой і прыгожай кабеты.

Малодшая сястра Агнешкі - лагодная і паслухмяная Элеанора выйшла замуж за землеўладальніка з Гародні, лідскага суддзю Караля Лясковіча гербу Кораб - высокага, стройнага мужчыну з рашучым і дэспатычным характарам. Дзве непадобныя сям'і зжыліся да такой ступені, што разам жылі ў Ішчалне.

Караль Нарбут, крайчы і земскі пісар, дасціпны і вясёлы чалавек, ведаючы, як жывуць гэтыя дзве пары, арганізаваў паміж жанатымі лідскімі землеўладальнікамі дзве арміі (групоўкі): Валяў і Лясковічаў. Усе мужы, якія падпарадкоўваліся сваім жонкам, атрымлівалі чыны ў арміі Валяў ажно да генерала, а тыя якія трымалі сваіх жонак у руках былі запісаны ў армію Лясковіча. Армія Валя мела нават сваіх капеланаў, гэта былі пробашчы якімі кіравалі іх хатнія гаспадыні. Афіцэрам абодвух армій выдаваліся патэнты падпісаныя іх камандуючым і начальнікам штаба з васковай пячаткай і апісаннем учынку, за які ён атрымаў намінацыю[61].

У 1796-1798 гг. Юзаф Валь памёр, і адразу за ім памерла яго бяздзетная жонка. Ішчалнянская маёмасць перайшла ў спадкі да сястры Элеаноры з Шукевічаў Лясковіч. У 1798 г. Элеанора перапісала свае спадкі на мужа. Распачалося энергічнае кіраванне Караля Лясковіча, менавіта тады Лясковіч і прыкупіў у Радзівілаў суседні маёнтак Бабры. Праз некалькі гадоў у іх нарадзілася дачка Францішка Лясковіч праз замуства якой з Антонам Скарбак-Важынскіх злучыліся Голдава і Ішчална. Фундатар Баброўскай царквы Караль Лясковіч памёр у 1822 г.[62]

У 1920-я гг. у Ішчалнянскім касцёле прайшло перазахаванне разрабаваных ў Першую сусветную вайну магіл. Сын уладальніка Ішчалны у 1920-30-я гг., таксама Караль Лясковіч гэтак апісаў парэшткі фундатараў Баброўскай царквы: *"Не звярнуў дадатковай увагі на ... строі ... Элеаноры, пахаванай каля свайго мужа Караля Лясковіча ў трэцяй пары трунаў. Караля пахавалі ў мундзіры віца-маршалка павета з шэрагам вялікіх гузікаў. На гузіках расійскі арол з напалову ўзнятымі крыламі па ўзоры, прынятым падчас панавання цара Аляксандра I. На мундзіры сляды некалі вышытай золатам партупеі для шпагі. Шпагу скралі раней. Наогул, Караль Лясковіч быў высокім мужчынам, не меншым за 190 см з вузкай галавой і вузкім чэрапам. У параўнанні з іншымі часткамі парэшткаў усе цэлы мелі ненармальна ўзнятыя жываты, напханыя травой. На ўсіх захавалася ў цэласці скура і валасы. Не на адным твары не павылазілі на паверхню косткі"* [63].

У 1829 г. пры Баброўскай царкве дзейнічаў шпіталь для адзінокіх старых і сірот, жылі ў ім 6 чалавек. А ў радзівілаўскай вёсцы Цацкі працавала нейкая, магчыма, кравецкая мануфактура, у якой працавала 9 жанчын ва ўзросце ад 50 да 15 гадоў[64].

Вядомы наступныя грэка-каталіцкія святары Баброўскай царквы.

Мікалай Дамінікоўскі, сын Ігната, у 1819 г. з'яўляўся адміністратарам царквы ў Бабрах[65].

Іосіф Канаховіч, нарадзіўся ў 1793 г., у 1832 г. святар царквы ў в. Бабры, пасля пераведзены ў царкву в. Сабакінцы[66].

Мацей Бараноўскі, сын Васіля, нарадзіўся ў 1800 г., вучыўся ў школе пры Жыровіцкім кляштары. У 1832 г. - вікарый у Голдаўскай царкве, з 1834 па 1837 гг. - святар царквы ў Бабрах[67].

Тэадор Сцепурынскі (Сцяпура), нарадзіўся ў 1808 г., у 1837 г. - адміністратар царквы ў Бабрах[68].

Пасля адмены ў 1861 г. прыгону, каб скарыстаць зямлю для сельскай гаспадаркі, уладальнік маёнтка Ішчална Баляслаў Скарбак-Важынскі вырашыў выселіць з сельскагаспадарчага мястэчка Ішчална ўсіх яго

[61] Падрабязней гл: Miron-Bronislaw Narbutt. Armije malzenskie // Ziemia Lidzka. 2002. № 1 (48).; Нарбут Мірон Браніслаў. Лідскі павет у сярэдзіне XIX ст // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Аляксандр Фядута. Мінск, 2015. С. 106-124.

[62] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 13-16.

[63] Там жа. С. 48-49.

[64] ДГАЛ Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай грэка-каталіцкага дэканату 1829 г. А. 22-25.

[65] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 227.

[66] Там жа. С. 281.

[67] Там жа. С. 132.

[68] Там жа. С. 498.

жыхароў.

Жыхары мястэчка ў той час належалі да трох веравызнанняў: каталіцкага, праваслаўнага і іудзейскага. З яўрэямі тагачасны дзедзіч Баляслаў Скарбак-Важынскі дамовіўся лёгка - перадаў ім карчму з прапінацыяй[69] і заплаціў кампенсацыю за некалькі іхніх дамоў. Сялянам прапанаваў замену з умовамі, лепшымі, чым яны мелі ў Ішчалне і, самае галоўнае, ён павялічыў ім зямельныя надзелы. У выніку паразумення праваслаўныя сяляне перасяліліся ў праваслаўную ж вёску Бабры. Відочна, што лепшыя ўмовы яны прынялі з удзячнасцю, тым больш што разам з зямлёй атрымалі лес для будоўлі сваіх сядзіб. Тры каталіцкія сям'і Корсакаў, Матушэвічаў і Штурмаў абшарнік перасунуў ад касцёла на 1 км і даў ім узгодненыя надзелы зямлі каля лесу ўрочышча "Вады". Усе існаваўшыя да таго часу будынкі ў мястэчку былі разабраныя, зямля пад сядзібамі ачышчана ад камянёў і заарана. Такім чынам мястэчка Ішчална згінула з карты, і надрукаваны праз 20 гадоў Слоўнік геаграфічны Сулімерскага пра яго ўжо не ўзгадвае[70].

У 1869 г. вернік Баброўскай царквы Восіп Дзмітрыевіч Пуцька ахвяраваў сваёй царкве ваўняны падрызнік за 6 руб[71].

У 1880 г. над бабінцам царквы надбудавалі званіцу, а пры ўваходзе зрабілі тамбур. Царква агароджана невысокім мурам, з якога найлепш захавалася фасадная частка.

Пры канцы XIX ст. царква мела 2 дзесяціны раллі. Замест сенакосу да 1891 г. маёнтак плаціў святару "ругу": азімага жыта 8 чвэрцей, 1 чвэрць пшаніцы, 6 чвэрцей яравога аўса, 4 чвэрці ячменю, 2 чвэрці гароху, 1 чвэрць грэчкі, 13 вазоў мурожнага сена, 8 вазоў саломы, 4 бараны, 2 парсюкі, 1 карову на мяса, 5 бочак піва, 15 гарнцаў гарэлкі, 15 гарнцаў солі. З 1891 г. абшарнік замест "ругі" надаў 36 дзесяцін зямлі. На выдаткі царквы абшарнік даваў 15 руб. у год, ануаты - 60 руб. у год. Псаломшчык атрымліваў ссыпку хлеба ад вернікаў - з кожнай мужчынскай душы па па 4 чвэрці і 4 чацверыкі азімага хлеба і столькі ж яравога, 80 пудоў сена і 4 вазы саломы. Прыход налічваў 120 двароў, 478 мужчын і 457 жанчын[72]. Псаломшчык гэтай царквы Ігнат Філіповіч выкладаў у Баброўскай школе пісьменнасці, Закон Божы выкладаў святар[73].

14 траўня 1907 г. архіепіскап Літоўскі і Віленскі Нікандр пачаў свой зварот да вернікаў Баброўскай царквы з дакорам, што *"некаторыя з вас "совратились" у каталіцтва"* [74], г. зн. і праз амаль што 70 гадоў тутэйшыя вернікі памяталі пра тое, што іх дзяды былі грэка-каталікамі.

Таму не дзіва, што ў 1920-30-я гг. у вёсцы Бабры жвава вялася беларуская культурніцкая праца. Яшчэ ў 1927 г. настаўнік пачатковай школы ў вёсцы Бабры Антон Ахрэмчык стварыў тут беларускі драматычны гуртok: *"... акуратна зьбіраліся тры разы на тыдзень па вечарох у школу, дзе амаль цэлую ноч рабілі рэпітыцыю... . За тыдзень да сёмухі самі артысты збудавалі сцэну ў школе ... Апошняя рэпітыцыя адбылася з вялікім пад'ёмам ў суботу перад сёмухай, 11 чэрвеня ўвечары. Усе артысты разыйшліся пасьля поўначы, хоць вельмі змораныя, але моцныя духам, цешачыся, што рэпэтыцыя выйшла як ня трэба лепей і шчыра прасілі ў Бога на заўтрашні дзень нагоды. Патрэбная дэкарацыя была з густам выканана мастаком Сьцяпанам Пуцькай, які з вялікім спагаданьнем аднёсся да пастаноўкі спэктаклю. На заўтра, 12 чэрвеня, хоць пагода была кепская, ліў дождж, але артысты не ўпалі духам і з самай раніцы зносілі крэслы, услоны, лаўкі, дзе хто што дастаў, у школу ... . Артыстамі былі хлопцы і дзяўчаты ... з вёскі Бабры. ... увесь чысты даход ад спэктаклю паступіў на павялічэньне школьнай бібліятэкі"* [75].

Вядома, што праваслаўным святаром на пачатку 1920-х гг. у Бабрах быў Аляксандр Бяляеў. Ён распаўсюджваў сярод вернікаў беларускую газету "Крыніца", праводзіў беларускую асветніцкую працу[76]. Таму наступны святар а. Канстанцін Мяцеліца, які з 10.09.1927 г. быў адміністратарам царкоўнай філіі ў Бабрах Лябёдскай гміны, меў пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Дзісненскім старостам, і ўжо быў *"палітычна і маральна добранадзейны"* [77].

15 траўня 1931 г. настаяцель царквы ў вёсцы Дэмбрава, беларус Мікалай Мышкоўскі, дзеці якога вучыліся ў беларускай гімназіі ў Вільні, быў пераведзены з паніжэннем на пасаду адміністратара царквы ў вёску Бабры Лідскага павета з тлумачэннем - *"з-за службовых інтарэсаў"* [78]. У Дэмбрава ён служыў з 20.05. 1920 г. і меў польскае грамадзянства. Канфідэнты паліцыі характарызавалі яго наступным чынам: *"Рускі нацыяналіст, прыхільны да беларускага руху. Да Польшчы ставіцца лаяльна толькі з-за магчымага пакарання. Алкаголік"* [79].

---

[69] Прапінацыя - права на вытворчасць і продаж алкагольных напіткаў, манапольна замацаванае за шляхецкім саслоўем. У дадзеным выпадку Скарбак-Важынскі даў дазвол яўрэям ад свайго імя.

[70] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 68.

[71] Литовские епархиальные ведомости. 1869. № 22.

[72] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. С. 22-23.

[73] Литовские епархиальные ведомости. 1886. № 33.

[74] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства 1907. № 8. С. 158-162.

[75] Беларускае Слова № 25 (54), 29 ліпеня 1927.

[76] Kuwalek R. Zycie spoleczno-polityczne ziemi Lidzkiej // Zemia Lidzka. 1997. № 25. S. 13.

[77] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 185.

[78] Загідулін А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921 - 1939 гг.). Гродна, 2010. С. 91.

[79] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 184.

У 1935 г. Баброўскі храм быў рэстаўраваны.

На пачатку 1937 г. Мышкоўскаму моцна не пашанцавала. 4 сакавіка на Лідскім вакзале з яго кішэні злодзеі выцягнулі 500 злотых[80]. Святар ехаў у Вільню, каб зрабіць заказ, і гэтыя грошы былі сабраны парафіянамі на закуп царкоўнага звона[81]. Магчыма, здарылася гэта з-за прыхільнасці да моцных напояў.

На царкоўным двары, на поўнач ад храма, знаходзіцца камень-следавік вышынёю 0,5 м з адбіткам жаночай ступні. Мясцовае паданне кажа, што гэты след належыць Маці Божай. Камень раней ляжаў на лузе, за царкоўнымі могілкамі. У 1920-я г. яго прывезлі да храма; мясцовы святар асвяціў гэтую рэліквію[82].

На пачатку 1960-х г. атэістычныя ўлады зачынілі царкву і забаранілі набажэнствы. Вялікія стосы царкоўных кніг выкінулі тады ў гразь на вясковую вуліцу, кнігі загінулі. У царкве зрабілі калгасны склад.

Царква ў Бабрах знаходзіцца сёння ў добрым стане і дзейнічае.

***Дадаткі***

**Вопіс спраў, якія захоўваюцца ў Голдаўскім царкоўным архіве**[83].

1. "Беседы святого отца нашего Василия Великого", Кіеў, 1829 г.
2. "Дополнительная ризничная опись Рождество Богородицкой Церкви Виленской Губернии Лидского уезда в местечке Голдове". Частка 1, 1839 г.
3. "Книга указов Литовской консистории", 1839 г.
4. "Книга брачных обысков Лидского благочиния Голдовской церкви", 1843 г.
5. "Книга добавочных обысков брачных Голдовской церкви Лидского благочиния", 1843 г.
6. "Книга Лидского Благочиния Голдовской церкви расхода церковных денег", 1843 г.
7. "Книга брачных обысков Голдовской Церкви", 1844 г.
8. "Книга брачных обысков Голдовского прихода", 1845 г.
9. "Книга Голдовской церкви проекта и содержания духовенства правил о хранении денег", 1846-1848 г.
10. "Книга Голдовской Церкви брачных обысков", 1846-1854 г.
11. "Исповедные росписи", 1849 г.
12. "Исповедные росписи", 1850-1852 г.
13. "Разныя печатные и письменные бумаги правительства, относящиеся к делам Голдовской Рождества Богородицкой церкви", 1853-1857 г.
14. "Журнал выходящих бумаг причта Голдовской Рождество Богородницкой Церкви", 1854 г.
15. "Книга на записку прихода денег Голдовской Рождество Богородницкой Церкви Лидского Уезда и Благочиния", 1860-1877 г.
16. "Книга для записи членов Голдовского братства", 1864 г.
17. "Книга на записку расхода денег Голдовской Рождество Богородницкой Церкви Лидского благочиния", 1864-1877 г.
18. "Клировые ведомости Голдовской Церкви", 1876-1908 г.
19. "Книга для отметки поступающих денег от братчиков и прихожан Голдовской Церкви по приговору", 1877 г.
20. "Книга на записку прихода денежных сумм и платежов Голдовской Рождество Богородницкой Церкви", 1877 г.
21. "Книга для записи предбрачных обысков Голдовской церкви", 1879-1894 г.
22. "Книга на записку прихода денежных сумм и капиталов Голдовской церкви Лидского благочиния", 1880-1882 г.
23. "Ведомость Литовской епархии Виленской губернии Лидского уезда и Благочиния приходской Голдовской Рождество Богородницкой Церкви", 1882 г.
24. "Ведомость Литовской епархии Виленской Губернии Лидского уезда и Благочиния приходской Голдовской Рождества Богородницкой Церкви", 1886 г.
25. "Книга на записку прихода и расхода денежных сумм и капиталов Голдовской Церкви Лидского благочиния", 1886-1888 г.
26. "Главная церковная и ризничная опись Рождество Богородницкой Церкви состоящей Виленской губернии Лидского уезда в местечке Голдове".
27. "Дело Голдовской церкви и причта", 1894 г.
28. "Кассовая книга Голдовской Церкви".
29. "Книга на записку расхода денежных сумм и капиталов Голдовской Рождества Богородичной Церкви".
30. "Обыск брачный Голдовской церкви", 1895-1901 г.
31. "Опись фундушных строений Голдовской Рождество Богородницкой Церкви", 1902 г.
32. "Книга на записку прихода и расхода денежных сумм и капиталов Голдовской Рождество Богородницкой Церкви Лидского Благочиния", 1903 г.
33. "Опись Церкви и ее имущества", 1909 г.
34. "Книга на записку прихода денежных сумм и капиталов Голдовской церкви Лидского благочиния Лидского уезда", 1912 г.
35. "Описная книга Голдовской церкви".
36. "Посемейный список прихожан Голдовской

[80] Kurjer Wilenski № 67 (4029), 9 marca 1937.
[81] Kurjer Wilenski № 68 (4030), 10 marca 1937.
[82] Лідскі Летапісец. 2000. № 9. С. 21.
[83] Пятроў В. Архіў Голдаўскай прыходскай царквы Раства Багародзіцы // Герольд Litherland. 2002. № 3-4 (7-8). С. 93-94.

Церкви", 1926 г.

37. "Список прихожан Голдовской церкви" (Дата - ?).

38. "Слова и приветствия высокопреосвященного Иосифа Митрополита Литовского и Виленского".

39. "Учёт потреб по Голдовскому приходу", 1962 г.

**Акт генеральнай візітацыі Голдаўскай царквы ў 1792 г. [84]**

***Арк. 19.***

**Царква** пад тытулам Нараджэння Насвяцейшай Панны, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, у фундацыі і каляцыі ЯВп Важынскіх, скарбнікаў ВКЛ, зараз у ЯВп Важынскіх, палкоўнікаў Жмудскіх, старастаў Тыркшлеўскіх (каля Цельшаў, Ковенскага ваяводства - *Л. Л.*). Драўляная, з брусаванага ... дрэва, нанова добра пабудаваная, крытая гонтай, з двума купаламі, з якіх адзін з жалезным крыжам над фацыятай (абразом - *Л. Л.*), а другі, з жалезным крыжам, над Вялікім абразом. На падмурку, з бабінцам і сакрыстыяй. З боку могілак двайныя падвойныя дзверы ў царкву, на падвойных жалезных завесах, зачыняюцца тычкай. З могілак ў сакрыстыю фугаваныя дзверы на падвойных жалезных завесах з унутраным замком. У царкве няма падлогі, столь з габляванай дошкі пафарбаванай белай фарбай таксама як і сцены. У царкве - 8 вокнаў белага шкла ў драўляных рамах. У сакрыстыі і над хорам - тое ж самае. Хоры агароджаны, з пафарбаванымі ў папяловы колер балясінамі. У бабінцы - 2 малыя круглыя акны. Лавы, сталярнай работы, стаяць з абодвух бакоў, пафарбаваныя ў арэхавы колер. Могілкі агароджаныя, на іх званіца на двух драўляных слупах з дахам, крытым гонтай, з жалезным крыжыкам, з адным звонам. Другі звон на двары, чакае рамонту.

**Вялікі алтар** ... абабіты габляванымі дошкамі і абцягнуты палатном з калонамі і карнізамі, пафарбаванымі рознымі фарбамі. Прастол драўляны сталярнай работы, на ім зачыненая дараносіца дзе захоўваюцца Святыя дары. Дараносіца сніцарскай работы аздоблена белай фарбай і малярскім золатам. Антымінс яснавялебнага Ясона Смагаржэўскага, мітрапаліта. Заслона прастола па markdown рознаму пафарбавана, абрус, ручнікоў - 2. Швабскіх аздобленых карункамі, падшытых - адзін. Покрыва дывановае, падушка пад службоўнік дывановая, алтарны крыж алавяны, з пасійкай, падсвечнікаў бляшаных ў форме літары "S" - 2 пары. Прыступкі на два ўзроўні пафарбаваных у попельны колер. Каля вялікага алтара, з боку сакрыстыі лавачка. Амбон сталярнай работы, пафарбаваны ў попельны колер і ўпрыгожаны блакітнымі паскамі, парэнчы з балясінамі, пафарбаванымі ў розны колер.

Бакавы алтар, па правым баку, з габляванай дошкі, абцягнуты палатном, з калонамі, аздоблены рознымі колерамі. Уверсе абраз Св. Ануфрыя, а над прастолам абраз Перамянення Панскага. Прастол і заслона прастола драўляныя, сталярнай работы, пафарбаваныя рознымі колерамі. Да прастола прыступка пад ліхтаром, пафарбаваная ў блакітны колер. На гэтай прыступцы рэлікvіяр Успення (менавіта так, а не Унебаўзяцця - *Л. Л.*) Найсвяцейшай Панны Марыі за шклом, у яго ўстаўлена ўкрыжаванне з пасійкай. Драўляных ліхтароў - 2 пары.

Другі алтар па левым баку, з габляванай дошкі, абцягнуты палатном, з калонамі, аздоблены рознымі колерамі з абразом Найсвяцейшай Панны ў штуцы, упрыгожанай разьбой, у срэбных шатах з пазалочанай каронай, на абразе Панна паказвае на сэрца, з гербам Вянцковічаў - стралой. Срэбных таблічак - 6.

Прастол і заслона сталярнай работы, пафарбаваныя рознымі колерамі. Да прастола прыступка пад ліхтаром, пафарбаваная ў блакітны колер. Абрус, ручнікоў - 2, адзін швабскі, з карункамі, падшыты чырвонай шалевай тканінай, другі тканы. Портатэл (невялікі ахвярнік з абразом - *Л. Л.*) лацінскі. Алавяных настольных падсвечнікаў - адна пара. Старых, бляшаных, пафарбаваных у белы колер ліхтароў у форме літары "S" - адна пара. Драўляных - адна пара. Укрыжаванне драўлянае з пасійкай.

Царкоўнае начынне. Даразахавальніц срэбных з накрыўкамі і махравымі капамі для захавання Святых Дароў, абодвух абрадаў - дзве, з якіх адна ўсярэдзіне пазалочаная. Срэбных пацiраў, з якіх адзін усярэдзіне пазалочаны, з пазалочанымі дыскасамі. Срэбная лыжачка - адна. Срэбныя пазалочаныя шаты на абразе Найсвяцейшай Панны ў бакавым алтары з срэбнай пазалочанай каронай

***Арк. 19 адв.***

і чатырма каштоўнымі камянямі. Таблічак срэбных - дзевяць. Вялікі рэлікvіяр Успення Найсвяцейшай Панны за шклом на тым жа алтары - адзін і два меншых, ... штук тры. На тым абразе фіранкі ..., каб закрыць абраз Найсвяцейшай Панны з дзверцамі. Мерніца алавяная ... - адна. Укрыжаванне алавянае з пастаментам - адно. Крыжоў драўляных з пасійкамі - два. Старых алавяных ампулак з падносам - адна пара. Кропельніца алавяная неўжываная - адна. Кадзільніца вялікая, вельмі старая, з такім жа ланцужком - адна. Звон на званіцы - адзін, а другі сапсаваны, узяты ў Двор для рамонту. Сыгнатурка (тут, у сэнсе малы звон - *Л. Л.*) ... у купале адна. Алтарных званкоў - шэсць, адзін з іх без сэрца. Званок ... - адзін. Драўляных, точаных падсвечнікаў на алтарах - шэсць пар. Жалеза для выпечкі Гостыі - адно ...

Літургічнае ўбранне. Лацінскі светлы арнат з залатым галуном і абшлагамі ..., з вышытымі ўнізе чырвоным шоўкам літарамі, з усім неабходным.

Рускі светлы арнат, зялёны, з штофа ў белыя паскі з кампанай вышытай залатой ніццю, з усім неабходным. Другі арнат светлы, ружовы, драгетаваны,

[84] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага Дэканата. 1792 г. Арк. 19-20.

кампанка вышытая срэбнай ніццю і ўпрыгожаная белымі паскамі, з усім неабходным. Арнат моравы, белы з залатымі кветкамі, упрыгожаны срэбнымі галунамі, з усім неабходным. Арнат светлы ..., ружовы, стары, з залатымі галуном і кампанкай, з усім неабходным. Арнат жалобны, атласны, чорны, уверсе белы, з усім неабходным. Бурс две, фіялетавыя з кітайкі, адна вышывана срэбрам, другая аблямавана блакітнай стужкай. Альб - чатыры, з іх адна галандская з карункамі, падшыта кітайкай, другая, вышытая срэбрам, другая тканая, з фальбонамі, ... . Дзве комжы. Карпаралаў - восемь, пурыфікатараў - пятнаццаць.

Царкоўныя кнігі. Евангелле надта старое, друкаванае. Кніг вельмі старых, друкаваных, рускіх - пяць. Службоўнікаў старых два. Трэбнік неўжываны - адзін. Евагелічка польская на нядзелю і святы - адна. Прамовы ксяндза Нароцкага, метрыкі шлюбаў і нараджэнняў, рэестр парафіі разам з табелем вернікаў.

**Спіс Голдаўскай парафіі разам з рэестрам абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны |
| Мястэчка Голдава | 21 | 40 | 7 | 52 | 19 |
| Вёска Вялікае Сяло | 32 | 78 | 28 | 87 | 17 |
| Вёска Агароднікі | 13 | 35 | 5 | 41 | 9 |
| Вёска Малышы | 14 | 25 | 13 | 38 | 7 |
| Вёска Хацяновічы | 26 | 53 | 43 | 60 | 25 |
| Вёска Ходараўцы | 14 | 25 | 16 | 20 | 16 |
| Вёска Канюшаны | 11 | 18 | 17 | 28 | 12 |
| Вёска Вольгаўцы | 24 | 45 | 21 | 40 | 26 |
| Вёска Бабры | 53 | 60 | 26 | 80 | 34 |
| Разам, дымоў 206, парафіян 1169 | | | | | |
| | 208 | 379 | 176 | 446 | 165 |

***Арк. 20.***

Пабудовы плябаніі. Хата белая з каморай, сенямі і пякарняй, вельмі старая. Свіран трэба зруйнаваць, хлявы старыя, гумно патрабуе рамонту. На падворку студня. Усе пабудовы без усялякай агароджы.

Зямля плябаніі. Зараз ніякай зямлі няма акрамя агарода. Святар жыве на грошы, якія выплачвае двор і за кошт штогадовых памерных выплат з ардынацыі.

Увага. Зямля плябаніі і падданых .. была забрана пасля фатальнай смерці тры гады таму вялебнага святара Ігната Ханкоўскага, адміністратара Голдаўскай царквы ... ніякі судовы працэс не быў пачаты ... .

Дакументы. Ніякіх дакументаў у плябаніі няма, часткова згарэлі праз пярун, а часткова забраны двaром, ранейшымі калятарамі.

Увага. Для шпіталя і плябаніі трэба пачаць збіраць ахвяраванні.

У гэтай царкве святаром ёсць Ян Мыслевіч, празбітар, высвечаны ... біскупам Пінскім і Тураўскім Гедэонам Гарбацкім 15.09.1781 г. ...

… сучасныя ЯВп калятары маюць вялікую надзею на вяртанне ранейшага фундушу ці юрыдычнага афармлення новага, які будзе адпавядаць старому, трэба вялебнаму святару звяртацца да ... калятараў, да іх пабожнага гонару, каб як найхутчэй зрабіць гэтую справу ... калі гэта не будзе зроблена на працягу года і шасці тыдняў, дык Голдаўская царква з парафіяй павінна быць афіляванa да бліжэйшай царквы ... .

Каб навукі, катэхізмы і пастырскія прамовы да людзей па ўсіх цэрквах былі зроблены, за чым як інстыгатар дэканату павінен пільна сачыць.

Так сама, каб на штомесячных ці штоквартальных канферэнцыях усе бывалі ў сваіх інстыгатараў. Павінен пільна назіраць, а пра непаслухмяных і адвільваючых дакладаць кіраўніцтву.

Пункты альбо Епіскапскія Распараджэнні і (кнігу) "Прыпадкі" каб меў, чытаў і выкарыстоўваў ..., каб праз тыя правілы мог сам дасканала меркаваць і вырашаць ... каб захоўваў рэгулярнасць у набажэнствах, пільнасць і дбайнасць у парафіі, чуласць у абыходжанні з даверанымі яму душамі, а таксама прыкладнасць, неабходную духоўнаму сану, моцна загадваем і гэтым рэфармацыйным дэкрэтам замацоўваем і даём распараджэнне.

**Парафіяне Голдаўскай грэка-каталіцкай царквы у 1829 г.** [85]

**Цікавосткі**: тыя хто здымае кут, квартаруе, называюцца: паўдомнік - пакутніца - кутнік.

**Мястэчка Голдава, ЯВп Антонія Важынскага, старасты Тыркшлеўскага**

1. Ян Шагелда, 24 г.; Стэфан, брат Яна, 10 г.; Дамінік, брат Яна, г.; Антон, брат Яна, 2 г.; Кандрат, брат цётачны Яна, 24 г.; Мар'яна, маці Яна, 49 г.; Разалія, сястра Яна, 22 г.; Геня, сястра Яна, 19 г.; Настасся, 16 г.; Анна, сястра Яна, 11 г.

2. Ягор Кавальчук, 50 г.; Базыль, сын Ягора, 22 г.; Андрэй, сын Ягора, 5 г.; Павел, брат Ягора, 47 г.; Крысціна, жонка Ягора, 45 г.; Францішка, дачка Ягора, 16 г.; Агата, жонка Паўла, 29 г.

3. Яўхім Ванчук, 24 г.; Юзаф, сын Яўхіма, 2 г.; Яўхім, швагер Яўхіма, 6 г.; Антон, швагер Яўхіма, 3 г.; Пелагея, цёшча Яўхіма 43 г.; Мар'яна, жонка Яўхіма, 22 г.; Тэкля, швагерка Яўхіма, 10 г.

4. Андрэй Мацюк, 40 г.; Ян, сын Андрэя, 16 г.; Баніфацый, сын Андрэя, 7 г.; Гжэгаш, сын Андрэя, 1 г.; Магдалена, жонка Андрэя, 40 г.; Петранеля, дачка Андрэя, 13 г.

5. Тамаш Гарбіна, 39 г.; Міхал, сын Тамаша, 10 г.; Дзем'ян Мацюк, паўдомнік, 24 г.; Кацярына, дачка Тамаша, Рэгіна, жонка Дзем'яна, 24 г.

6. Кандрат Кавальчук, 32 г.; Леон, сын Кандрата, 13 г.; Юзаф, сын Кандрата, 1 г.; Юры, брат Кандрата, 24 г.;

[85] ДГАЛ Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай грэка-каталіцкага дэканату 1829 г. Арк. 11-21 адв.

Міхал, сын Юрыя, 1 г.; Крысціна, жонка Кандрат, 36 г.; Мар'яна, дачка Кандрата, 7 г.

7. Тамаш Мацюк, 28 г.; Кацярына, жонка Тамаша, 33 г.; Францішка, дачка Тамаша, 1 г.; Тэкля, маці Тамаша, 56 г.; Анна, Пракопчык, удава, 66 г.

8. Антон Кавальчук, 32 г.; Клеменс, сын Антона, 9 г.; Базыль, сын Антона, 1 г.; Мікалай Гаель, 14 г.; Данель, брат Мікалая, 14 г.; Мар'яна, жонка Антона, 36 г.; Настасся, дачка Антона, 5 г.; Тэкля, маці Мікалая, 54 г.; Ева, сястра Мікалая, 20 г.

9. Андрэй Гаель, 34 г.; Максім, брат Андрэя, 10 г.; Юзаф, сын Андрэя, 6 г.; Ізідар, сын Андрэя, 1 г.; Тэкля, жонка Андрэя, 32 г.; Барбара, дачка Андрэя, 12 г.

10. Андрэй Кавальчук, удавец, 66 г.; Андрэй, пляменнік Андрэя, 42 г.; Мікалай, сын гэтага пляменніка, 7 г.; Еўдакія, жонка Андрэя-пляменніка, 44 г.; Вікторыя, дачка гэтага пляменніка, 17 г.; Настасся, дачка таго ж пляменніка, 10 г.

11. Казімір Грынкевіч, 66 г.; Баніфацый, сын Казіміра, 23 г.; Бенядзікт, сын Казіміра, 19г.; Базыль, сын Казіміра, 10 г.; Агата, жонка Казіміра, 48 г.; Хэлена, дачка Казіміра, 26 г.; Анна, дачка Казіміра, 17 г.; Настасся, жонка Баніфацыя, 20 г.;

12. Тадэвуш Пракаповіч, 58 г.; Хвёдар, сын Тадэвуша, 7 г.; Ян,сын Хвёдара, 5 г.; Зоф'я, жонка Тадэвуша, 58 г.; Агата, жонка Хвёдара, 24 г.; Мар'яна, дачка Хвёдара, 18 г.; Анна, дачка Хвёдара, 16 г.; Анвіліна,дачка Хвёдара, 11 г.

13. Антон Мацюк, 30 г.; Пётр, сын Антона, 8 г.; Ягася, жонка Антона, 31 г.; Тэкля, дачка Антона, 2 г.; Кацярына, братавая Антона, 21 г.; Канстанцыя, пляменніца Антона, 1 г.; Франюшка, маці Антона, 61 г.;

14. Антон Кажамяка, 44 г.; Ян, сын Антона, 21 г.; Пётр, сын Антона, 16 г.; Юзаф, брат Антона, 28 г.; Агата, жонка Антона, 41 г.; Хэлена, дачка Антона, 15 г.; Анна, дачка Антона, 7 г.;

15. Андрэй Гуштук, 34 г.; Язафат, брат Андрэя, 40 г.; Клеменс, сын Андрэя, 5 г.; Юстына, жонка Андрэя, 34 г.

16. Данель Мацюк, 49 г.; Павел, сын Данеля, 17 г.; Васіль, сын Данеля, 10 г.; Адам, сын Данеля, 7 г.; Пелагея, жонка Данеля, 39 г.; Зоф'я, дачка Данеля, 20 г.; Тэкля, дачка Данеля, 3 г.

17. Гжэгаш Кажамяка, 69 г.; Ян, сын Гжэгаша, 31 г.; Сымон, сын Гжэгаша, 21 г.; Ігнат, сын Яна, 11 г.; Тэкля, жонка Яна, 34 г.; Юльяна, дачка Яна, 7 г.; Еўдакія, дачка Яна, 1 г.; Караліна, жонка Сымона, 10 г.

18. Васіль Енка, 59 г.; Ян, сын Васіля, 20 г.; Эльяш, сын Васіля, 17 г.; Дамінік, жонка Васіля, 52 г.; Анна, дачка Васіля, 19 г.

19. Аляксандр Ярашэвіч, 35 г.; Магдалена, жонка Аляксандра, 31 г.; Тацццяна, дачка Аляксандра, 13 г.; Канстанцыя, дачка Аляксандра, 3 г.; Ефрасіння Пракопчык, ... 47 г.; Тэрэза, дачка Ефрасінні, 13 г.

20. Павел Ванчык, 46 г.; Юзаф, сын Паўла, 13 г.; Сымон, сын Паўла, 10 г.; Антон, сын Паўла, 5 г.; Тамаш, брат Паўла, 34 г.; Тэадор, сын Тамаша, 9 г.; Караль, сын Тамаша, 5 г.; Апалонія, жонка Тамаша, 30 г.; Дамініка, дачка Тамаша, 1 г.

21. Павел Ванчык, 49 г.; Дзмітрый, сын Паўла, 15 г.; Трахім, брат Паўла, 45 г.; Ежы, сын Трахіма, 8 г.; Мацей, сын Трахіма, 3 г.; Еўдакія, жонка Паўла, 49 г.; Праскоўя, жонка Трахіма, 39 г.;

22. Базыль Кавальчык, 55 г.; Люся, жонка Базыля, 51 г.; Мар'яна, дачка Базыля, 14 г.

**Двор Голдава таго ж ЯВп Важынскага**

Хвёдар Кучынскі, агароднік, 29 г.; Якуб Здановіч, пастух, 68 г.; Юзаф Бачок, 14 г.; Людвік, сын Хвёдара, 2 г.; Астап Кашна, шпітальны дзед, 76 г.; Анна Снасень, 16 г.; Петранеля, сястра Ганны, 11 г.; Тэкля, сястра Ганны, 7 г.; Альжбета Васілеўская, 16 г.; Леанора Енка, 66 г.; Мар'яна, жонка Хвёдара, 28 г.; Мар'яна, дачка Тэрэзы, 2 г.

**Вёска Вялікае Сяло таго ж ЯВп Важынскага**

1. Пётр Мацюк, 30 г.; Юзаф, брат Пятра, 19 г.; Стэфан, брат Пятра, 3 г.; Мацей, сын Пятра, 1 г.; Анастасія, жонка Пятра, 24 г.; Францішка, сястра Пятра, 22 г.; Юльяна, сястра Пятра, 13 г.

2. Гжэгаш Свістун, 47 г.; Ян, сын Гжэгаша, 18 г.; Кандрат Мацюк, брат Гжэгаша, 34 г.; Аляксандр, пляменнік Гжэгаша, 10 г.; Ежы, сын Кандрата, 7 г.; Мацей, сын Кандрата, 1 г.; Мар'яна, жонка Гжэгаша, 47 г.; Урусула, жонка Кандрата, 30 г.

3. Якуб Кепель, 40 г.; Данель, брат Якуба, 32 г.; Максім, сын Якуба, 4 г.; Пётр, сын Якуба, 2 г.; Еўдакія, жонка Якуба, 49 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 13 г.; Барбара, дачка Якуба, 7 г., Крысціна, жонка Данеля, 29 г.; Анна, маці Якуба, 69 г.

4. Лацінскага абраду.

5. Гжэгаш Таўкач, 68 г.; Трахім, пляменнік Гжэгаша, 26 г.; жанчыны лацінскага абраду.

6. Андрэй Кепель, 39 г.; Аляксандра, жонка Андрэя, 39 г.; Наталля, дачка Андрэя, 17 г.; Альжбета, дачка Андрэя, 10 г.

7. Андрэй Таўкач, 32 г.; Віктар, брат Андрэя, 24 г.; Зоф'я, жонка Андрэя, 27 г.; Кацярына, дачка Андрэя, 5 г.; Анна, дачка Андрэя, 2 г.

8. Ян Кепель, 39 г.; Пётр, сын Яна, 18 г.; Кандрат, сын Яна, 12 Эльяш, сын Яна, 2 г.; Хэлена, жонка Яна, 42 г.; Анна, дачка Яна, 15 г.; Францішка, дачка Яна, 5 г.; Магдалена, Кавальчук, ... 44 г.

9. Тамаш Кепель, 39 г.; Ян, сын Тамаша, 12 г.; Гжэгаш, сын Тамаша, 5 г.; Якуб, сын Тамаша, 2 г.; Адам, брат Тамаша, 24 г.; Стэфан, сын Адама, 7 г.; Базыль, сын Адама, 3 г.; Міхал, сын Адама, 1 г.; Пракседа, жонка Тамаша, 37 г.; Мар'яна, жонка Адама, 34 г.

10. Стэфан Кепель, 44 г.; Сымон, сын Стэфана, 12 г.; Ян Таўкач, швагер Стэфана, 36 г.; Раман, пляменнік Стэфана, 9 г.; Кацярына, жонка Стэфана, 28 г.; Еўдакія, дачка Стэфана, 17 г.; Апалонія, дачка Стэфана, 7 г.; Хэлена, сястра Стэфана, 51 г.; Элеанора, жонка Яна, 37 г.

11. Ян Марцінкевіч, 49 г.; Гжэгаш Грынкевіч, паўдомнік, 27 г.; Васіль, сын Гжэгаша, 5 г.; Пётр, сын Гжэгаша, 1 г.; Анна, жонка Яна, 34 г.; Язафата, дачка Яна, 7 г.; Малгажата, жонка Гжэгаша, 27 г.; Параскева, дачка Гжэгаша, 2 г.; Хэлена Кавальчук, служка, 36 г.

12. Мужчына лацінскага абраду, Тэадора Васілеўская, 54 г.

13. Гжэгаш Свістун, 52 г.; Кандрат, сын Гжэгаша, 11 г.; Міхал, сын Гжэгаша, 2 г.; Ян, Гаель, швагер Гжэгаша, 49 г.; Ігнат, сын Яна, 15 г.; Магдалена, жонка Гжэгаша, 49 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 7 г.; Ева, дачка Гжэгаша, 5 г.

14. Гжэгаш Гарбіна, 64 г.; Сымон, пляменнік Гжэгаша, 36 г.; Юстына, дачка Сымона, 14 г.; Еўдакія, дачка Сымона, 12 г.; Матрона, дачка Сымона, 5 г.

15. Андрэй Янасціна, 44 г.; Ян, сын Андрэя, 24 г.; Васіль, брат Андрэя, 28 г.; Мікалай, сын Васіля, 11 г.; Параскева, жонка Андрэя, 42 г.; Альжбета, дачка Андрэя, 10 г.; Тэадора, жонка Васіля, 34 г.

16. Ян Кавальчук, 47 г.; Лукаш Кавальчук, 76 г.; Барбара, жонка Яна, 45 г.; Магдалена, дачка Яна, 18 г.; Тэкля, дачка Яна, 10 г.; Юстына, дачка Яна, 4 г.; Аквіліна, дачка Яна, 1 г.; Мар'яна, дачка Лукаша, 9 г.

17. Андрэй Хайса, 48 г.; Леон, пляменнік Андрэя, 19 г.; Сымон Пракопчык, паўдомнік, 34 г.; Базыль, сын Сымона, 4 г.; Магдалена, жонка Андрэя, 34 г.; Тэкля, пляменніца

Андрэя, 12 г.; Крысціна, жонка Сымона, 38 г.; Кацярына, дачка Сымона, 13 г.; Барбара, дачка Сымона, 6 г.

18. Ягор Гарбіна, 27 г.; Павел, сын Ягора, 2 г.; Ян, брат Ягора, 22 г.; Мар'яна, жонка Ягора, 27 г.; Тарэза, сястра Ягора, 29 г.

19. Ян Гаель, 59 г.; Станіслаў, сын Яна, 30 г.; Пётр, сын Яна, 18 г.; Стэфан, сын Станіслава, 10 г.; Францішка, жонка Станіслава, 30 г.; Люцыя, дачка Станіслава, 13 г.; Мар'яна, дачка Станіслава, 2 г.; Анна, цешча Станіслава, 62 г.

20. Раман Гарбіна, 24 г.; Ян, брат Рамана, 20 г.; Агата, жонка Рамана, 24 г.; Францішка, маці Рамана, 41 г.; Вікторыя, сястра Рамана, 7 г.; Анна, сястра Рамана, 4 г.;

21. Андрэй Гарбіна, 35 г.; Павел, сын Андрэя, 13 г.; Мікалай, сын Андрэя, 12 г.; Сымон, сын Андрэя, 3 г.; Наталля, бабка Андрэя, 67 г.; Тэадора, маці Андрэя, 63 г.

22. Язафат Кавальчук, 57 г.; Ігнат, сын Язафата, 23 г.; Якуб, сын Язафата, 19 г.; Еўдакія, жонка Язафата, 52 г.; Агаф'я, дачка Язафата, 16 г.; Мар'яна, дачка Язафата, 7 г.; Анастасія, жонка Ігната, 22 г.; Тэадора, дачка Ігната, 2 г.

23. Ануфры Амельянчык, 33 г.; Ігнат, сын Ануфрыя, 7 г.; Сымона, брат Ануфрыя, 25 г.; Кацярына, жонка Сымона, 26 г.; Анна, дачка Сымона, 2 г.; Мар'яна,сястра Сымона, 29 г.

24. Ян Рой, 37 г.; Сымон, сын Яна, 9 г.; Сільвестр, сын Яна, 2 г.; Анна, жонка Яна, 32 г.; Вікторыя, дачка Яна, 5 г.; Францішка, сястра Ганны, 18 г.

25. Францішак Кажамяка, 49 г.; Мацей, брат Францішка, 59 г.; Ян Гушлюк, зяць Францішка, 20 г.; Анна, жонка Францішка, 47 г.; Дар'я, жонка Мацея, 54 г.; Караліна, дачка Мацея 14 г.; Тэкля, жонка Яна, 22 г.

26. Астап Грынкевіч. 49 г.; Сідар, брат Астапа, 37 г.; Ефрасіння, жонка Астапа, 30 г.; Роза, жонка Сідара, 36 г.; Таццяна, дачка Сідара, 14 г.

27. Мацей Грынкевіч, 39 г.; Тамаш, сын Мацея, 14 г.; Тэадора, жонка Мацея, 36 г.; Анна Кепель, пакутніца, 63 г.

28. Лацінскага абраду.

29. Бенядзікт Грынкевіч, 39 г.; Мацей, сын Бенядзікта, 32 г.; жанчына лацінскага абраду.

**Вёска Агароднікі таго ж ЯВп Важынскага**

1. Юзаф Радзюк, 35 г.; Васіль, сын Юзафа, 7 г.; Крысціна, жонка Юзафа, 37 г.; Анастасія, жонка Юзафа, 15 г.; Юстына, дачка Юзафа, 12 г.

2. Дзмітрый Енка, 49 г.; Эльяш, сын Дзмітрыя, 16 г.; Кандрат, сын Дзмітрыя, 8 г.; Лукаш, брат Дзмітрыя, 40 г.; Пётр, сын Лукаша, 9 г.; Стэфан, сын Лукаша, 7 г.; Наталля, жонка Дзмітрыя, 44 г.; Рэгіна, дачка Дзмітрыя, 17 г.; Элеанора, жонка Лукаша, 37 г.; Францішка, дачка Дзмітрыя, 7 г.; Мар'яна, дачка Лукаша, 1 г.

3. Міхал Навіцкі, 18 г.; Юльяна, братавая Міхала, 34 г.

4. Гжэгаш Мацюк, 41 г.; Базыль, сын Гжэгаша, 15 г.; Ян, сын Гжэгаша, 6 г.; Сымон,сын Гжэгаша, 6 г.; Васіль, сын Гжэгаша, 2 г.; Максім, брат Гжэгаша, 34 г.; Анна, жонка Гжэгаша, 37 г.; Анна, дачка Гжэгаша, 12 г.; Таццяна, жонка Максіма, 34 г.; Еўдакія, дачка Максіма, 1 г.

5. Міхал Мацюк, 23 г.; Максім, брат Міхала, 15 г.; Юстына, жонка Міхала, 25 г.; Мар'яна, дачка Міхала, 3 г.; Агата, дачка Міхала, 2 г.; Тэкля, маці Міхала, 56 г.

6. Данель Мацюк, 28 г.; Лукаш, брат Тадэвуша 15 г.; Люцыя, сястра Тадэвуша, 23 г.; Агата, сястра Тадэвуша, 19 г.; Канстанцыя, жонка Данеля, 21 г.

7. Захар Ванчык, 47 г.; Ежы, брат Захара, 36 г.; Захар, сын Ежы, 5 г.; Тэадора, жонка Захара, 42 г.; Анастасія, дачка Захара, 22 г.; Агнешка, дачка Захара, 19 г.; Кацярына, дачка Захара, 14 г.; Еўдакія, дачка Захара, 11 г.; Анна, дачка Захара, 7 г.; Тэрэза, дачка Захара, 1 г.; Барбара, жонка Ежы, 31 г.

8. Ян Янчэўскі, 53 г.; Сымон, сын Яна, 20 г.; Тамаш, пляменнік Яна, 33 г.; Юзаф, сын Тамаша, 5 г.; Агаф'я, жонка Яна, 46 г.; Петранеля, дачка Яна, 12 г.; Агаф'я, жонка Тамаша, 33 г.

9. Ян Кавальчук, 34 г.; Павел, сын Яна, 12 г.; Пётр, сын Яна, 8 г.; Казімір, брат Яна, 36 г.; Кацярына, жонка Яна, 33 г.; Антаніна, жонка Казіміра, 33 г.; Тэкля, дачка Яна, 9 г.

10. Піліп Енка, 52 г.; Габрыэль, сын Піліпа, 10 г.; Ян, сын Піліпа, 3 г.; Стэфан, Хвашчэвіч, толькі жыве, 32 г.; Леон, сын Стэфана, 3 г.; Канстанцыя, жонка Піліпа, 42 г.; Агаф'я, дачка Піліпа, 15 г.; Юстына, жонка Стэфана, 31 г.; Анна, дачка Стэфана, 12 г.

11. Ян Кошка, 39 г.; Сымон, брат Яна, 36 г.; Міхал, брат Яна, 26 г.; Еўдакія, жонка Яна, 35 г.; Кацярына, жонка Сымона, 31 г.; Мар'яна, дачка Сымона, 16 г.; Тэафіля Кошка, пляменніца Еўдакія, 16 г.

12. Юзаф Ванчык, 62 г.; Ян, сын Юзафа, 32 г.; Антон, сын Юзафа, 19 г.; Мацей, сын Яна, 3 г.; жанчыны лацінскага абраду.

13. Габрыэль Енка, 35 г.; Тэадор Кавальчук, швагер, 25 г.; Анна, жонка Габрыэля, 31 г.; Альжбета, дачка Габрыэля, 1 г.; Анна, маці Габрыэля, 72 г.; Пракседа, жонка Тэадора, 24 г.; Параскева Гуштук, пакутніца, 49 г.

**Вёска Малышы таго ж ЯВп Важынскага**

1. Мужчыны лацінскага абраду; Канстанцыя Васілеўская, 55 г.; Агата Васілеўская, 30 г.

2. Бенядзікт Свістун, 35 г.; Францішак, сын Бенядзікта, 7 г.; Юзаф, сын Бенядзікта, 15 г.; Мацей, сын Бенядзікта, 2 г.; Васіль, Кажамяка, сын Мар'яны, 17 г.; Фустына, жонка Бенядзікта, 31 г.; Мар'яна, дачка Бенядзікта, 9 г.; Мар'яна ... , 42 г.; Караліна, дачка Мар'яны, 15 г.;

3. Мужчыны лацінскага абраду; Анастасія Васілеўская, 54 г.; Караліны, жонка Яна Клімовіча, 25 г.; Анна, дачка Яна Клімовіча, 2 г.

4. Амельян Грынкевіч, 64 г.; Тэадор Кавальчук, цётачны брат, 39 г.; Тэадор Мацюк, зяць Амельяна, 36 г.; Параскева, жонка Амельяна, 54 г.; Тэадора, жонка Тэадора Мацюка, 24 г.; Барбара, жонка Тэадора Кавальчука, 35 г.; Альжбета, дачка Кавальчука, 10 г.; Пелагея, дачка таго жа, 5 г.; Мар'яна, дачка таго жа, 2 г.

5. Мужчыны абраду лацінскага; Таццяна, маці Вінцэнта Васілеўскага, 70 г.; Тэадора, жонка Філіпа Васілеўскага, 23 г.

6. Ян Гарасімчык, 62 г.; Ян, сын Яна, 28 г.; Андрэй, сын таго жа Яна, 5 г.; Анастасія, жонка Яна, 63 г.; Агата, жонка Яна, 26 г.

7. Ян Кошка, 54 г.; Тэадор, сын Яна, 25 г.; Леон, сын Яна, 12 г.; Ваўжынец, брат Яна, 39 г.; Мар'яна, дачка Яна, 20 г.; Даміініка, жонка Тэадора, 30 г.

8. Лацінскага абраду.

9. Ян Свістун, 79 г.; Мацей, сын Яна, 44 г.; Раман, сын Мацея,11 г.; Вінцэнт, 8 г.; Цыпрыян, сын Мацея, 1 г.; Анна, жонка Яна,79 г.; Дарота, жонка Мацея, 39 г.

10. Ян Кепель, 54 г.; Мацей, сын Яна, 24 г.; Стэфан, сын Яна, 14 г.; Анна, жонка Яна, 54 г.; Мар'яна, дачка Яна, 11 г.; Элеанора, дачка Яна, 7 г.; Тэкля, дачка Яна, 3 г.; Анна, жонка Мацея, 21 г.

11. Язафат Енка, 29 г.; Францішак, брат Язафата, 15 г.; Ян, брат Язафата, 11 г.; Мар'яна, маці Язафата, 41 г.; Францішка, сястра Язафата,19 г.; Мар'яна, сястра Язафата, 8 г.

12. Ігнат Свістун, 28 г.; Ежы, брат стрыечны Ігната, 7 г.; Францішак, сын Ігната, 4 г.; Мар'яна, маці Ігната, 74 г.; Параскева, стрыечная сястра Ігната, 13 г.

13. Іллюк Таўкач, 59 г.; Кацярына, жонка Іллюка, 35 г.; Мар'яна, дачка Іллюка, 11 г.; Агата, дачка Іллюка, 7 г.; Элеанора, дачка Іллюка, 5 г.; Мар'яна Пракопчык, цешча

Іллюка, 56 г.

14. Васіль Бачок, 42 г.; Эльяш, сын Васіля, 10 г.; Антон, сын Васіля, 3 г.; Леон, сын Васіля, 1 г.; Тэадора, жонка Васіля, 40 г.; Агата, дачка Васіля, 7 г.; Анна, сястра Васіля, 26 г.

15. Ігнат Ярашэвіч, 60 г.; Ян, сын Ігната, 15 г.; Гарбрыэль Хвашчэвіч, 27 г.; Гжэгаш, сын Габрыэля, 1 г.; Рэгіна, жонка Ігната, 49 г.; Анастасія, дачка Ігната, 10 г.; Францішка, жонка Габрыэля, 25 г.

**Вёска Зінавічы таго ж ЯВп Важынскага**[86]

1. Сымон Васілеўскі, 80 г.; Зоф'я, жонка Францішка Васілеўскага, 27 г.

2. Мужчыны лацінскага абраду; Анастасія, жонка Стэфана Васілеўскага, 67 г.

3. Мужчыны лацінскага абраду; Анатстасія Гаель, служка, 46 г.

4. Бенядзікт Васілеўскі, 63 г.; Пётр, сын Бенядзікта, 22 г.; Юзаф, сын Бенядзікта, 17 г.; жанчыны лацінскага абраду.

**Вёска Вольгаўцы ЯВп Сяклюцкага, межавога суддзі Лідскага павета**

1. Дзмітрый Гардзей, 58 г.; Максім, сын Дзмітрыя, 27 г.; Стэфан, сын Максіма, 1 г.; Анна, жонка Дзмітрыя, 55 г.; Анна, дачка Дзмітрыя, 8 г.; Тэрэза, дачка Дзмітрыя, 14 г.; Анастасія, жонка Максіма, 29 г.

2. Аляксандр Гардзей, 64 г.; Міхал, брат Аляксандра, 52 г.; Марак, сын Аляксандра, 24 г.; Ян, сын Аляксандра, 21 г.; Анастасія, жонка Аляксандра, 54 г.; Хэлена, жонка Марака, 26 г.

3. Гжэгаш Багінь, 43 г.; Якуб, сын Гжэгаша, 22 г.; Францішак, сын Гжэгаша, 21 г.; Язафат, сын Гжэгаша, 3 г.; Ян, сын Гжэгаша, 1 г.; Тарэза, жонка Гжэгаша, 35 г.; Язафата, дачка Гжэгаша, 5 г.

4. Дамінік Гардзей, 35 г.; Ігнат, сын Даменіка, 10 г.; Тэадор, брат Даменіка, 32 г.; Барталамей, брат Даменіка, 22 г.; Міхал, сын Тэадора, 4 г.; Тэадора, жонка Даменіка, 37 г.; Тэкля, маці Даменіка, 62 г.; Юльяна, дачка Даменіка, 4 г.; Анастасія, жонка Тэадора, 24 г.; Зузана, дачка Тэадора, 1 г.

5. Лацінскага абраду.

6. Мужчыны лацінскага абраду. Людвіка, жонка Стэфана Заглускага, 34 г.; Анастасія, дачка Стэфана, 16 г.; Агата, дачка Стэфана, 10 г.; Крысціна, дачка Стэфана, 5 г.; Анна, жонка Міхала Руткевіча, 21 г.

7. Тамаш Каела, 30 г.; Якуб, брат Тамаша, 24 г.; Казімір, сын Тамаша, 3 г.; Анна, маці Тамаша, 63 г.; Разалія, жонка Тамаша, 28 г.; Вікторыя, дачка Тамаша, 7 г.; Караліна, дачка Тамаша, 1 г.

8. Габрыэль Каела, 60 г.; Марцін, сын Габрыэля, 33 г.; Андрэй, сын Габрыэля, 16 г.; Міхал, сын Габрыэля, 14 г.; Дамінік, 7 г.; Пелагія, жонка Габрыэля, 56 г.; Зоф'я, дачка Марціна, 3 г.; Рачэля, дачка Марціна, 1 г.; Анастасія Грынкевіч, 16 г.

9. Мужчыны лацінскага абраду; Мар'яна ..., 24 г.; Фустына, цётка Мар'яны, 38 г.

10. Павел Гырыч, 54 г.; Ян, сын Паўла, 24 г.; Юльян, сын Паўла, 22 г.; Гжэгаш, сын Паўла, 20 г.; Мар'яна Гардзей, кутніца, 58 г.

11. Юзаф Гырыч, 53 г.; Данель, пляменнік Юзафа, 18 г.; Станіслаў, сын Юзафа, 26 г.; Ян, сын Юзафа, 24 г.; Трахім, сын Юзафа, 19 г.; Францішак, сын Юзафа, 8 г.; Тэадор, сын Юзафа, 1 г.; Герасім, сын Станіслава, 1 г.; Тэкля, жонка Юзафа, 38 г.; Разалія, дачка Юзафа, 20 г.; Караліна, дачка Юзафа, 12 г.; Ягася, пляменніца Юзафа. 15 г.; Анастасія, жонка Станіслава, 27 г.; Агнешка ..., сястра, 12 г.

12. Гжэгаш Лізень, 54 г.; Міхал, сын Гжэгаша, 17 г.; Ян, сын Гжэгаша, 14 г.; Ян, сын Гжэгаша, 12 г.; Юзаф, сын Гжэгаша, 3 г.; Бахеля, жонка Гжэгаша, 43 г.; Агата, дачка Гжэгаша, 20 г.; Петранеля, дачка Гжэгаша, 7 г.; Анна, дачка Гжэгаша, 1 г.

13. Мацей, швагер Мацея Вайтовіча, 25 г.; Альжбета, жонка Мацея, 26 г.

14. Максім Гырыч, 78 г.; Андрэй, сын Максіма, 44 г.; Антон, сын Андруся, 19 г.; Ян, сын Андруся, 15 г.; Станіслаў Тамаш, сын Андруся, 1 г.; Францішка, жонка Андруся, 28 г.; Хэлена, дачка Андруся, 20 г.; Мар'яна, дачка Андруся, 16 г.; Анна, дачка Андруся, 12 г.

15. Тамаш Гардзей, 15 г.; Тэадор, брат Тамаша, 12 г.; Ян, Гардзей, сірата, 18 г.; Хэлена, маці Тамаша, 48 г.; Апалонія, сястра Тамаша, 18 г.; Разалія Калеснік, кутніца, 43 г.

16. Раман Гырыч, 14 г.; Васіль Гырыч, 35 г.; Юзаф, сын Васіля, 2 г.; Агата, маці Рамана, 38 г.; Магдалена, сястра Рамана, 11 г.; Тэкля, сястра Рамана, 7 г.; Кацярына, сястра Рамана, 3 г.; Мар'яна, жонка Васіля, 32 г.; Юльяна, дачка Мар'яны, 6 г.

17. Ян Гардзей, 73 г.; Раман Лізень, 40 г.; Баніфацый, сын Рамана, 11 г.; Тэадор, сын Рамана, 2 г.; Стэфан, бацька Рамана, 54 г.; Анастасія, пляменніца Яна, 14 г.; Тэкля, жонка Стэфана Гардзея, 25 г.; Еўдакія, жонка Рамана, 40 г.; Мар'яна, дачка Рамана, 16 г.; Юльяна, дачка Рамана, 12 г.

18. Казімір Лізень, 35 г.; Павел, сын Казіміра, 15 г.; Андрэй, брат Казіміра, 26 г.; Параскева, жонка Казіміра, 42 г.; Анастасія, дачка Казіміра, 22 г.; Мар'яна, дачка Казіміра, 14 г.; Анна, дачка Казіміра, 4 г.; Багуміла, дачка Казіміра, 2 г.

19. Лацінскага абраду.

20. Раман Багінь, 61 г.; Ежы, сын Рамана, 25 г.; Юзаф, сын Рамана, 22 г.; Альжбета, жонка Рамана, 59 г.; Петранеля, жонка Ежы, 30 г.

21. Мужчыны лацінскага абраду; Юльяна, жонка Яна Гардзея, 61 г.; Анна, жонка Яна Бразоўскага, 40 г.; Караліна, дачка Яна Бразоўскага, 3 г.

22. Ігнат Багінь, 39 г.; Стэфан, брат Ігната, 29 г.; Караль, сын Стэфана, 4 г.; Анна, жонка Ігната, 28 г.; Францішка, дачка Ігната, 3 г.; Юльяна, жонка Стэфана, 26 г.; Ева, маці Ігната, 63 г.

23. Гжэгаш Гардзей, 72 г.; Лукаш, сын Гжэгаша, 27 г.; Францішак, сын Гжэгаша, 23 г.; Мікалай, сын Гжэгаша, 19 г.; Мар'яна, жонка Гжэгаша, 58 г.; Цацылія, дачка Гжэгаша, 13 г.; Мар'яна, 13 г.; Мар'яна, жонка Францішка, 15 г.

24. Юзаф Каціла, 54 г.; Ігнат, сын Юзафа, 25 г.; Ян, сын Юзафа, 20 г.; Міхал, сын Юзафа, 13 г.; Людвік, сын Юзафа, 11 г.

**Вёска Канюшаны ЯВп Адольфа Шукевіча, б. падкаморага Лідскага павета**

1. Андрэй Дзянішчык, 37 г.; Тэадор, сын Андрэя, 9 г.; Мацей, брат Андрэя, 18 г.; Наталля, жонка Андрэя, 31 г.; Агата, сястра Андрэя, 26 г.

2. Сымон Бартэль, 37 г.; Максім, сын Сымона, 9 г.; Антон Кандрацюк, сірата, 18 г.; Тэрэза, жонка Сымона, 33 г.; Мар'яна, 4 г.; Юльяна Бурнос, кутніца, 62 г.

3. Філіп Станель, 22 г.; Еўдакія, бабка Філіпа, 73 г.; Крысціна, маці Філіпа, 45 г.; Мар'яна, жонка Філіпа, 22 г.;

[86] У візітацыі 1792 г. гэтай вёсцы яшчэ няма.

Тэкля, дачка Філіпа, 2 г.

4. Павел Кучэйка, 45 г.; Юзаф, сын Паўла, 15 г.; Анна, дачка Паўла, 18 г.

5. Пётр Савук, 34 г.; Ян, сын Пятра, 7 г.; Антон Станька, паўдомнік, 34 г.; Ягася, жонка Пятра, 32 г.; Канстанцыя, цётка Пятра, 10 г.; Зоф'я, дачка Пятра, 6 г.; Барбара, дачка Пятра, 3 г.; Тэадора, жонка Антона, 28 г.

6. Ян Кучэйка, 58 г.; Юзаф, брат Яна, 49 г.; Пётр, сын Юзафа, 14 г.; Казімір, сын Юзафа, 4 г.; Юзаф, сын Юзафа, 4 г.; Кацярына, жонка Яна, 39 г.; Праксeда, жонка Юзафа, 42 г.; Ружа, дачка Юзафа, 7 г.

7. Васіль Кучэйка, 46 г.; Ян, сын Васіля, 19 г.; Міхал, сын Васіля, 7 г.; Пётр, сын Васіля, 1 г.; Анна, жонка Васіля, 39 г.; Мар'яна, дачка Васіля, 13 г.; Еўдакія, дачка Васіля, 4 г.

8. Францішак Астапчык, 42 г.; Якуб, сын Францішка, 19 г.; Ян, сын Францішка, 13 г.; Мікалай, сын Францішка, 7 г.; Антон, сын Францішка, 3 г.; Тэадор, сын Францішка, 1 г.; Кацярына, жонка Францішка, 42 г.; Вікторыя, жонка Якуба, 20 г.; Агата, Бартэль, кутніца, 62 г.

9. Юзаф Дзянішчак, 53 г.; Аляксандр Чамхала, пляменнік, 14 г.; Гжэгаш Бартэль, паўдомнік, 36 г.; Ян, сын Гжэгаша, 1 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 30 г.; Пелагія, дачка Юзафа, 5 г.; Юльяна, падчарыца Юзафа, 11 г.; Тэкля, жонка Гжэгаша, 26 г.; Петранеля, дачка Гжэгаша, 7 г.; Хэлена, дачка Гжэгаша, 5 г.

10. Марак Кучэйка, 36 г.; Дзмітрый, сын Марака, 11 г.; Васіль, сын Марака, 3 г.; Мар'яна, жонка Марака, Еўдакія, дачка Марака, 15 г.; Кацярына, дачка Марака, 7 г.; Анна, дачка Марака, 1 г.

11. Дзмітрый Тамашчук, 72 г.; Францішак, сын Дзімітрыя, 33 г.; Мацей, сын Францішка, 11 г.; Гжэгаш, пляменнік Дзмітрыя, 15 г.; Цыпрыян, пляменнік Дзмітрыя, 12 г.; Барбара, жонка Францішка, 37 г.

12. Данель Станель, 31 г.; Ян, брат Данеля, 27 г.; Кацярына, жонка Дзмітрыя, 37 г.; Анастасія, маці Данеля, 73 г.; Пелагея, жонка Яна, 27 г.

**Вёска Ходараўцы ЯВп Адольфа Шукевіча**

1. Ігнат Савук, 52 г.; Андрэй, пляменнік Ігната, 5 г.; Сымон, пляменнік Ігната, 14 г.; Агата, жонка Ігната, 53 г.; Анастасія, дачка Ігната, 20 г.

2. Гжэгаш Корэц, 48 г.; Павел, сын Гжэгаша, 23 г.; Сцяпан, сын Гжэгаша, 11 г.; Антон, сын Гжэгаша, 9 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 14 г.; Ева, дачка Гжэгаша, 14 г.; Параскева, дачка Гжэгаша, 4 г.; Марта, ... 79 г.

3. Антон Бартэль, 55 г.; Лукаш, сын Антона, 28 г.; Сымон, сын Антона, 7 г.; Мікалай, сын Антона, 3 г.; Вінцэнт, сын Антона, 1 г.; Анастасія, жонка Антона, 31 г.; Кацярына, дачка, Антона, 12 г.; Хэлена, жонка Лукаша, 31 г.

4. Казімір Корэц, 49 г.; Гжэгаш, сын Казіміра, 19 г.; Параскева, жонка Казіміра, 43 г.; Пелагея, жонка Гжэгаша, 22 г.

5. Ян Савук, 65 г.; Амброзій, сын Яна, 25 г.; Ян, сын Яна, 4 г.; Тэадор, сын Яна, 1 г.; Марцеля, жонка Яна, 46 г.; Мар'яна, жонка Амброзія, 19 г.

6. Ежы Кучэйка, 42 г.; Пракоп Лук'ян, паўдомнік, 39 г.; Анна, жонка Ежы, 39 г.; Таццяна, дачка Ежы, 1 г.

7. Васіль Шчок, 55 г.; Лукаш, сын Васіля, 23 г.; Міхал, сын Лукаша, 2 г.; Параскева, жонка Васіля, 52 г.; Агнешка, жонка Лукаша, 23 г.

8. Ян Астапчык, 52 г.; Тэадор, пляменнік Яна, 13 г.; Якуб, пляменнік Яна, 10 г.; Юстына, братавая Яна, 35 г.; Анна, дачка Юстыны, 20 г.; Наталля, маці Юстыны, 84 г.

9. Ян Дзянішчык, 48 г.; Ян, сын Яна, 13 г.; Таццяна, жонка Яна, 45 г.; Хэлена ..., сястра Яна, 42 г.

10. Мікалай Бартэль, 34 г.; Барталамей Бартэль, 20 г.; Пётр, сын Мікалая, 4 г.; Андрэй, сын Мікалая, 1 г.; Марта, жонка Мікалая, 26 г.; Кацярына, дачка Мікалая, 7 г.; Караліна, маці Барталамея, рэкрутка, 53 г.; Еўдакія, сястра Барталамея, 12 г.

11. Лаўрук Бартэль, 65 г.; Ян, сын Лаўрука, 28 г.; Анна, жонка Лаўрука, 55 г.; Барбара, жонка Яна, 32 г.

12. Тадэвуш Шашок, 45 г.; Юзаф, сын Тадэвуша, 5 г.; Леон, сын Тадэвуша, 1 г.; Тэкля, жонка Тадэвуша, 38 г.; Альжбета, дачка Тадэвуша, 13 г.; Юстына, дачка Тадэвуша, 10 г.; Анна, дачка Тадэвуша, 7 г.

13. Станіслаў Кучэйка, 41 г.; Тэадор, сын Станіслава, 15 г.; Палаша, жонка Іосіфа Бартэля, 43 г.; Мар'яна, жонка Станіслава, 35 г.; Петранеля, дачка Станіслава, 10 г.; Агата, жачка Станіслава, 3 г.

**Двор Бярозаўка таго жа ЯВп Шукевіча**

Якуб Бартэль, 36 г.; Мацей Кучэйка, 30 г.; Ян Кандрацюк, 7 г.; Сымон Астапчык, 14 г.; Данель Станель, 19 г.; Юзаф Тамашчык, 20 г.; Еўдакія, жонка Якуба, 46 г.; Юзэфа, сястра Яна Астапчыка, 20 г.; Барбара, сястра таго жа Яна, 13 г.; Юльяна, маці Сымона Астапчыка, 49 г.; Элеанора, дачка Юльяны, 9 г.; Анна, дачка Юльяны, 5 г.; Марфа Кандрацюк, 66 г.;

**Вёска Карпейкі ЯВп Юзафа Філіповіча, харунжага Лідскага павета**[87]

1. Сымон Ярмантовіч, 36 г.; Захар Ярмантовіч, 31 г.; Базыль, сын Сымона, 5 г.; Анастасія, жонка Сымона, 30 г.; Анна, дачка Сымона, 1 г.

2. Лукаш Ярмантовіч, 43 г.; Бенядзікт, брат Лукаша, 17 г.; Міхал, брат Лукаша, 13 г.; Сідар, брат Лукаша, 9 г.; Аквіліна, жонка Лукаша, 45 г.; Агата, жонка Лукаша, 45 г.

3. Самуэль Ярмантовіч, 43 г.; Стэфан, сын Самуэля, 14 г.; Адам, сын Самуэля, 9 г.; Павел, брат Самуэля, 9 г.; Павел, брат Самуэля, 24 г.; Тэадор, сын Ганны Ярмантовіч, 5 г.; Юзаф, пляменнік Самуэля, 1 г.; Тэадора, жонка Самуэля, 43 г.; Антаніна, жонка Паўла, 23 г.

4. Васіль Паляк, 52 г.; Ян, сын Васіля, 20 г.; Міхал, сын Васіля, 13 г.; Тэадор, сын Васіля, 10 г.; Стэфан, сын Васіля, 4 г.; Ефрасіння, жонка Васіля, 29 г.; Караліна, 9 г.; Антаніна, дачка Васіля, 2 г.; Кацярына, маці Васіля, 82 г.; Еўдакія, пляменніца Васіля, 16 г.

5. Сымон Ярмантовіч, 59 г.; Тадэвуш, сын Сымона, 13 г.; Аляксандр Войдзель, зяць Сымона, 32 г.; Тэадора, жонка Сымона, 59 г.; Францішка, дачка Сымона, 18 г.; Дамініка, жонка Аляксандра, 34 г.; Мар'яна, дачка Аляксандра, 9 г.; Аквіліна, дачка Аляксандра, 5 г.; Антаніна, дачка Аляксандра, 2 г.

6. Мужчыны лацінскага абраду, Крысціна Ярмантовіч, кутніца, 58 г.

7. Мацей Рамашкевіч, 66 г.; Данель, сын Мацея, 26 г.; Францішак, сын Мацея, 9 г.; Ілюк Ярмантовіч, зяць Мацея, 36 г.; Марак Жук, 8 г.; Анна, жонка Данеля, 25 г.; Анна, маці Марака Жука, кутніца, 42 г.

8. Міхал Рамашкевіч, 77 г.; Захар, сын Міхала, 41 г.; Аляксандр, сын Захара, 14 г.; Ян, сын Захара, 7 г.; Тарэза, жонка Захара, 43 г.; Юльяна, дачка Захара, 1 г.

9. Стэфан Касцюкевіч, 30 г.; Захар, сын Стэфана, 6 г.; Анна, жонка Стэфана, 28 г.; Юльяна, дачка Стэфана, 1 г.; Юльяна, жонка Казіміра Вішнеўскага, 34 г.; Мар'яна, дачка таго ж Казіміра, 9 г.

10. Мацей Ярмантовіч, 35 г.; Ян, брат Мацея, 26 г.;

[87] У візітацыі 1792 г. гэтай вёсцы яшчэ няма.

Мікалай, брат Мацея, 31 г.; Ігнат, брат Мацея, 31 г.; Ігнат, сын Яна, 5 г.; Тэрэза, жонка Мацея, 37 г.; Агата, дачка Мацея, 13 г.; Тэрэза, жонка Яна, 29 г.; Петранеля, дачка Яна, 1 г.; Агата, жонка Мацея, 66 г.; Анна, жонка Мікалая, 26 г.; Альжбета, дачка Мікалая, 2 г.

11. Бенядзікт Войдзель, 74 г.; Стэфан, сын Бенядзікта, 33 г.; Сымон, сын Бенядзікта, 25 г.; Ксаверый, сын Стэфана, 9 г.; Магдалена, жонка Стэфана, 31 г.; Альжбета, дачка Стэфана, 1 г.; Мар'яна, Касцюкевіч, сястра Бенядзікта, 64 г.

12. Павел Ярмантовіч, 56 г.; Тэадор, сын Паўла, 31 г.; Сымон, сын Паўла, 20 г.; Мікалай, сын Паўла, 16 г.; Стэфан, сын Тэадора, 11 г.; Петранеля, жонка Тэадора, 9 г.; Дамініка, дачка Тэадора, 9 г.; Хэлена, дачка Тэадора, 5 г.; Люцыя, дачка Тэадора, 1 г.

**Вёска Баяры таго ж ЯВп Філіповіча**[88]

1. Ян Камінскі, 31 г.; Якуб, сын Яна, 9 г.; Базыль, сын Яна, 4 г.; Ружа, маці Яна, 65 г.; Юльяна, жонка Яна, 33 г.;

2. Сымон Ярмантовіч, 37 г.; Тэадор, пляменнік Сымона, 17 г.; Вінцэнт, пляменнік Сымона, 16 г.; Юзаф, пляменнік Сымона, 14 г.; Яўхім, пляменнік Сымона, 9 г.; Ян, сын Сымона, 8 г.; Марцэля, братавая Сымона, 45 г.; Кацярына, пляменніца Сымона, 21 г.; Кацярына, жонка Сымона, 29 г.; Тэкля, дачка Сымона, 1 г.;

3. Ян Ярмантовіч, 47 г.; Марак, сын Яна, 13 г.; Ігнат, сын Яна, 3 г.; Кацярына, жонка Яна, 34 г.; Цацылія, дачка Яна, 2 г.; Ева Ярмантовіч, кутніца, 59 г.; Кацярына Кулеш, кутніца, 66 г.

4. Тамаш Ярмантовіч, 33 г.; Васіль, сын Тамаша, 8 г.; Міхал, сын Тамаша, 5 г.; Мікалай Ярмантовіч, 24 г.; Даміцэля, жонка Тамаша, 28 г.; Анна, маці Мікалая Ярмантовіча, 64 г.; Магдалена, сястра таго ж Мікалая, 17 г.; Караліна, сястра таго ж Мікалая, 14 г.

5. Аляксандр Шарапа, 31 г.; Леон, брат Аляксандра, 28 г.; Тэадор, брат Аляксандра, 23 г.; Анастасія, маці Аляксандра, 56 г.; Францішка, сястра Аляксандра, 20 г.

**Вёска Сяркі таго ж ЯВп Філіповіча**[89]

1. Мацей Ярмантовіч, 67 г.; Ілюк, сын Мацея, 33 г.; Захар, сын Ілюка, 8 г.; Мар'яна, жонка Мацея, 69 г.; Анна, жонка Ілюка, 38 г.; Марцеля, дачка Ілюка, 13 г.; Анастасія, дачка Ілюка, 4 г.

2. Лукаш Грамыка, 54 г.; Бенядзікт Ярмантовіч, ... 17 г.; Ігнат Ярмантовіч, паўдомнік, 25 г.; Альжбета, жонка Лукаша, 39 г.; Ефрасіння, жонка Ігната, 33 г.

3. Мікалай Рамашкевіч, 74 г.; Гжэгаш, унук Мікалая, 11 г.; Юзаф, сын Мікалая, 33 г.; Дзмітрый, сын Юзафа, 11 г.; Ян, сын Юзафа, 1 г.; Мар'яна, жонка Мікалая, 64 г.; Агнешка, жонка Юзафа, 31 г.

4. Юзаф Ярмантовіч, 55 г.; Ян, сын Юзафа, 16 г.; Раман, сын Юзафа, 1 г.; Стэфан Клюкевіч, цесць Юзафа, 71 г.; Кацярына, жонка Юзафа, 40 г.; Магдалена, жонка Стэфана, 62 г.; Кацярына, дачка Стэфана, 30 г.

5. Ян Алюкевіч, 42 г.; Васіль, сын Яна, 12 г.; Барталамей, сын Яна, 9 г.; Аляксандр, сын Яна, 5 г.; Францішка, жонка Яна, 44 г.; Тэафіла, дачка Яна, удава, 24 г.; Язафата, дачка Яна, 17 г.; Юстына Ярмантовіч, кутніца, 56 г.

6. Захар Ярмантовіч,73 г.; Трахім, сын Захара, 26 г.; Стэфан Клюкевіч, падкідыш, 8 г.; Кацярына, жонка Захара, 52 г.; Магдалена, жонка Трахіма, 25 г.; Таццяна, дачка Трахіма, 5 г.

7. Пётр Цынкевіч, 52 г.; Раман Жучок, 25 г.; Пелагея, жонка Пятра, 56 г.; Кацярына, дачка Пятра, 20 г.; Агата, дачка Пятра, 14 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 10 г.; Анастасія, дачка Пятра, 7 г.

8. Карп Цынкевіч, 31 г.; Міхал, брат Карпа, 20 г.; Ян, сын Карпа, 2 г.; Юзаф, сын Карпа, 3 г.; Агнешка, жонка Карпа, 30 г.; Анна, пляменніца Карпа, 8 г.; Мар'яна Паляк, служка, 12 г.

**Карчма Хацяновічы**

Мужчыны лацінскага абраду; Ева, жонка Гжэгаша Камінскага, 41 г.; Петранеля, дачка таго ж Гжэгаша, 20 г.; Вікторыя, дачка таго ж Гжэгаша, 16 г.; Антаніна, дачка таго ж Гжэгаша, 7 г.; Разалія, дачка Гжэгаша,7 г.

**Двор Хацяновічы**

Стэфан Ярмантовіч, 70 г.; Тэадор Ярмантовіч, 16 г.; Раман, брат Тэадора, 13 г.; Ян Ярмантовіч, 20 г.; Мар'яна Клюкевіч, 17 г.

| Назва мясцін | Разам | Дымы | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Голдава разам з дваром | 164 | 22 | 57 | 31 | 61 | 15 |
| Вёска Вялікае Сяло | 172 | 29 | 65 | 23 | 61 | 23 |
| Вёска Агароднікі | 91 | 13 | 33 | 11 | 38 | 9 |
| Вёска Малышы | 52 | 15 | 25 | 13 | 32 | 12 |
| Вёска Зінавічы | 7 | 4 | 4 | | 3 | |
| Вёска Вольгаўцы | 152 | 24 | 59 | 17 | 57 | 19 |
| Вёска Ходараўцы з дваром | 88 | 13 | 32 | 13 | 35 | 8 |
| Вёска Канюшаны | 79 | 12 | 29 | 12 | 27 | 11 |
| Вёска Карпейкі | 84 | 12 | 32 | 26 | 13 | 13 |
| Вёска Баяры | 36 | 8 | 12 | 7 | 14 | 3 |
| Вёска Сяркі разам з карчмой і дваром | 64 | 8 | 22 | 10 | 25 | 7 |
| Разам | 1119 | 157 | 370 | 379 | 150 | 120 |

Гэты інвентар вернікаў парафіяльнай Голдаўскай царквы 20 жніўня 1829 г. склаў і уласнай рукой святар Мацей Бараноўскі

[88] У візітацыі 1792 г. гэтай вёсцы яшчэ няма.
[89] У візітацыі 1792 г. гэтай вёсцы яшчэ няма.

**Парафіяне Баброўскай грэка-каталіцкай цэрквы ў 1829 г.** [90]

**Дзедзічная вёска Бабры ЯВп Важынскіх**

1. Тамаш Гагалушка, 24 г.; Ян Харытановіч, 13 г.; Юзаф Харытановіч, 9 г.; Ежы, сын Тамаша Гагалушкі, 1 г.; Анна, жонка Тамаша, 21 г.; Клара, маці Анны, 45 г.

2. Барталамей Гагалушка, 50 г.; Параскева, жонка Барталамея, 35 г.; Анна, дачка Барталамея, 16 г.; Люцыя, дачка Барталамея, 13 г.; Тэадора, дачка Барталамея, 14 г.

3. Лукаш Чыжык, 69 г.; Ян, сын Лукаша, 28 г.; Якуб, сын Яна, 3 г.; Анна, жонка Лукаша, 68 г.; Пеланіца, жонка Яна, 23 г.; Марцяна, дачка Лукаша, 17 г.

4. Стэфан Крыпень, 27 г.; Ігнат Харытановіч, 23 г.; Вінцэнт, сын Стэфана, 6 г.; Пётр, сын Ігната Харытановіча, 1 г.; Анастасія, жонка Стэфана, 29 г.; Саламея, жонка Ігната, 21 г.; Даміцэля, дачка Сэфана, 2 г.

5. Лукаш Харытановіч, 31 г.; Казімір, брат Лукаша, 21 г.; Змітрук, брат Лукаша, 11 г.; Кацярына, жонка Лукаша, 23 г.; Мар'яна, дачка Лукаша, 4 г.

6. Міхал Гагалушка, 28 г.; Андрэй Крыпень,17 г.; Ян, сын Міхала Гагалушкі, 7 г.; Хэлена Крыпень, 68 г.; Мар'яна, жонка Міхала, 28 г.; Ульяна, дачка Стэфана Крыпеня, 9 г.; Караліна, дачка Міхала Гагалушкі, 3 г.

7. Васіль Крыпень, 53 г.; Данель, сын Васіля, 23 г.; Міхал, сын Данеля, 5 г.; Пётр Касцюк, служка, 23 г.; Хэлена, жонка Васіля, 55 г.; Анастасія, жонка Данеля, 27 г.

8. Тэадор Пуцька, 53 г.; Раман Барувіч, зяць Тэадора, 37 г.; Юзаф, сын Рамана Барувіча, 6 г.; Саламея, жонка Тэадора, 78 г.; Тэрэса, жонка Рамана, 33 г.; Паўліна, дачка Рамана, 2 г.

9. Тэадор Лепешка, 48 г.; Філіп, сын Тэадора, 27 г.; Вінцэнт, сын Тэадора, 5 г.; Юзаф, сын Філіпа, 1 г.; Францішка, жонка Тэадора, 50 г.; Мар'яна, дачка Тэадора, 18 г.; Кацярына, дачка Тэадора, 13, Анастасія, жонка Філіпа, 20 г.

10. Пётр Крыцкі, 32 г.; Апанас, сын Пятра, 10 г.; Анна, маці Пятра, 60 г.; Францішка, жонка Пятра, 32 г.; Анастасія, сястра Пятра, 18 г.; Петранеля, дачка Пятра, 1 г.

11. Раман Чыжык, 48 г.; Ян, сын Рамана, 23 г.; Казімір,сын Рамана Чыжыка, 1 г.; Антаніна, жонка Рамана, 48 г.; Мар'яна, жонка Яна, 22 г.; Анна Лабан, служка, 13 г.

12. Лукаш Чыжык, 78 г.; Васіль, сын Лукаша, 41 г.; Тэадор, сын Рамана Чыжыка, 16 г.; Базыль, сын Васіля Чыжыка, 8 г.; Анна, жонка Васіля Чыжыка, 38 г.; Юстына, жонка Тэадора, 20 г.; Тэадора, дачка Васіля, 2 г.

13. Сымон Карабач, 53 г.; Ян Крыцкі, 32 г.; Ігнат, сын Сымона Карабача, 18 г.; Мікіта, сын Яна Крыцкага, 9 г.; Лаўрын, сын Яна, 5 г.; Кацярына, жонка Яна Крыцкага, 38 г.; Вікторыя, дачка Сымона, 13 г.; Магдалена, дачка Яна Крыцкага, 2 г.

**Вёска дзедзічная Пяскі (Пескаўцы) таго жа ЯВп Важынскага**

1. Андрэй Пуцька, 63 г.; Павел, сын Андрэя Пуцькі, 38 г.; Мацей, сын Андрэя Пуцькі, 40 г.; Змітрук, сын Андрэя, 26 г.; Пракоп, сын Паўла Пуцькі, 8 г.; Саламея, жонка Паўла Пуцькі, 28 г.; Тацціяна, маці Саламеі, 68 г.; Аксіння, дачка Тацціяны, 15 г.; Мар'яна, дачка Паўла Пуцькі, 10 г.; Альжбета, дачка Паўла, 4 г.; Кацярына, дачка Паўла, 3 г.; Тэрэза, дачка Паўла, 1 г.

2. Змітрук Карабач, 64 г.; Мікалай, сын Змітрука, 10 г.; Леон, сын Змітрука, 5 г.; Францішак Гілюк, служка, 20 г.; Юстына, жонка Змітрука, 40 г.; Міхаліна, дачка Юстыны, 5 г.; Юстына, дачка Юстыны, 4 г.; Мар'яна, дачка Змітрука, 15 г.; Караліна, дачка Змітрука, 8 г.

3. Марцін Гагалушка, 28 г.; Ігнат, брат Марціна, 18 г.; Якуб, брат Марціна, 15 г.; Юстына, маці Марціна, 50 г.; Мар'яна, жонка Марціна, 23 г.; Вікторыя, дачка Марціна, 5 г.; Юстына, дачка Марціна, 1 г.; Хэлена, жонка Ігната, 19 г.

4. Тэадор Гагалушка, 32 г.; Захар, брат Тэадора, 28 г.; Якуб, брат Тэадора, 20 г.; Ян, брат Тэадора, 17 г.; Лаўрын, сын Тэадора, 10 г.; Вінцэнт, сын Тэадора, 5 г.; Мар'яна, маці Тэадора, 53 г.; Ружа, жонка Тэадора, 28 г.; Анастасія, дачка Тэадора, 2 г.; Зоф'я, жонка Захара, 20 г.

5. Марцін Дадашка, 53 г.; Аляксандр, сын Марціна, 17 г.; Францішак, сын Марціна, 16 г.; Ружа, жонка Марціна, 48 г.; Кацярына, жонка Аляксандра, 19 г.; Аляксандра, цётка Марціна, 73 г.

6. Леон Гагалушка, 36 г.; Ян, брат Леона, 21 г.; Юзаф, сын Леона, 9 г.; Вінцэнт, сын Леона, 6 г.; Мар'яна, жонка Леона, 23 г.; Магдалена, дачка Леона, 15 г.; Караліна, дачка Леона, 1 г.

7. Раман Лабан, 58 г.; Мікалай, сын Рамана, 20 г.; Максім, сын Рамана, 15 г.; Лука, сын Рамана Лабана, 10 г.

**Баброўскі шпіталь**

Стэфан Пуцька, 60 г.; Максім Пуцька, 52 г.; Казімір, сын Максіма Пуцькі, 10 г.; Зоф'я, жонка Стэфана Пуцькі, 60 г.; Наталля, жонка Максіма Пуцькі, 57 г.; Клара, дачка Максіма, 5 г.

**Дзедзічная вёска Леснікі ЯВп Горскага**

1. Ян Юхневіч, 40 г.; Лукаш, сын Яна, 1 г.; Прузына, жонка Яна, 30 г.; Петранеля, 25 г.; Альжбета, сястра Яна, 18 г.; Анна, дачка Яна, 3 г.

2. Антон Гуліс, 40 г.; Марцін, брат Антона, 30 г.; Мар'яна, жонка Марціна, 23 г.; Альжбета, дачка Марціна, 2 г.

3. Міхал Малец, 60 г.; Юзаф, брат Міхала, 45 г.; Казімір Кібілда, 17 г.; Кацярына, жонка Міхала, 60 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 45 г.; Еўдакія, дачка Юзафа, 7 г.; Ульяна, дачка Міхала, 15 г.

4. Захар Пазняк, 43 г.; Мікалай, сын Захара, 8 г.; Базыль, сын Захара, 6 г.; Прузына Савіцкая, цешча Захара, 70 г.; Еўдакія, жонка Захара, 30 г.; Агата Савіцкая, 18 г.; Францішка, дачка Захара, 4 г.; Канстанцыя, дачка Захара, 1 г.

5. Антон Гойка, 80 г.; Стэфан, брат Антона, 70 г.; Стэфан, сын Антона, 20 г.; Ян, сын Стэфана, 21 г.; Анастасія, жонка Антона, 70 г.; Аксіння, жонка Стэфана, 56 г.; Францішка, дачка Стэфана, 15 г.

6. Міхал Карней, 25 г.; Сымон, брат Міхала, 23 г.; Ян, брат, 19 г.; Анастасія, жонка Міхала, 19 г.; Аксіння, жонка Стэфана, 19 г.; Аксіння, дачка Міхала, 1 г.

7. Яўхім Ярашэвіч, 30 г.; Філіп, сын Яўхіма, 9 г.; Петранеля, жонка Яўхіма, 30 г.; Караліна, дачка Яўхіма, 5 г.; Крысціна, дачка Яўхіма, 4 г.; Альжбета, дачка Яўхіма, 2 г.

8. Тэадор Малец, 30 г.; Эльяш, брат Тэадора, 26 г.; Дарафей, сын Тэадора, 8 г.; Гжэгаш, сын Тэадора, 2 г.; Анна, маці Тэадора, 60 г.; Язафата, жонка Тэадора, 30 г.; Кацярына, жонка Эльша, 25 г.; Анна, дачка Тэадора, 5 г.

9. Гжэгаш Пазняк, 25 г.; Стэфан, сын Гжэгаша, 3 г.; Юстына, жонка Гжэгаша, 23 г.; Зоф'я, дачка Гжэгаша, 1 г.; Наталля ..., 9 г.

10. Юзаф Леванцэвіч, 45 г.; Ян, брат Юзафа, 35 г.; Базыль, сын Юзафа, 15 г.; Ежы, сын Яна, 7 г.; Лукаш, сын Яна Леванцэвіча, 1 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 45 г.; Мар'яна, жонка Яна, 30 г.; Анастасія, дачка Яна, 9 г.

11. Якуб Клімаш, 20 г.; Юзаф, брат Якуба, 13 г.; Ян, брат Якуба, 11 г.; Станіслаў, сын Канстанцыі Радзюк, 2 г.; Кацярына, маці Якуба, 60 г.; Пелагея, жонка Якуба, 18 г.; Агата, сястра Якуба, 30 г.; Мар'яна, сястра Якуба, 9 г.

[90] ДГАЛ Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай грэка-каталіцкага дэканату 1829 г. А. 22-25.

12. Мікалай Гомза, 50 г.; Габрыэль, брат Мікалая, 23 г.; Ян, сын Мікалая, 20 г.; Пётр, сын Мікалая, 3 г.; Тэрэза, жонка Яна Гомзы, 20 г.; Тэадора, дачка Мікалая, 8 г.

13. Пётр Венска, 55 г.; Дамінік Карней, 20 г.; Марцін, сын Пятра, 10 г.; Крысціна, жонка Пятра, 50 г.; Анна, жонка Дамініка, 23 г.; Кацярына, дачка Пятра, 7 г.; Канстанцыя, дачка Пятра, 2 г.

14. Філіп Губейка, 30 г.; Антон Дадашка, 28 г.; Ульяна, маці Філіпа, 79 г.; Хэлена, жонка Антона, 25 г.; Ульяна, цётка Яна Радзюка, 19 г.; Разалія, дачка Філіпа, 9 г.; Магдалена, дачка Філіпа, 4 г.

15. Мацей Ушчэнчык, 37 г.; Станіслаў Губейка, 19 г.; Міхал, сын Мацея, 7 г.; Агаф'я, жонка Мацея, 32 г.; Анна, сястра Агаф'і, 20 г.; Канстанцыя, дачка Мацея, 12 г.; Разалія, дачка Мацея, 4 г.; Люцыя, дачка Мацея, 1 г.

16. Ян Зайка, 23 г.; Адам, брат Яна, 20 г.; Зоф'я, маці Яна Зайкі, 50 г.; Альжбета, жонка Яна, 21 г.; Мар'яна, сястра Яна, 17 г.; Анна, сястра Яна, 10 г.; Аляксандра, сястра Яна, 5 г.

17. Змітрук Радзюк, 70 г.; Юзаф, сын Змітрука, 30 г.; Ян Яловік, 45 г.; Павел, сын Яна Яловіка, 2 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 30 г.; Крысціна, жонка Яна Яловіка, 35 г.

18. Міклай Губейка, 65 г.; Кірыла Ашмяна, 40 г.; Юзаф, сын Мікалая, 16 г.; Таццяна, жонка Кірылы Ашмяны, 22 г.; Ульяна, жонка Мікалая Губейкі, 55 г.; Ева, дачка Мікалая, 1 г.

19. Юзаф Малец, 53 г.; Данель, сын Юзафа, 19 г.; Амельян, сын Юзафа, 7 г.; Тэадора, жонка Юзафа, 45 г.; Тэадора, жонка Данеля, 20 г.; Хрысціна, дачка Юзафа, 9 г.

20. Пракоп Малец, 50 г.; Якуб, сын Пракопа, 20 г.; Базыль, сын Гжэгаша Мальца, 8 г.; Анна, дачка Пракопа, 19 г.; Анастасія, жонка Гжэгаша, Мальца, 30 г.; Агата, жачка Анастасіі, 2 г.

21. Андрэй Радзюк, 45 г.; Аляксандр, брат Андрэя, 26 г.; Марцяна, жонка Андрэя, 30 г.; Хрысціна, жонка Аляксандра, 25 г.; Дамініка, дачка Андрэя, 18 г.; Мар'яна, дачка Андрэя, 15 г.

22. Тамаш Малец, 50 г.; Лаўрын Паварга, 30 г.; Стэфан Малец, 30 г.; Тэрэза, жонка Тамаша, 40 г.; Мар'яна, жонка Лаўрына, 40 г.; Крысціна, жонка Стэфана, 30 г.; Тэадора Малец, 18 г.; Яна, дачка Лаўрына, 1 г.

23. Ежы Кібілда, 37 г.; Сымон Кібілда, 25 г.; Максім, сын Ежы, 18 г.; Амельян, сын Ежы, 8 г.; Андрэй, сын Ежы, 5 г.; Кацярына, жонка Ежы, 30 г.

24. Геранім Малец, 40 г.; Якуб, сын Геранімa, 19 г.; Ігнат, сын Геранімa, 8 г.; Лукаш, сын Геранімa, 6 г.; Ян, сын Геранімa, 5 г.; Караль, сын Геранімa, 2 г.; Хрысціна, жонка Геранімa, 40 г.; Яна, дачка Геранімa, 18 г.; Мар'яна, дачка Геранімa, 12 г.; Агата, дачка Геранімa, 5 г.

25. Кандрат Малец, 69 г.; Сымон, сын Кандрата, 30 г.; Павел, сын Сымона, 3 г.; Ян Паварга, 8 г.; Мар'яна, жонка Сымона, 26 г.; Анна, дачка Кандрата, 18 г.

26. Андрэй Шыран, 50 г.; Ян, сын Андрэя, 19 г.; Юзаф, сын Андрэя, 16 г.; Сымон, сын Андрэя, 15 г.; Тэадор, сын Андрэя, 6 г.; Ян, сын Андрэя, 2 г.; Анастасія, жонка Андрэя, 40 г.; Юстына, жонка Яна, 20 г.; Аксіння Паварга, 9 г.; Вікторыя Паварга, 7 г.

**Дзедзічная вёска Цацкі Найсвяцейшых ягамосцяў князёў Радзівілаў**

1. Пётр Шчотка, 40 г.; Ян Казёл, 30 г.; Ян, сын Пятра, 4 г.; Данель, сын Пятра, 2 г.; Марак, сын Яна Казла, 2 г.; Павел, сын Яна Казла, 1 г.; Анна, жонка Пятра Шчоткі, 35 г.; Магдалена, жонка Яна Казла, 30 г.; Караліна, дачка Пятра Шчоткі, 10 г.; Петранеля, дачка Пятра, 7 г.; Мар'яна Лукашэвіч, 20 г.; Тэадора Лукашэвіч, маці Анны, 70 г.

2. Сымон Падгайскі, 50 г.; Казімір Лукашэвіч, 29 г.; Стэфан, сын Сымона, 14 г.; Дамінік, сын Сымона Падгайскага, 12 г.; Тэадор, сын Сымона, 9 г.; Хрысціна, жонка Сымона Падгайскага, 40 г.; Язафата, дачка Сымона, 5 г.; Хрысціна, дачка Сымона, 2 г.; Тэкля Лукашэвіч, 65 г.; Анна Лукашэвіч, 23 г.

3. Пётр Лукашэвіч, 80 г.; Лукаш, сын Пятра, 42 г.; Габрыэль, сын Пятра, 38 г.; Адам, сын Лукаша, 10 г.; Міхал, сын Габрыэля, 7 г.; Юльян, сын Габрыэля, 1 г.; Клара, жонка Лукаша, 35 г.; Петранеля, жонка Габрыэля, 33 г.; Канстанцыя Лукашэвіч, 22 г.; Ева, дачка Лукаша, 4 г.; Анастасія, дачка Габрыэля, 5 г.

4. Міхал Лукашэвіч, 50 г.; Караль, сын Міхала, 19 г.; Мікалай, брат Міхала, 25 г.; Антаніна, жонка Міхала, 50 г.; Кацярына, дачка Міхала, 15 г.; Разалія, дачка Міхала, 8 г.; Мар'яна, дачка Міхала, 4 г.

5. Міхал Зайка, 40 г.; Марак, брат Міхала, 30 г.; Ян, сын Міхала, 6 г.; Юзаф, сын Марка, 8 г.; Анна, жонка Міхала, 45 г.; Магдалена, дачка Міхала, 18 г.; Мар'яна, дачка Міхала, 10 г.

6. Мацей Лукашэвіч, 77 г.; Юзаф Лукашэвіч, 40 г.; Ян, брат Юзафа, 30 г.; Якуб Анашкевіч, 30 г.; Юзаф, сын Юзафа Лукашэвіча, 1 г.; Анна, жонка Мацея, 60 г.; Анна, жонка Юзафа, 33 г.; Петранеля, дачка Юзафа, 15 г.; Захваця, дачка Юзафа, 12 г.; Хэлена, дачка Юзафа, 10 г.; Мар'яна, дачка Юзафа, 8 г.

7. Ян Царэвіч, 20 г.; Тэкля, маці Яна і Пятра Царэвічаў, 70 г. Дарота, жонка Гжэгаша Савіцкага, 35 г.; Ева, дачка Мікалая Савіцкага, 20 г.; Анна, жонка Юзафа Савіцкага, 35 г.; Язафата, дачка Гжэгаша Савіцкага, 15 г.; Анна, дачка Мікалая Савіцкага, 15 г.; Кацярына, дачка Барталамея Царэвіча, 20 г.; Хвіліна, жонка Мацея Царэвіча, 36 г.; Разалія, жонка Ежы Царэвіча, 50 г.; Хэлена, дачка Ежы Царэвіча, 20 г.

**Дзедзічная вёска Хадзюкі Андрэйкавіча**

1. Федар Дубарэвіч, 55 г.; Пётр, сын Тэадора, 7 г.; Ежы, сын Тэадора Дубарэвіча, 1 г.

2. Юзаф Амельянчык, 50 г.; Базыль, сын Юзафа Амельянчыка, 5 г.; Пётр Міська, 29 г.

| Назва мясцін | Дымы | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Вёска Пяскі (Пескаўцы) | 7 | 21 | 8 | 17 | 12 |
| Вёска Бабры | 13 | 31 | 15 | 33 | 10 |
| Вёска Леснікі | 26 | 61 | 27 | 62 | 31 |
| Вёска Цацкі | 7 | 19 | 11 | 31 | 8 |
| Вёска Хадзюкі | 2 | 3 | | 3 | |
| Разам | 55 | 135 | 64 | 143 | 61 |

Гэты інвентар вернікаў парафіяльнай Баброўскай царквы 24 жніўня 1829 г. склаў і ўласнай рукой падпісаў святар Юзаф Канаховіч.

***Яраслаў Куркоўскі***

# Піяры ў Воранаве і Лідзе (1735 - 1845)

**Лідскі перыяд**

На патрэбы лідскіх піяраў фундатар Ігнацы Сцыпіён ахвяраваў пляц, куплены ў 1749 г. ад Людвікі Гадэбскай. У фундацыйным дакуменце ён абавязаўся давесці да размежавання Лапацішак і заканчэння такім чынам цягнуўшайся ўжо доўгі час межавой спрэчкі. Падчас канікулаў у 1756 годзе ў Ліду прыбылі воранаўскі прэфект Юзаф Астроўскі, як супрыёр лідскі, а таксама Юзаф Кутжынскі (Кэнтжынскі), віленскі кафедральны прапаведнік, прызначаны прэфектам школы. З прыбыццем піяраў звязаны анекдот пра павешанне звона на карчме - што меўся зрабіць бургамістр горада - і такім чынам карчма сталася школьным домам[74]. Вайшвіла намагаўся ў гарадскім архіве знайсці пацвярджэнне для той легенды, якую прызнаваў за праўдападобную, бо падазраваў, што гэта кармеліты намагаліся перашкодзіць аседласці ордэна духоўных школаў у Лідзе, высмейваючы піярскую адукацыю ў вачах акалічных абываццеляў. Ён меў у руках *"лісты (...), якія знайходзіліся ў архіве Лідскай плябані"*, з якіх вынікала, што кармеліты ездзілі па той справе нават у Апостальскую Сталіцу[75]. Паколькі піяры адносна позна адкрывалі свае пляцоўкі ў Рэчы Паспалітай (а асабліва ў Літве), натыкаліся яны часта на моцны супраціў ордэнаў ужо дзейных, перадусім езуітаў[76], але як сведчыць прыклад Ліды - таксама, напрыклад, кармелітаў. Аднак нельга спрэчкам піярска-езуіцкім надаваць асаблівую ўвагу і бачыць у іх нешта большае, чым барацьбу з канкурэнтамі за *"рынак асветы"*, можа толькі больш гэта кідаецца ў вочы ў XVIII ст. з погляду на пазіцыі і значэнне езуітаў, а таксама славу Станіслава Канарскага і яго рэформ.

У тых умовах не здзіўляе, што піярская школа ў Лідзе была адкрыта адразу па прыездзе першых манахаў. Акрамя згаданага Юзафа Кутжынскага, вучыў у ёй прыбылы з Дубровіцы Юзаф Выслаўх. *"Вучні з Веранова перабраліся сюды ў большасці, калі не ўсе (...)"*[77]. Было іх каля 50[78]. Адразу паўсталі *"вышэйшыя класы"*. Бліскавічна таксама пабудавалі дом для размяшчэння 12 піяраў, абрыс фундаментаў якога быў відзён яшчэ ў часы Вайшвілы, і касцёлік з 3 алтарамі пад празваннем Юзафа Каласантага, *"пасунуты да вуліцы Віленскай і галавой да яе павернуты"*[79]. Нарэшце 25 кастрычніка 1762 г. лідскія піяры атрымалі пацвярджэнне фундушу і ўласнасці лідскіх пляцаў з рук караля Аўгуста III[80].

У часы рэктарату Войцеха Камароўскага (Войцех ад св. Себасцяна, 1723-1767, начальнік у Лідзе, 1763-1767) і Казіміра Яблонскага (Валенты, Казімір ад св. Валентага, 1723 - 1782, рэктар 1767 - 1768) прыбылі два важныя новыя ўклады: Ян Кярбэцкі (Кербадзь) тастамантам сваім у 1762 г. запісаў 7 тыс. злотых, пазычаных дзедзічам Крупы Нарбутам (з абавязкам, каб 3 разы да году 2 піяры прыязджалі ў касцёл у Крупах), а ў 1766 г. адвакат Гаўрылкевіч пераказаў 2 тыс. зл. на Лацку Пісароўскім і 400 зл., *"каб з працэнту ад той сумы ўтрымоўвалася лямпа, пастаянна гарэўшая перад Найсвяцейшым Сакрамантам"*[81].

У 1768 г. у Лідзе распачаўся амаль 25 гадовы перыяд рэктарстваАляксандра Вольмера (Матэвуш, Аляксандр ад Звяставання Н.П.М. 1732-1802, рэктар у Лідзе, 1768-1793). Пасля заканчэння рэктарату Вольмер застаўся ў калегіюме аж да смерці. Пры прагляданні гісторый піярскіх калегій у Рэчы Паспалітай паўстае ўражанне, што пасля рэформаў Канарскага, у II палове XVIII ст. адмовіліся ад пастаяннай ратацыі на пасаду рэктара, а шматгадовыя рэктары, моцна звязаныя са сваімі калегіямі, часта ўкладвалі ў іх разбудову ўласныя сродкі і заставаліся на пастаяннае жыхарства ў іх да канца жыцця. Так было, напрыклад, у выпадку Радама. Антоні Канарскі, нават, калі выконваў на працягу 15 гадоў функцыі асістэнта правінцыі, не разарваў кантакту з Радамскім асяродкам, і можна сказаць, што ўласна ўвесь акрэс ад 1739 г. аж да смерці ў 1778 г. правёў у Радаме[82].

[74] Карчма была спалена ў пажары Ліды 1827 г. M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 1 (1936), nr 9, s. 3.

[75] J. Wojszwillo, s. 62.

[76] Пар. нп. згаданы вышай канфлікт, датычны Вільні, ці меней вядомы ў Пётркаве - R. Stepien, R.W. Woloszynski, Pijarzy w Piotrkowie Trybunalskim w czsach Komisji Edukacji Narodowej [w:] Wklad pijarow do nauki i kultury w Polsce XVII - XIX w., pod red. I. Stasiewicz - Jasiukowej, Warszawa-Krakow 1993, s. 489.

[77] J. Wojszwillo, s. 62.

[78] Diccionario enciclopedico, T. 1, Salamanca 1980, s. 537.

[79] J. Wojszwillo, s. 63.

[80] Гл. дадатак у рукапісе B. Ossol. 3667/III (mf BN 8804), s. [249], [251].

[81] J. Wojszwillo, s. 65.

[82] J. Kurkowski, Kolegium..., s. 84. Характэрна, што Ян Даніэль Яноцкі, прадстаўляючы ў Lexicon derer itztlebender Gelehrten in Polen стан піярскіх калегій у Польшчы, палічыў за неабходнае паінфармаваць чытачоў, што ў Радаме пастаянна жыве "in ganz Polen sattsam btkannte und gepriesene P. Antonius Ronarski", t. II, Warszawa 1755, s. 147. Пар. таксама Familia Domus Radomiensis, рукапіс Бібліятэкі духоўнай семінарыі ў Сандаміры, sygn. G 1216.

Рэктарат Вольмера - гэта перыяд інтэнсіўных будаўнічых работ і ўпарадкавання маёмасна-праўнага статусу калегіюма. Па-першае Вольмер *"адмыслова аздобіў домік унутры і знадворку"*[83]. Паколькі пляц, запісаны Ігнацыем Сцыпіёнам, аказаўся недастатковым, атрыманы за 2000 імшаў суседні пляц лідскага суддзі Юзафа Бажымоўскага[84]. Акрамя таго ўладальнікі Веранова - Александровічы - згадзіліся на замену вераноўскага пляца на грунт, размешчаны ў Лідзе пры вул. Віленскай. Паводле міжваенных назваў вуліц піярская сядзіба займала нумары 62-72 пры вул Сувальскага палка[85]. На так пашыранай тэрыторыі паўстаў фальварачак, які задавальняў бягучыя патрэбы піярскай кухні.

Акрамя таго, карыстаючыся з соймавага дазволу для літоўскіх піяраў на пакупку "прылеглай вёскі" да сумы 60 тыс. зл.[86], у 1778 г. набыў ад Умястоўскіх за 27 тыс. зл. фальварак Пастаўшчыну. Маёнтак той, размешчаны недалёка ад Ліды, тут жа за Лідзейкаю па левым баку дарогі на Дворышча, ахопліваў вёску Расплякі з 6 хатамі, млын, а таксама звыш 15 валок пясчанага і камяністага грунту[87]. У тым жа годзе пачаліся будаўнічыя работы на мураваным гмаху калегіюма. *"Домік той меў пакояў для ксяндзоў або келій 12, кухню, пякарню, трапезную з залкай над імі, застаўся недаканчаным"*[88]. Як *"даносіла мясцовае паданне"* ў значнай частцы будоўля мела адбывацца за кошт Вольмера, але ў лідскіх актах (напрыклад у візітацыі 1798 г.) Вайшвіла не знайшоў якога-небудзь пацверджання для гэтага тэзісу[89]. Таму будоўля магла ісці (зрэшты вельмі паволі) толькі ў надзеі на новыя дараванні. Сярод ахвярадаўцаў у той перыяд назваць можна Ганну з Юдыцкіх Агінскую, Францішка і Людвіку Гадэбскіх, Ежага Адамовіча, які ў 1789 г. ахвяраваў на касцельныя муры 20 тыс.[90], Вінцэнта Сяклуцкага, а нейкая Пракаповіч аддала за дажыванне і варыва з піярскага агароду драўляны дом на піярскім пляцы.

Важны тастамантавы запіс учынілі ў 1781 г. на карысць лідскіх піяраў Тамаш і Бенедыкт Мігдалы. Пераказалі яны 12 тыс. зл. (пры тым 11 тыс. застаўным правам на Нешыкоўшчыне, перанесеным потым на Вялікую Перапечыцу) за 10 імшаў штомесячна (пры тым 5 спяваных) і ўтрыманне аднаго вучня з сям'і Мігдалаў або з найбліжэйшых іх кроўных. Умовы тыя скрупулёзна выконваліся, паколькі ў 1795 г. піяры стараліся ў Рыме пра змяншэнне колькасці імшаў. Так вось акрамя фундушовага вучня з сям'і Стацэвічаў з'явіліся вучні з сям'і Мігдалаў, і такі стан рэчаў пратрываў да канца існавання школы. Калі бракавала кандыдатаў, якія выконвалі ўмовы, вымаганыя фундатарамі, выбіралі некага з беднай шляхты[91]. Здаралася, канешне, што нейкі з бакоў не выконваў ўмовы дамовы. Так, напрыклад, 19 кастрычніка 1809 года *"фундушовыя"* вучні яшчэ не прыбылі ў школу[92], у 1810 годзе не хапала аднаго з фундушовых вучняў цэлы год, а другога *"зусім жабрацкае (было) ўтрыманне"*[93]. У 1819 г. Вінцэнт Мігдала ўцёк са школы і пайшоў да ўланаў. Дадамо, што неўзабаве потым (29.III.1820 г.) памёр[94]. Далей, Марцін Стацэвіч выехаў 30 чэрвеня 1820 года ў родную гаспадарку і не прыбыў на новы школьны год. На працягу ўсяго асенняга семестра 1820 г. сям'я не прысылала новага кандыдата[95]. 12 студзеня 1821 г. школьныя ўлады цераз ліставанне дамагаліся высвятлення, чаму ад 1 верасня 1920 г. не прынялі ніякага фундушовага вучня ўзамен. Школьнае кіраўніцтва адказвала, што якраз на такіх умовах прынялі Пятра Кміту і Юзафа Санкоўскага[96].

Дзякуючы паляпшэнню фінансавай сітуацыі, Лідскі калегіюм пачаў праводзіць характэрныя для кляштараў у даўняй Рэчы Паспалітай паслугі крэдытна-манетарныя. 6 жніўня 1773 года выдзелена пазычка велічынёй 15 тыс. зл. польнаму гетману Аляксандру Сапегу (з забеспячэннем на Бярэчыне).

14 лютага 1782 г. быў заселены будынак новага калегіюма. Гмах быў трохпавярховы, з двума крыламі, якія сутыкаліся пад простым вуглом. Будынак заставаўся неатынкованы да часоў Вайшвілы[97]. Нажаль, падчас засялення здарыўся трагічны выпадак: 2 піяры ўчадзелі (былы лідскі рэктар Казімір Яблонскі і Са-

[83] J. Wojszwillo, s. 67.

[84] M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 1, s. 2. 4 траўня 1774 г. сойм зацвердзіў фундацыю і дазволіў дакупленне прылеглага пляцу (VL, t. VIII, k. 410). Справа была такой істотнай для піяраў, што апублікавана Utwierdzenie Funduszu Ksiezy Piarow Lidzkich z pozwolieniem przykupienia placu з дадаткам 1 карты. E. XXXII, s. 104 (Bibl. TPN w Poznaniu).

[85] M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 1, s. 2.

[86] 1775 г. - VL. t. VIII, k. 411.

[87] M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 1, s. 2. J. Wojszwillo, s. 68. 11тыс. выплаціў гатоўкай, пераняў доўг у колькасці 15 тыс. на кошт Міхала Эйсманта, а 1000 зл. выплаціў "за акторства" Марыянне Масевіч . 1 тыс. узяў з фундушу Мігдалы - СН-47, k. 52.

[88] J. Wojszwillo, s. 69.

[89] Там жа.

[90] У той суме 14 тыс. па абавязку Радзівілаў на Жырмунах, 6 тыс. па абавязку Станіслава Марцінкевіча на Гарнастаішках. Не скарысталі гэтых грошай на касцёл, напэўна, не выплацілі іх даўжнікі.

[91] Пералік прозвішчаў фундушовых вучняў апублікаваў М. Шымялевіч, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 6-7, s. 66.

[92] СН-47, k. 55.

[93] СН-47, k. 63.

[94] СН-47, k. 85.

[95] СН-47, k. 86.

[96] СН-47, k. 91.

[97] Рукапіс Б. Асалін. 3667/III (mf BN 8804), s. 201.

муэль Галавінскі)[98]. Паразу прынесла Вольмеру спроба аднаўлення (у спадзяванні выніковага развязання) спрэчкі з балотніцкай шляхтай за мяжу Лапацішак. У сілу выраку ад 1789 г. акрамя лясоў, ужо забраных, лідскія піяры страцілі частку ворнай зямлі з якраз паспелым збожжам. Дзякуючы звароту да кампрамі-снага суда ўдалося пазбегнуць толькі выплаты 5 тыс. зл. судовых выдаткаў. Справа Лапацішак далучылася такім чынам да спісу незакончаных межавых працэсаў. Няўдачны вырак - на думку Вайшвілы - вынікаў з клопатаў пра соймікавыя галасы. Трэба пры тым дадаць, што кляштары былі ўцягнутыя ў доўгатрывалыя і заблытаныя працэсы, бо часам ахвяравалі ім невяртальныя сумы, разлічваючы на апературнасць духоўных людзей або на пакору даўжнікоў пасля напаміну з амбона[99].

Баланс кіравання Вольмера быў, нягледзячы на ўсё, станоўчы. Маёмасны стан калегіюма быў падвоены, капітал вырас амаль да 50 тыс. злотых, значна павялічыўся арэал кіраваых палёў[100]. Напэўна, у той час быў збудаваны таксама школьны домік на самым рагу піярскага пляцу, які амаль прытыкаўся канцом да вуліцы Віленскай, а бокам - да пляцу нейкай Маеўскай. Трэба дадаць, што мураваныя піярскія будынкі ў Лідзе выдзяляліся на фоне амаль цалкам драўлянай забудовы горада. У 1817 г. у горадзе былі 292 будынкі драўляныя і толькі 4 мураваныя[101]. Нічога дзіўнага, што піярскія дамы служылі для розных публічных мэтаў, як, напрыклад, у будынку калегіюма адседжвалі турэмнае пакаранне. Вядома, што ў 1792 г. у гэтым месцы адбываў пакаранне Ігнацы Кастравіцкі[102].

Пазітыўнага балансу рэктарату Вольмера не можа зменшыць страта мерацкай сумы, якая адбылася не па яго віне. Марнатраўны Віленскі рэктар Антоні Мікуцкі (Антоні ад Звяставання Н.П.М., 1787-1796)[103], у рамках старання за Віленскае біскупства, даваў раскошныя абеды, на якіх *"збіралася (...) уся вялікасць, уся вучонасць сталіцы Літвы"* (нават *"знайшліся паміж бяседнікамі такія, якія тыя вучоныя забавы ставілі нават вышэй за літаратурныя чацвярговыя абеды Станіслава Аўгуста і знайходзілі іх лепшымі, багацейшымі ў вобласці дасціпнасці, багатшымі ў праяўленні і творчасці генія"*[104]). Мікуцкі пацiху забраў і выдаткаваў суму на Мерачы (20 тыс.) і, нягледзячы на тое, што вярхушка піярская казала іх аддаць, не было аднак з чаго. Дадаткова накінуў Лідскаму калегіюму доўг у 2 тыс. зл., узяты ў Бядрыцкага з абяцаннем хуткай аплаты, каб выратаваць віленскую пляцоўку. Заключэнне Антонія Машынскага, што гэта Догель перадаў віленскім піярам тую суму[105], не адпавядае - на думку Вайшвілы - праўдзе, а прысваенне яе не мела ніякіх праўных падстаў[106].

З перыяду перад паўстаннем Нацыянальнай адукацыйнай камісіі няма лішне шмат інфармацыі пра функцыянаванне школы ў Лідзе. Рэалізоўвалася тут у той час праграма 4-х класнай піярскай школы, якая вынікала з ордэнскай канстытуцыі і закончвалася ў класе, які называўся *рыторыкай*. У 1771 годзе з'явілася *маральная навука*, а ў 1772 г. як асобны прадмет - *арыфметыка і геаметрыя*. Гэта сляды рэалізацыі палажэнняў генеральнай капітулы ў Рыме з 1748 г. аб адкрыцці спецыяльнага класа матэматыкі і рэформаў Канарскага, адпаведнікам якіх на Літве быў твор Юзафа Цяпінскага *"Methodus docendi pro Scholis Piis Provinciae Lithuanae* (Вільня, 1762)107. Акрамя спецыфічнага (1756/57) першага школьнага года і 1795/96 навучаннем заўсёды займаліся тры настаўнікі. Згодна з распаўсюджаным звычаем педагагічная кадра падлягала штогадовым статутным зменам. У разглядаты перыяд аж 7 разоў змянялася цалкам, 5 разоў заставаўся 1 настаўнік і толькі 4 разы - два. Толькі раз у школьным годзе 1780/81 здарылася, што ўсе настаўнікі засталіся з папярэдняга года. Сярод настаўніцкага калектыву найбольш дасведчаны выкладчык рыторыкі быў звычайна прэфектам школы[108]. Не прымянялася ў Лідзе напэўна да палажэнняў НАК ад 1785 г., каб прэфект не быў абцяжараны дыдактычнай працай. Толькі ў 1787-1794 гадах у кляштарных актах называлі іх віца-прэфектамі і такім чынам мабыць абміналася распараджэнне адукацыйных уладаў.

Прэфекты Лідскай школы ў 1756 - 1797 гг.

1756/57 - Юзаф Кутрынскі (Кэнтшынскі);

[98] J. Wojszwillo, s. 70-71.

[99] Пар. J. Swieboda, Srodki materialne OO. Pijarow w Rzeszowie w XVII-XVIII w.; [w:] Wklad pijarow do nauki i kultury w Polsce..., s. 208.

[100] Капітула 1802 г. у прызнанне заслуг Вольмера хацела ўзнагародзіць яго высокім тытулам экспраўінцыяла. Неўзабаве пасля гэтага 12 снежня 1802 года ён памёр.

[101] Slownik Geograficzny Krolewstwa Polskiego, t. 5, s. 217.

[102] M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 4, s. 44.

[103] Дадамо, што Мікуцкі ўваходзіў у склад лідскага Дому ў І. 1770/71, 1771/72, а потым у 1800/01 г., калі "ў якасці пакарання" жыў у брата.

[104] J. Wojszwillo, s. 73. Стараннi Мікуцкага (віленскага рэктара ў 1789-1796) маглі мець месца пасля смерці біскупа Ігнацыя Якуба Масальскага, павешанага 28.VI.1794 г. Гл. PSB, t. XX, s. 135-139 (I. Szybiak).

[105] Antoni Moszynski, Zywot Macieja Dogela z przydaniem wiadomosci o sporze pijarow wilenskich z jezuitami wilenskimi (roku 1723 - 1753), Wilno 1838, s. 14: "Стараннем яго і запабегамі фальварак Мерач, які некалі належаў вераноўскім піярам, быў уступлены піярам віленскім з абавязкам плачэння пэўнага quantum на фабрыку Лідскага касцёла".

[106] J. Wojszwillo, s. 78: віленскія піяры мелі суму на Мерачы, але іншую. Вайшвіла дадаваў: "Нават у апошнім уваскрашэнні мной той справы не прыведзена ніякіх довадаў і нічога больш на абарону забору не сказана, апрача наступнага выразу: "Ужо даўнасць сышла".

[107] J. Buba, Matematyka w dawnych szkolach pijarskich w Polsce - nauczyciele, podreczniki, [w:] Pijarzy w kulturze dawnej Polski, Krakow 1982, s. 245, 247. Цяпінскі патрабаваў "узмоцненае навучанне арыфметыцы ў кожнай школе".

[108] Толькі выключна ў 1758/59 здарылася, што суперыёр А. Астроўскі выконваў адначасова таксама функцыі прэфекта.

1757/58 - Дамінік Грабоўскі;
1758/59 - Антоні Астроўскі;
1759/60 - 1760/61 - Юзаф Гернер;
1761/62 - 1768/69 - Аляксандр Вольмер;
1769/70 - Ян Парэцкі (Пажэцкі);
1770/71 - Міхал Кутрынскі (Кэнтшынскі);
1771/72 - Антоні Мікуцкі;
1772/73 - 1773/74 - Міхал Туркоўскі;
1774/75 - 1775/76 - Яцак Красоўскі;
1776/77 - 1777/78 - Дыянізі Гурыновіч;
1778/79 - Бярнард Памарнацкі;
1779/80 - 1780/81 - Ксаверы Янкоўскі;
1781/82 - 1782/83 - Дыянізі Гурыновіч[109];
1783/84 - Андрэй Свіршчэўскі;
1785/86 - 1789/90 - Павел Выгоўскі;
1790/91 - Бярнард Парубскі (Парэмбскі);
1791/92 - 1792/93 - Ваўрынец Адамовіч;
1793/94 - 1795/96 - Адрыян Шалевіч;
1796/97 - Амброжы Сангайла.

Не цяжка заўважыць, што прафектура ўяўляла важны этап перад заняццем рэктарату Дому. Незадоўга перад заняццем функцый рэктара ў Веранове прэфектамі былі Аляксандр Вольмер, Адрыян Шалевіч, Павел Выгоўскі. Безумоўна, гэта аблягчала начальнікам арыентацыю ў справах і патрэбах школы[110]. Не заўсёды, аднак, доўгі стаж на пасадзе прэфекта схіляў пазнейшага рэктара да асаблівага клопату пра школу. Так, напрыклад, як рэктар А. Вольмер зусім не цікавіўся навучаннем. У 1782 годзе Пірамовіч так характарызаваў яго ў сваім рапарце: *"(...) чалавек добры, павольны, не шмат удаецца да школы і дазору над выкладчыкамі, у тым усім як і ў кіраўніцтве дому папушчае на віца-рэктара свайго"* (Дыянізія Гурыновіча)[111]. З перыяду кіраўніцтва Вольмера паходзяць дзве інфармацыі, якія пацвярджаюць існаванне школьнага тэатра. Вось Мікуцкі ў 1771 г. апублікаваў у Вільні ў піярскай друкарні *"Няшчасце клапатлівых заўжды і незадаволеных асоб, якія прычыны ўсяго ўласнага няшчасця прыпісваюць часу або сапсутаму паводле іхняй думкі свету, сцэнічным чынам у гонар імені Вяльможных іхмосцяў паноў Нарбутаў, харунжых Лідскага павета выражаная ў Лідскіх школах Школ Пабожных у 1771 годзе"*. У творы тым, змест якога змяшчаецца на 22 ненумараваных лістах (фармату 80), аўтар высмейвае незадаволеных, якія нараканоць на сапсаванасць тагачаснага свету[112]. 4 ліпеня ў лідскім тэатры пастаўлена іншая п'еса таго ж аўтара *"Трагедыя пра змову Катыліны"*, прысвечаная Юзафу Пацу[113].

На гады рэктарату Вольмера прыпала правядзенне адукацыйнай рэформы НАК.

Лідская школа была падзелена паводле 3-х класавага ўкладу з 3 выкладчыкамі з не вельмі разбудаванай адукацыйнай праграмай. Так, напрыклад, не вучылі ў Лідзе ні аднаго з прапанаваных Камісіяй прыродазнаўчых прадметаў[114]. Рыгор Піранoвіч, які візітаваў школу ў 1782 г., не захапіўся ўзроўнем навучання і стараннасцю ў выкананні ўказанняў НАК. Вінавацію у тым згаданага ўжо прэфекта Гурыновіча, які зрабіў немагчымым увядзенне прынцыпаў вывучэння прадметаў, змушаючы педагогаў да працы паводле даўнейшых ордэнскіх звычаяў, калі кожны настаўнік вучыў толькі свой клас, надта абвінавачваў прэфекта за кепскія адносіны да настаўнікаў малодшых класаў (Дамініка Серафіновіча і Юзафа Меера) і пра *"продаж падручнікаў па цане вышэйшай за прадпісаную"*[115]. Сярод прычын недасканалага стану Лідскай школы візітатар назваў паўсюдны сярод літоўскіх піяраў недахоп матэрыяльных сродкаў: *"Не даюць настаўнікам больш, як 60 злотых на ўсю вопратку на год. Пры тым ў Лідзе яны маюць мізэрны харч (...)"*[116]. Візітатар занатаваў таксама факт існавання пансіяната *"для некалькіх дзяцей"*, дадаў, аднак, з'едліва, што *"таго канфлікту ўся сутнасць ёсць у тым, што ядуць і спяць у кляштары, што маладыя магістр, які сам навучыўся ў навіцыяце трохі французшчыне, дае ім пачаткі той мовы"*. У наступным годзе наступілі змены ў кіраўніцтве школы: прэфектам стаў Андрэй Свіршчэўскі (быць можа ў надзвычайным парадку). Што праўда, А. Свіршчэўскі (Ян, Андрэй ад св. Ганны, 1743-1815), як вынікае з ацэнкі Станіслава Баніфацыя Юндзіла, як настаўнік не меў *"ніякіх талентаў і патрэбнай для таго растаропнасці"*, аднак Давід Пілхоўскі, які візітаваў школу, убачыў значныя папраўкі ў адносінах праграмы і кравання школай да прадпісанняў НАК[117]. Візітатар ацаніў таксама дасягненні рэктара Вольмера. Асобны школьны будынак быў *"лепшы за жыллё выкладчыкаў"*, а гмах калегіюма знайходзіўся якраз у стадыі будаўніцтва. Пазітыўна ацанілі працу Лідскай

[109] Рапарты выключна сведчаць, што ўжо ў чэрвені 1783 г. не быў прэфектам, Raporty..., s. 122.

[110] На палях варта дадаць, што прынамсі ад 1767/68 шк. года існаваў у Лідзе падзел на касу школьную і кляштарную. Кожная каса мела сваіх касіраў (depositarius, expensarius, rationalista).

[111] Raporty..., s. 53. CH-41, k. 172v.

[112] PSB, t. 21, s. 169-170 (R. Leszczynski). Называў гэтую публікацыю Антоні Машынскі, які ў 1825 г. займаўся Любяшоўскай бібліятэкай і абнародаваў у "Dzienniku Wilenskim" (1825, t. 1, s. 249) дапаўненні да бібліяграфічных работ Бэнткоўскага і інш. Меркаванне Машынскага было крытычным: "Бо не маем тут ніякай драматычнай падставы". За зварот увагі на гэтую публікацыю Мікуцкага дзякую п. др. Магдалене Слюсарскай.

[113] [Mikucki Antoni], Tragedia o sprzysiezeniu Katyliny, pod zaszczytem imienia... Jozefa hrabi na Rozance i Dowspudzie etc. Paca starosty wilejskiego. W szkolach lidzkich Scholarum Piarum odprawiona Roku 1772 dnia 4 lipca, Wilno [b.r.], drukarnia pijarska. Гл. W. Hahn, Pijarski teatr szkolny w Polsce (zarys), [w:] Pijarzy w kulturze dawniej Polski. Ludzie i zagadnienia, pr. zbior., Krakow 1982, s. 223.

[114] J. Fierich, Nauki rolnicze w szkolach Komisji Edukacji Narodowej, Krakow 1950, s. 52.

[115] Raporty..., s. 54.

[116] Raporty..., s. 55.

[117] Што праўда "не з поўнай аднак дакладнасцю" - 115 Raporty..., s. 122.

адукацыйнай пляцоўкі чарговыя візітатары НАК: у 1786 г. Францішак Бянькоўскі[118], у 1787 г. Давід Пільхоўскі[119]. Ян Эрдман, пасланец Камісіі ў 1788 г. убачыў пэўныя недахопы. Першая заўвага датычыла згаданых ужо недахопаў у школьнай дакуметацыі[120]. Акрамя таго Эрдман скрытыкаваў надмерную перагрузку працы прэфекта Паўла Выгоўскага, які - акрамя абавязкаў начальніка школы - вёў кнігі, выкладаў прыгожае маўленне і замяшчаў рэктара Вольмера ў час яго адсутнасці[121]. Негатыўна ацаніў таксама вынікі вывучэння матэматыкі. З актаў той візітацыі даведваемся таксама пра памер раздачы падручнікаў сярод бедных вучняў: на працягу 5 гадоў ахвяравана 50 экзэмпляраў[122]. Сярод пакінутых візітатарскіх указанняў знайходзім пастулат, які ў той час вельмі часта з'яўляўся, строгага выконвання даўжыні двухмесячных канікулаў. Зацягванне тэрміну вяртання ў школу і ранейшыя выезды вучняў складалі істотную агульную праблему[123]. Шмат мейсца прысвяціў гэтай праблеме ў сваіх пісьмовых рапартах візітатар у 1789 г., канонік смаленскі Якуб Якса. Прапаноўваў ён увядзенне забароны прымаць такіх вучняў да хоць якіх нацыянальных школ і *"затрыманне заслужанага заахвочвання"*. У адносінах да Лідскай школы ўпаміналася пра *"дакладных тых вучняў рэестр"*[124].

Першыя параўнальна і ў меру дакладныя дадзеныя, якія датычаць колькасць вучняў Лідскай школы, паходзяць з пачатку 80-х гадоў XVIII ст. Трэба сцвердзіць, што ў апошнія дзесяцігоддзі існавання І рэчы Паспалітай у Лідскай школе вучылася найбольш моладзі (у 1783-1792 гадах сярэдне каля 70 вучняў).

Гады рэктарату Вольмера складалі таксама найлепшы перыяд у гісторыі Лідскага калегіюма з погляду на персанальны склад. Сведчыць пра тое табліца, упарадкаваная для 1756-1832 гадоў, з вылічанай сярэдняй для кожнага лідскага пяцігоддзя. Табліца тая заканчваецца разам з упадкам лістападаўскага паўстання, бо ліквідацыя многіх піярскіх школаў пасля ўпадку лістападаўскага паўстання прывяла да значнага росту колькасці манахаў у кляштарах, якія яшчэ існавалі.

**Колькасць вучняў у Лідскай школе ў 1782-1792 гг.**[125]

| Дата | Колькасць вучняў |
|---|---|
| 31.V.1782 | клас I - 33, клас II - 25, клас III - ?[126] |
| VI - VII.1783 | 99 (73[127]) |
| 14.V.1784 | 75[128] |
| 6.VI.1785 | 60[129] |
| 18, 19.VII.1876 | 86 |
| 10.V.1787 | 62[130] |
| 13.VII.1789 | 60 (50[131]) |
| 4.VI.1792 | 52 |

Ужо на прыкладзе сярэдняй колькасці асабовага складу відаць выразны крызіс, які наступіў у гісторыі Лідскага калегіюма незадоўга да саступлення Вольмера з рэктарату. Той новы цяжкі перыяд вызначаны быў пераходамі войскаў, займаннем піярскіх будынкаў, нішчэннем маёмасці калегіюма. Ужо 14 чэрвеня 1792 года расіяне ўвашлі ў горад. У той час пад аховай расейскіх штыкоў была завязана Лідская канфедэрацыя, якая для патрэб расейскага войска праводзіла секвестры і кантрыбуцыі. У 1794 г. вакол Ліды ішлі баі, а ў 1795 г. у горадзе зноў з'явілася расейская адміністрацыя.

У палітычнай замяці тых часоў бралі ўдзел таксама і піяры. Настаўнік матэматыкі (1788/89), а пазней права і прыгожага маўлення ў Лідскай школе (1791-1793), Ваўжынец Адамовіч 19 сакавіка 1795 г. у казанні "ачарняў улады" і ўмешваўся ў палітычныя справы[132]. Ужо 1 красавіка таго ж года Рапнін распарадзіўся, каб духоўныя ўлады рыгарыстычна сачылі за зместам казанняў і падаў да публічнага ведама выпадак Адамовіча і назваў суровыя кары, якія яго за гэта спаткалі (удаленне з калегіюма ў Лідзе і ўвязненне). Неўзабаве потым (11 ліпеня) генерал-губернатар Літвы кляйміў нязгодныя са статутам учынкі піяраў (як прыклад падаў зноў Адамовіча), загадаў, каб без

[119] Raporty..., s. 266-267. Візітатар успамінаў, што "у тым годзе са здароўем вучням не ішлося. Многа з іх знайдзена хворых на гарачку".

[120] Raporty..., s. 316.

[121] Трэба дадаць, што Выгоўскі належаў да кола ордэнскіх асоб "асабліва давераных" НАК праз візітатараў. Пар. Instrukcje dla wizitatorow genieralnych szkol Komisji Edukacji Narodowej 1774-1794, апр. К. Бартніцкай і І. Шыбяка, Wroclaw-Warszawa... 1976, s. 139, 144.

[122] Raporty..., s. 317.

[123] Сведчаць пра гэта агульныя патрабаванні НАК і Віленскага ўніверсітэта. Пар. O. Hedemann, dz. cyt., s. 48-49. Канешне, напр. для 1783 г. маем інфармацыю, што ў Лідскай школе пасля свят не вярнулася 26 вучняў, што складала звыш 1/4 агульнай колькасці вучняў.

[124] Raporty..., s. 469.

[125] На падставе Raportow..., а таксама Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 6-7, s. 65-66.

[126] Raporty..., s. 54. Колькасці вучняў гэтага класа не пададзена.

[127] 26 не вярнулася пасля святаў.

[128] Зімой "было болей".

[129] Зімой "было болей".

[130] Шымелевіч, напэўна ў выніку памылковага прачытання рукапісу падае 82.

[131] У час візітацыі.

[132] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края, при Императрице Екатерине II (1792-1796), Вильно 1903, с. 270-271.

| Год | Колькасць манахаў | У тым ліку ў Веранове і Геранёнах | Колькасць манахаў у Лідзе | Сярэдняя пяцігадовая колькасць |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1756/57 | 11 | 8 | 3 | |
| 1757/58 | 12 | 7 | 5 | |
| 1758/59 | 14 | 9 | 5 | 5 |
| 1759/60 | 14 | 8 | 6 | |
| 1760/61 | 12 | 6 | 6 | |
| 1761/62 | 11 | 4 | 7 | |
| 1762/63 | 12 | 4 | 8 | |
| 1763/64 | 12 | 4 | 8 | 7,8 |
| 1764/65 | 13 | 5 | 8 | |
| 1765/66 | 13 | 5 | 8 | |
| 1766/67 | 12 | 5 | 7 | |
| 1767/68 | 12 | 5 | 7 | |
| 1768/69 | 10 | 3 | 7 | 7,2 |
| 1769/70 | 12 | 3 | 9 | |
| 1770/71 | 9 | 3 | 6 | |
| 1771/72 | 11 | 3 | 8 | |
| 1772/73 | 8 | 1 | 7 | |
| 1773/74 | 9 | 1 | 8 | 7,8 |
| 1774/75 | 8 | 1 | 7 | |
| 1775/76 | 9 | | 9 | |
| 1776/77 | 8 | | 8 | |
| 1777/78 | 8 | | 8 | |
| 1778/79 | 8 | | 8 | 8,2 |
| 1779/80 | 9 | | 9 | |
| 1780/81 | 8 | | 8 | |
| 1781/82 | 9 | | 9 | |
| 1782/83 | 9 | | 9 | |
| 1783/84 | 11 | | 11 | 9,6 |
| 1784/85 | 9 | | 9 | |
| 1785/86 | 10 | | 10 | |
| 1786/87 | 9 | | 9 | |
| 1787/88 | 9 | | 9 | |
| 1788/89 | 9 | | 9 | 9,0 |
| 1789/90 | 9 | | 9 | |
| 1790/91 | 9 | | 9 | |
| 1791/92 | 8 | | 8 | |
| 1792/93 | 9 | | 9 | |
| 1793/94 | 8 | | 8 | 7,2 |
| 1794/95 | 9 | | 9 | |
| 1795/96 | 6 | | 6 | |
| 1796/97 | 7 | | 7 | |
| 1797/98 | 7 | | 7 | |
| 1798/99 | 7 | | 7 | 6,6 |
| 1799/00 | 7 | | 7 | |
| 1800/01 | 5 | | 5 | |
| 1801/02 | 6 | | 6 | |
| 1802/03 | 6 | | 6 | |
| 1803/04 | 5 | | 5 | 5,6 |
| 1804/05 | 5 | | 5 | |
| 1805/06 | 6 | | 6 | |

згоды вярхоў не пакідалі яны кляштароў. Літоўскія піяры, якія знаходзіліся па-за сваімі кляштарамі, мелі абавязак сабрацца ў Шчучыне, а ніхто без згоды духоўных уладаў не павінен даваць ім прытулку[133].

У тыя цяжкія гады паступова пагаршаўся маёмасны стан лідскіх піяраў. Новы рэктар Фларыян Крушэўскі (Казімір, Фларыян ад св. Казіміра, 1729-1812, рэктар у 1793-1795), дакупіў за 25 рублёў срэбрам часткі пляцаў лідскіх мяшчан, якія прытыкаліся да стаўка Пастаўшчына, і паставіў млын. Аднак ужо ў 1795 г. з’явіўся доўг у памеры 6 тыс. зл.

Чарговыя рэктары - Адрыян Шалевіч (Адрыян ад Нараджэння НПМ, 1758-1809, рэктар у 1795-1796), Павел Выгоўскі (Выкоўскі, Павел ад св. Ёзафата, 1747-1818, рэктар у 1796-1797) і Філіп Нарэй Банарскі (Матэвуш, Філіп Нарэй ад св. Францішка, 1750-1825, рэктар у 1797-1800) - часта змяняліся, а доўг тым часам пастаянна рос[134]. Апошні з названых вышэй рэктараў быў зняты віленскім біскупам за тое, што даў дазвол на праваслаўную імшу ў піярскім касцёле, праведзеную палкавым папом. Іншай важнай для лідскіх піяраў падзеяй таго перыяду быў візіт цара. Праязджаўшы праз Ліду падчас аб’езду Літвы Павел І затрымаўся ў калегіюме 15 траўня 1797 года. Разам з вялікімі князямі - Аляксандрам і Канстанцінам - займаў тры пакоі на верхнім паверсе. Ахвяраваў на будаўніцтва касцёла 5 тыс. рублёў, а ўдзячныя піяры размясцілі над дзвярыма пакоя, у якім ён начаваў памятную табліцу з надпісам залатымі літарамі[135]. Паколькі цар на білецику, уручаным піярам, не акрэсліў ці ішлося пра рублі срэбрам, падскарбі не хацеў выплаціць суму без 100 рублёў хабару. Не згадзіліся на тыя ўмовы. Аднак перш, чым удалося знайсці пацверджанне абяцанкі, Павел І памёр, а піяры мусілі задаволіцца асігнацыямі, якія былі вартыя ледзве 1/4 спадзяванай сумы. Дадамо, што побыт цара не быў першым візітам важных асобаў у Лідзе. У 1793 годзе затрымліваліся тут аўстрыйскія эрцгерцагі па дарозе з Вены ў Пецярбург.

У 1799 г. рэктарам у сілу патэнту

[133] Там жа, с. 284. Адамовіч вярнуўся ў Ліду ўжо ў 1801/02 школьным годзе.
[134] Доўг перавышаў ужо 7,5 тыс. зл. J. Wojszwillo, s. 85.
[135] J. Wojszwillo, s. 83. Згарэла ў пажары ў 1842 г.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 1806/07 | 7 | | 7 | |
| 1807/08 | 6 | | 6 | |
| 1808/09 | 8 | | 8 | 7,4 |
| 1809/10 | 8 | | 8 | |
| 1810/11 | 8 | | 8 | |
| 1811/12 | 8 | | 8 | |
| 1812/13 | 7 | | 7 | |
| 1813/14 | 5 | | 5 | 6,0 |
| 1814/15 | 5 | | 5 | |
| 1815/16 | 5 | | 5 | |
| 1816/17 | 6 | | 6 | |
| 1817/18 | 4 | | 4 | |
| 1818/19 | 6 | | 6 | 5,0 |
| 1819/20 | 4 | | 4 | |
| 1820/21 | 5 | | 5 | |
| 1821/22 | 6 | | 6 | |
| 1822/23 | 6 | | 6 | |
| 1823/24 | 6 | | 6 | 6,6 |
| 1824/25 | 7 | | 7 | |
| 1825/26 | 8 | | 8 | |
| 1826/27 | 8 | | 8 | |
| 1827/28 | 9 | | 9 | |
| 1828/29 | 10 | | 10 | 9,4 |
| 1829/30 | 10 | | 10 | |
| 1830/31 | 10 | | 10 | |

Віленскага біскупа стаў Себасцян Дамброўскі (Себасцян ад св. Вінцэнта Фарэрыя, 1756-1819, рэктар у 1799-1805). Новы рэктар аддаў доўг калегіюма і прыступіў да будаўніцтва касцёла, карыстаючыся з дарунка цара, ахвяры лідскага плябана Антонія Эйсманта і 5 тыс. злотых з сум фундушовых. На працягу 6-гадовага кіравання ён давёў будоўлю *"аж да гзымсаў"*, аднак на працяг забракла фундушу. Дамброўскі не патрафіў скарыстаць, надарыўшайся аказіі для чарговай ахвяры на карысць святыні. У траўні 1802 года адведаў Ліду цар Аляксандр I і жыў *"у зальцы над трапезнай"*[136].

Пасля Дамброўскага выбралі праўніка Раймунда Жашоўскага (Антоні, Раймунд ад св. Схаластыкі, 1750-1820, рэктар у 1805-1808). Паколькі адзінай крыніцай прытоку фінансавых сродкаў для пабудовы касцёла маглі быць - талкова даведзеныя да канца - даўнія справы па Лапацішках і суме мярэцкай, Жашоўскі распачаў таксама працэс пра фундацыйную суму ў 10 тыс. зл., абапёртую на ружанскім кагале, бо *"ад яе не плаціласся нават трэцяга працэнту"*[137]. Рэктар, цалкам заняты судовымі справамі, занядбаў дагляд лідскай гаспадаркі, даручыўшы вядзенне яе сваім пляменнікам Некрашам. Гэтыя *"ўсё да астатку расцягнулі, прывялі калегіюм да найжурботнейшага стану, да такой беднасці, што хлеба нават не хапала для ксяндзоў"*. Жашоўскі заміж спадзяваных грашовых прытокаў *"залез глыбока ў даўгі, плацячы адным картачкамі. Ніколі наш домік - дадаваў Вайшвіла - не быў такі бедны, як пры тым безуладдзі. У прыслоўе нават увайшло: "Ліда - бяда!" Калі каму вярхі хацелі пагразіць, жартавалі, што пастанавілі пасляць у Ліду. Моладзь непаслухмяную страшылі Лідай, як дзяцей жабраком або ксендзам: гаварылі, калі капітула хацела каго-небудзь пакараць, выбіралі яго лідскім рэктарам"*[138]. У гэтай сітуацыі правінцыял прыспешыў змены на пасадзе рэктара. У 1808 прыняў тыя функцыі тагачасны віца-рэктар Юзаф Сангайла, які правёў інвентарызацыю і намагаўся аднавіць страчаныя запасы, цяглавую жывёлу, брычкі, абсталяванне фальваркаў. Працягнуў тыя старанні наступны пасля Сангайлы рэктар Антоні Юхновіч (Юхневіч, Антоні ад св. Юзафа Каласантага, 1761-1813, рэктар у 1808-1812)[139], аднак па прычыне здароўя не закончыў кадэнцыі. Тым часам муры касцёла пачалі разбурацца, а рыштаванні разабралі на апал.

Чарговы лідскі рэктар Францішак Дашкевіч (Францішак ад св. Юзафа, 1766-1813, рэктар у 1812-1813 гг.) памёр 13 кастрычніка 1813 г. падчас выканання абавязкаў. Пасля яго смерці ў час Божага Нараджэння як часовы начальнік прыбыў у Ліду Дамінік Серафіновіч (Дамінік Пётр, Дамінік ад Ачышчэння НПМ, 1763-1848, начальнік у 1813-1814 гг.). Выконваў тыя функцыі толькі да першых дзён ліпеня 1814 г., бо капітула выбрала лідскім рэктарам Феліцыяна Пашкевіча (Феліцыян ад св. Антонія, 1769-1818, рэктар 1814-1817), *"магістра і выкладчыка Дубровіцкіх курсаў"*, знаўцу ўсеагульнай гісторыі, французскай і лацінскай літаратуры. Яму калегіюм удзячны за вяртанне парадку ў фальварках, папраўку матэрыяльнага стану, пад'ём узроўню школы[140]. Дзякуючы выраку суда ў Навагрудку, які пастанавіў выплату ў 12 частках ружанскай сумы, лідскія піяры маглі выдзеліць у 1817 годзе пазычку Ксаверыю Друцкаму-Любецкаму ў памеры 4 тыс. зл., забяспечаную ўсёй яго маёмасцю.

Утым жа, аднак, часе калегіюм быў, на жаль, уцягнуты ў чарговую судовую справу: Тукалы занялі 18 валок піярскага лесу (справа не была рассуджана да ліквідацыі калегіюма), а прызначаны пасля смерці Пашкевіча часовы віца-рэктар Віктар Ежыковіч (Іжыковіч, Ежыкевіч, Віктар ад св. Аляксандра, 1781-1841,

[136] J. Wojszwillo, s. 87.
[137] J. Wojszwillo, s. 88-89.
[138] J. Wojszwillo, s. 89.
[139] Ужо 6.IX.1808 г. у кнізе Dziejow obrad domowych выступаў як рэктар.
[140] J. Wojszwillo, Wspomniennie..., s. 99-102.




***План Лідскага піярскага комплекса, зняты ў 1842 годзе***

начальнік у 1819-1820 гг. нявінную сутычку за памежны слупок з мешчанінам Рэлікоўскім ператварыў ў паважны, шматгадовы працэс пра мяжу аседласці, гвалт і разбой. Пасля 20 гадоў удалося справу давесці да згоды (піяры заміж прысуджаных Рэлікоўскаму 14 тыс. зл. заплацілі толькі 500). Вайшвіла ставіць у віну таксама Ежыхоўскаму *"лішнюю руплівасць пра дакладнасць і карнасць закона*", якая настроіла настаўніка граматыкі Тадэвуша Унутоўскага *"на калецтва, якое не ўдалося вылечыць. Такія амбіцыі і паступіўшыя скаргі мусілі быць нагодай, што не быў выбраны рэктарам"*, - дадае аўтар[141].Замест яго капітула ў 1820 г. абдарыла той фукцыяй Юзафа Каласантага Санкоўскага (Антоні, Юзаф Каласанты ад св. Антонія, 1778-1834, рэктар у 1820-1829 гг., які сваё доўгае кіраўніцтва ў Лідзе ўвянчаў заканчэннем будаўніцтва піярскага касцёла. Касцёл асвечаны быў 4 ліпеня 1825 г., а *"шматлікі збор абывацеляў і чыноўнікаў надаваў бляск той урачыстасці"*[142]. Наступны пасля Санкоўскага рэктар, лідзянін, аматар і знаўца прыродазнаўчых навук, кандыдат філасофіі Віленскага ўніверсітэта Антоні Паеўскі (Антоні ад св. Юзафа, нарачонага НПМ, 1793-1850, рэктар у 1829-1832 гг.) кіраваў калегіюмам у цяжкі перыяд Лістападаўскага паўстання і рэпрэсій пасля яго паразы. Нягледзячы на гэта ён пачаў будаўніцтва новага школьнага дома на месцы старога гмаха, які рухнуў. Умеў таксама знайсці час на прыродазнаўчыя вылазкі "для адкрыцця новых скарбаў расліннага каралеўства" і падчас адной з іх у Оўруцкім павеце знайшоў дзікарослы зімавіт (зімоўнік, бясчаснік) асенні (colchicum autumnale)[143]. Перадапошні перад касацыяй лідскі рэктар, матэматык Фердынанд Шымборскі (Клеменс, Фердынанд ад св. Клеменса, 1796-1855, рэктар у 1832-1835 гг.) пасля ліквідацыі кляштара прыняў абсталяванне іхняга касцёла (амбон, алтар, званы). Калі 2 верасня 1834 года ўлады закрылі піярскую школу, Шамборскі падпісаў не вельмі карысны кантракт на арэнду незакончанага яшчэ школьнага будынка. Тут жа перад чарговай капітулай сварка з лідскім пробашчам выклікала яго дачаснае адкліканне з пасады.

Як ужо згадвалася, у 1835 г. піярскія вярхі на пасаду лідскага рэктара прызначылі Ёзафата Вайшвілу (Ёзафата ад Унебаўступлення НПМ). Першыя

[141] J. Wojszwillo, Wspomniennie..., s. 105.

[142] J. Wojszwillo, Wspomniennie..., s. 109.

[143] "[...] той пахвальны яго запал, увенчаны добрым вынікам, ушанаваў п. Бэсер, слаўны гэтага ж прадмета настаўнік у Крамянецкім ліцэі, прызнаннем што безумоўна ён найпершы такім стараннем памножыў багацце краёвай флоры". 138 J. Wojszwillo, s. 114.

гады свайго 11-гадовага побыту ў Лідзе рэктар прысвяціў генеральнаму рамонту касцёла (1836-1837)[144], старанням пра заканчэнне судовых працэсаў і парадкаванню кляштарнай гаспадаркі. У 1841 г. кляштар меў у распараджэнні суму ў 12960 рублёў срэбрам. З працэнтаў у тым жа годзе (запісы на Шчучыне і Дзярэчыне) у касу калегіюма паступіла 618 рублёў срэбрам[145]. Дзякуючы высілкам Вайшвілы занядбаная датуль кляштарная бібліятэка, якая складалася таксама з кнігазбораў калегій у Веранове і Сніпішках была павялічана *"так, што амаль падвоілася колькасць кніг"*[146]. Перад пажарам налічвала яна амаль 2 тыс. кніжак. Да Лідскага калегіюма належала ў той час - часта толькі фармальна - значная колькасць манахаў. Ужо ў 1832 г. са зліквідаванага кляштара ў Шчучыне ў Ліду прыбылі Вінцэнт Горскі і Юзаф Станіслаўскі. Яны заняліся выкладчыцкай працай, ведучы ў Лідскай піярскай школе ў апошні год яе існавання агульную гісторыю і геаграфію, а таксама расейскую мову і *"хрысціянскія навукі"*[147]. У 1833/34 гадах у Лідзе знайходзілася 15 манахаў, у 1834/35 - 14, у 1835/36 - 10, у 1836/37 - 10, у 1837/38 - 13, у 1838/39 - 14, у 1839/40 - 12, у 1840/1841 - 12, 1841/42 - 15. У апошнія гады Лідскага калегіюма перад касацыяй жылі ў Лідзе на стала: рэктар Ю. Вайшвіла і старыя ўжо Тадэвуш Малукевіч і Каласанты Барташэвіч. Да асабовага складу Дому фармальна належалі таксама ксяндзы, якія працавалі ў розных парафіяльных касцёлах : Юзаф Сангайла, Антоні Казлякоўскі, Ян Багатыровіч, Мікалай Бальцэвіч, Антоні Ясінскі, Тамаш Семяновіч, Антоні Закрэўскі, Фердынанд Шымборскі, Юзаф Станіслаўскі і клерык Каласанты Кабылянскі.

Нягледзячы на пачатковыя поспехі Вайшвілы, ужо ад пачатку саракавых гадоў XIX ст. распачаўся працэс ліквідацыі калегіюма. У канцы сакавіка 1842 г. забралі ў дзяржаўны скарб зямельную маёмасць лідскіх піяраў. Даходы піяраў скараціліся да 25 рублёў срэбрам штогадова. Пажар Ліды аблегчыў дзейнасць расійскіх уладаў. У нядзелю 23 жніўня 1842 г. лопнула ў выніку перагрэву печ у яўрэйскай лазні. Яўрэі, не хочучы плаціць штрафу, самі пачалі тушыць агонь. Каталіцкая люднасць, сабраная на набажэнстве ў піярскім касцёле і фары, углядалася, *"склаўшы рукі, як будзе гарэць яўрэйская лазня"*. Агонь, аднак, хутка дасягнуў дахаў суседніх дамоў, а потым *"узарваўся гарэлачны лёх"*. Адразу пажар бліскавічна распаўсюдзіўся на ўвесь горад, нішчачы піярскія будынкі, а таксама 80 домаўладанняў яўрэйскіх і 40 хрысціянскіх[148]. Нягледзячы на ўзмоцненыя старанні Вайшвілы пра дазвол адбудовы калегіюма і касцёла, прыхільнасць біскупа Яна Цывінскага і жыхароў Ліды, расійскія ўлады не далі згоды. Піярскія пляцы ў Лідзе *"ўзятыя пад дзяржаўную апеку"*, а ў красавіку 1843 г. вырашана аддаць муры касцёла і кляштара пад царкву і школу. 14 траўня 1845 г. калегіюм піяраў у Лідзе быў канчаткова закрыты. 15 студзеня 1846 г. Вайшвіла пакінуў Ліду і перабраўся ў Міжрэчча Карэцкага[149].

Варта на заканчэнне прысвяціць трохі месца дзейнасці Лідскай школы ў XIX ст. Умовы дзейнасці той асветнай пляцоўкі былі ў азначаны перыяд няпростыя. Ужо ў кастрычніку 1799 г. занялі школьны будынак пад цэркву. У той час падчас *"унутраных нарадаў"* паўстаў нават праект, *"ці не лепей было б зрабіць адмену ўрокаў па паўтыдня"*, на што згадзіліся *"бачачы ў тым ашчаджэнне часу"*[150]. Побыт расейскага войска працягваўся. 22 снежня 1803 г. гвалтоўным спосабам быў заняты дом, прызначаны для летняй адукацыі. Піяры адразу накіравалі скаргу лідскаму гараднічаму, а 26 снежня паслалі рапарт пра тое здарэнне ўладам Віленскага ўніверсітэта[151]. Паведамілі ва ўніверсітэт таксама пра пажар (28/29 чэрвеня), які паглынуў 5 дамоў, у тым ліку вучнёўскія пакоі. У наступным школьным годзе драўляны дом, *"у якім даўней давалі ўрокі, што пагражаў абвалам, (быў) пакінуты, а ўрокі ў кляштарных мурах даём"*[152]. У красавіку 1806 г. у *"другім"* школьным доме і бліжэйшых фальварачных пабудовах, дзе жылі вучні, размясцілі вайсковы лазарэт. Бацькі павінны былі забраць вучняў да хатаў, тым больш, што - як скардзіўся 16 красавіка 1806 г. прэфект Якуб Захарэвіч - *"гарачка"* з лазарэта пачала паражаць моладзь[153]. 9 ліпеня таго ж года рэктар Раймунд Жашоўскі ў лісце да Юзафа Корвіна Касакоўскага скардзіўся, што лазарэт надалей функцыянуе[154]. Дадаткова ў кляштары адкрылі часовую царкву для патрэб войска.

Падобная сітуацыя паўтарылася ў наступным школьным годзе: ад красавіка да апошніх дзён ліпеня манахі вымушаны былі гасціць у прыватных дамах, а школа была закрытая[155]. Далей 24 снежня 1807 г. расейцы спрабавалі прымусіць піяраў размясціць у калегіюме кватэру камандзіра коннага палка[156]. На тым

[144] Бо праявіліся памылкі, зробленыя пры будаўніцтве і трэба было мяняць муры "да паловы згнілыя". Рамонт каштаваў 4258 зл. і 28 грошаў. J. Wojszwillo, s. 114.

[145] Рукапіс Б. Асалін. 3667/III (mf BN 8804) s. 207. Поўны даход з працэнтаў і фальваркаў ацэнены на руб. ср. 1179. Для параўнання тая самая крыніца падае, што ў Вількаміры мелі даход 1567 руб. ср., а ў Панявежы - 2347. T[yszkiewicz E.]: Wadomosc historyczna ... s. 32-33.

[146] J. Wojszwillo, s. 149.

[147] Гл. дадатак nr 2 CH-41, s. 532, 549.

[148] J. Wojszwillo, s. 153-155.

[149] J. Wojszwillo, s. 166.

[150] Dzieje obrad domowych, rkps Arch. Pol. Prow. Pijarow w Krakowie, sygn. Col. Lid. (zapis z 14.X.1799 r.).

[151] M. Szymielewicz, dz. cyt., "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 6-7, s. 62.

[152] CH-47, s. 31.

[153] CH-47, s. 40.

[154] CH-47, s. 39.

[155] CH-47, s. 53.

[156] CH-47, s. 53-54.

аднак не скончыліся перыпетыі лідскіх піяраў. 26 сакавіка 1808 г. войска заняло фальварак , размешчаны недалёка ад кляштара, прызначыўшы яго сядзібай для збройнікаў і слесараў. У тым жа годзе адукацыя адбывалася надалей *"у кляштары, часцёва ў адной хаце, часцёва ў настаўніцкім жыллі"*[157]. У наступным годзе нельга было весці нагляд за вучнямі па пакоях, бо войска іх зліквідавала, займаючы ўсе вольныя кватэры ў горадзе. Настаўнікі ўжо раней - на спецыяльнай хатняй сесіі - згадзіліся паўтараць урокі з вучнямі ва ўласных жытлах[158]. Інфармацыя, датаваная 25-6 траўня 1810 г., сведчыць пра тое, што школьны будынак быў цалкам зруйнаваны, *"а класы раскіданы па пакоях настаўніцкіх"*. Так жа 11 красавіка 1814 г. генеральны візітатар І. Хадані сцвярджаў, што школа не мае асобнага будынка, бо "ў выніку вайсковага пастою на працягу двух гадоў" яго знішчылі, а ўрокі адбываюцца ў памяшканнях настаўнікаў[159]. Нарэшце 9 лістапада 1817 года была занята трапезная пад палкавую царкву, дзе ў той час праводзілася найбольш школьных заняткаў[160]. Школьны гмах пачалі будаваць толькі ў часы рэктара Антонія Паеўскага, ужо перад выбухам Лістападаўскага паўстання. Гмах той не быў закончаны да закрыцця піярскай школы.

Нічога дзіўнага, што ў такіх акалічнасцях сціпла выглядаў збод дыдактычных дапаможнікаў. У Лідзе асобна ніколі не ўзнікала школьная бібліятэка. У невялікі перыяд выкарыстоўвалі існую бібліятэку кляштарную. На пераломе стагоддзяў яна налічвала каля 800 тамоў. Перад кастрычнікам 1803 г. бібліятэка гэтая была ўзбагачана кнігазборам з Сніпішак. 28 сакавіка 1803 г. яе камплектнасць ацэньвалася ў звыш 1000 т. У 1803 г. камплектнасць кнігазбору па абласцях ведаў ўяўлялася наступным чынам: творы філасофскія 123, творы "мовазнаўцаў" - 96, кніжкі гістарычныя і геаграфічныя - 91, творы матэматычныя - 19, "маральныя" - 355, "дыялектычныя" - 35. Праз доўгі час, аднак, бібліятэка заставалася ў выключным бязладдзі. У траўні 1810 г. кнігазбор надалей знаходзіўся ў фатальным стане. З 1811 года маем чаргову агляд твораў кляштарнай бібліятэкі: твораў тэалагічных было на той час 319, філасофскіх і праўных - 90, рытарычных, а таксама "паэтаў і аратараў" - 80, гістарычных і геаграфічных - 76[161]. 14 траўня 1814 г. бібліятэчныя зборы налічвалі не цэлую 1000 кніжак. Далей з 1818 г. паходзіць інфармацыя, што за 10 гадоў кнігазбор не павялічыўся зусім. Візітатары наракалі пры тым, што настаўнікі, якія скардзіліся на недахоп кніжак для навукі, нават не спрабавалі іх шукаць у кляштарнай бібліятэцы. Беспарадак, які панаваў у лідскай бібліятэцы не дазваляў пры тым візітатарам з'арыентавацца, у якой меры ордэнскі кнігазбор мог бы быць карысным у дыдактычнай працы[162]. Як ужо згадвалася, бібліятэчныя зборы былі ўпарадкаваныя і значна павялічаны ўжо пасля закрыцця школы ў часы рэктарату Вайшвілы. Бібліятэка была знішчана падчас пажару ў жніўні 1842 г.

У такім жа кепскім стане ў першыя два дзесяцігоддзі XIX ст. знайходзіліся іншыя навуковыя дапаможнікі. 9 кастрычніка 1803 г. у школе меліся наступныя прылады: машына электрычная, машына пнеўматычная, гальванометр, барометр, тэрмометр, геаметрычны прыбор, латунная дыёптрыя, голка магнітная, ватэрпас латунны. У 1809 годзе ў фізічны кабінет закупілі новую пнеўматычную машыну і "шкло" (праўдападобна лабараторнае). У параўнанне праз многа гадоў паўтараецца інфармацыя пра два сапсутыя глобусы, што, канешне, не выдае добрага сведчання пра школку.

Праграмныя ўстаноўкі для павятовай школы ставілі перад лідскай пляцоўкай высокія патрабаванні. Праграма на 1802/3 школьны год уяўляе сабой наступнае[163]:

І клас - граматыка польскай мовы, арыфметыка, пачатковая геаграфія, маральная навука (усе з падручнікаў НАК), рэлігія (з Беларміна) і пачаткі перакладу з лацінскай і французскай мовы;

ІІ клас - граматыка элементарная (з Капчынскага), арыфметыка, геаграфія, маральная навука (з падручніка НАК), натуральная гісторыя (перш за ўсё з Буфона), гісторыя агульная для "першагодак" - грэцкая, для "другагодак" - рымская (з падручнікаў НАК), арыфметыка і геаметрыя (з падручнікаў НАК), пераклад з лаціны і французскай;

ІІІ клас - красамоўства (з Галанскага), пераклад Цыцарона, гісторыя мастацтваў, гісторыя, маральная навука, алгебра, батаніка (з кніжак НАК). Учылі ў той час лаціну і французскую, урокі трывалі 4 гадзіны штодзённа (ад 8 да 10 і ад 14 да 16 без аўторкаў і чацвяргоў), экзамены адбываліся штомесяц (апрача першых 3 месяцаў навукі).

У наступным школьным годзе 1803/04 склад прадметаў быў у асноўным падобны. У адносінах да рапарту з папярэдняга года ў ІІІ класе дадаткоа з'явілася фізіка "розных аўтараў" і трыганаметрыя. Пачалі таксама вучыць расійскую мову, уведзеную цераз статут Віленскага ўніверсітэта 18 траўня 1803 г. Аднак толькі ў снежні 1803 г. на паседжанні школьнай рады пастанавілі, каб *"е. п. Санкоўскі (...) пачаў даваць рэгулярныя ўрокі"*. У красавіку 1804 г. расійскую мову выкладаў платны настаўнік Юзаф Янкоўскі[164].

Праграма ў 1808/09 г. для асобных прадметаў седчыць, што нейкія рэвалюцыйныя змены не на-

[157] CH-47, s. 49.
[158] Dzieje obrad domowych, rkps Arch. Pol. Prow. Pijarow w Krakowie, sygn. Col. Lid. 1. 12.IX.1808.
[159] CH-47, s. 70.
[160] CH-47, s. 78.
[161] Акрамя гэтага іншае не дэталізавана. CH-47, s. 69.
[162] CH-47, s. 50 (22-24 сакавіка 1808 г.).
[163] CH-47, s. 18-19.
[164] CH-47, s. 29.

ступілі[165]:

**геаграфія** - у I класе, *"першыя ўяўленні той навукі пра агульнае і дэтальнае пра Еўропу і дзяржавы, якія яе складаюць"*; у II класе Азія, Афрыка, Амерыка;

**маральная навука** - у I і II класе;

**матэматыка** - у I і II класе дзеянні з лічбамі - простымі, складанымі і дробамі; у III класе - навука пра квадраты і кубы лічбаў, а таксама *"прапорцыі і прагрэсіі"*, пачаткі геаметрыі; у IV класе - трыганаметрыя, тапаграфічныя чарцяжы, у летнія месяцы - землямерная практыка;

**лацінская граматыка** - у III класе на другі год - ліставадзіцельства і паэзія з Галанскага; у IV класе - красамоўства;

**гісторыя** - у III класе - грэцкая, у IV класе - рымская;

**прыроднае права** (са Страйноўскага) - у III класе і ў IV класе - палітычнае права (са Страйноўскага);

**фізіка** - у III класе - агульныя ўласцівасці целаў, у IV класе - асаблівыя ўласцівасці целаў;

**агародніцтва, заалогія і земляробства** - у III класе;

**батаніка** - у IV класе (з Юндзіла).

Падобна выглядала праграма ў 1813/14 школьным годзе[166]. Ад 1803 года Лідская школа насіла назву павятовай. Арганізацыя яе, нягледзячы на знешнія змены, засталася па сваёй сутнасці досыць доўга нязменнай. Ад часоў НАК у школе існавалі 3 двухгадовыя класы. Пачынаючы з 1804 і 1808 уводзіліся побач з пачатковым класам 2 класы аднагадовыя і 2 вышэйшыя класы двухгадовыя. У суме гэта былі аднак зноў 6 гадоў навучання. Разам з нарастаўшым крызісам у калегіюме школа таксама пачала падупадаць. У школьным годзе 1813/14 у Лідскай школе былі толькі 3 класы, прычым, апошні быў двухгадовы. Падобны склад занатаваны ў школьным годзе 1815/16, 1817/18 і 1819/20. У той апошні год у IV класе (ці другім годзе III класа) быў ледзве 1 вучань[167]. У 1820/21 г. Лідская школа страціла назву павятовай і пераўтварылі яе ў парафіяльную з двума класамі. Цяжкасці з размяшчэннем, палітычныя падзеі і маёмасныя клопаты лідскіх піяраў ужо ад першых гадоў XIX ст. істотным чынам уплывалі на сістэматычнае паніжэнне ўзроўню навучання. Пачаткова падавалася, што крызіс будзе хутка пераадолены. 11 чэрвеня 1803 г. візітатар Богуш, вывучаючы непарадкі ў кнігах і школе, заўважыў таксама энергічныя высілкі школьных уладаў у справе папраўкі ўзроўню адукацыі. Асаблівую пахвалу заслужыў - на думку візітатара - Ендрэй Канюшэўскі, які прышчапіў лідскім вучням *"густ батанікі"*, прывучаючы іх у вольныя хвіліны *"да збірання па палях і лугах раслін, якія растуць у тутэйшых ваколіцах, класіфікацыя іх паводле Лінея (!)"*, падрыхтоўкі гербарыяў, вывучэння назваў раслін. У наступным годзе адзначаны быў зноў Канюшэўскі, тым разам за выкладанне матэматыкі. Іншыя прадметы, асабліва *"пачатковыя навукі"* былі выкладаныя ў Лідскай школе на нездавальняльным узроўні. Ужо, аднак, у 1806 г. (10 ліпеня) візітатар Юзаф Корвін Касакоўскі сфармуляваў больш сур'ёзныя прэтэнзіі ў адрас кіраўнікоў школы: угледзеў непарадкі ў дакументах, заўважыў нелегальнае адлічэнне 10 вучняў без падання прычыны, прад'явіў прэтэнзію прэфекту ў *"прытрымліванні чужых гра-матык"*, насуперак прадпісанням і занядбанне I класа[168]. Адведаўшы школу 22 сакавіка 1808 г., Гіацынт Крусінскі атрымаў "прыкрыя пачуцці". Тры настаўнікі, у тым ліку часовы намеснік у I класе (хутчэй студэнт, чым настаўнік), не былі ў стане забяспечыць адпаведны ўзровень навучання, тым больш, што настаўнік II класа (клерык Адам Юшкевіч), *"якому абрыдла манаскае жыццё, у выкладанні навук папусціўся, і што да звычаяў падае сабой найгоршы прыклад, думаючы, што старэйшыя хутчэй яго з кляштара звольняць"*[169]. Вынікі, акрамя курса матэматыкі, былі - на думку візітатара - вельмі мізэрныя: *"Нягледзячы на тое, што з усіх навук ледзве першыя асновы выкладзены былі, і нават з іх вучні мала чым карысталіся"*, навука фізікі не магла дасягнуць добрага ўзроўню праз адсутнасць адпаведных дапаможнікў, а чарчэння наогул *"не давалі"*. Чарговы візіт Крусінскага (19.X.1809 г.) прынёс таксама негатыўныя ацэнкі. Школа *"ўтрымоўвалася ў жабрацкім стане"*[170], надалей таксама трывалі клопаты з настаўніцкімі кадрамі Казімір Заткевіч, прызначаны для выкладання граматыкі ў 2 ніжэйшых класах і французскай мовы, не хацеў выконваць свае абавязкі (выкладаў у Лідскай школе ад 1801 г.). У выніку такой пазіцыі настаўніка ў гэтым школьным годзе не вучылі ніякай замежнай мовы. У траўні (25-26) 1810 г. адведаў школу Юзаф Корвін Касакоўскі. На яго думку вучні ў паасобных класах не выконвалі праграмных патрабаванняў. Ледзве 7 адпавядалі I класу, а сярод тых, хто вучыўся ў II класе, ніхто не павінен быў атрымаць пераводу ў наступны клас[171]. 3 лютага 1811 г. Г. Крусінскі паўторна даносіў уладам універсітэта, што стан школ у Слоніме і Лідзе ёсць выключна *"жабрацкі"*. Тры лідскія настаўнікі былі цалкам непадрыхтаваныя да сваіх абавязкаў, звыш таго не вучылі ў той школе ні адной замежнай мовы[172]. Візітатар Хадані (11 красавіка 1814 г.) ацэньваў, што Лідская школа можа толькі "рыхтаваць" вучняў да гімназіі або добрай павятовай

[165] СН-47, s. 56. 30 чэрвеня - Рапарт Антонія Юхновіча, які выконваў у той час функцыі рэктара і прэфекта.
[166] СН-47, s. 70.
[167] СН-47, s. 95.
[168] СН-47, s. 33-38.
[169] СН-47, s. 45.
[170] СН-47, s. 55.
[171] СН-47, s. 64-65.
[172] СН-47, s. 67. Паводле ордэнскага паведамлення ў 1810/11 шк. г. працавалі 4 настаўнікі. Гл. дадатак nr 2.

школы[173]. Школа пасылала рапарты ўладам універсітэта нерэгулярна, і часта былі яны няпоўныя. У 1817 г. дырэктар (прэфект) не мог падаць лісты настаўнікаў, бо 17 кастрычніка *"яшчэ ўсе не прыйшлі"*[174]. Вельмі кепскую адзнаку школе паставіў у 1818 г. Г. Крусінскі[175]. Навучанне пачалося толькі ў снежні, не выкладалі ніякіх замежных моваў, а між тым - дададаваў візітатар - згодна з распараджэннем ад 1810 г. *"школа, у якой не выкладаецца мова, прынамсі расійская, мае быць прызнана за неіснаваўшую"*[176]. З вывучэннем моваў у Лідскай школе, канешне, пастаянна былі клопаты, пра што сведчаць запісы ў "Кнігу хатніх нарадаў". Зразумела, чаму ўлады школы зацягвалі ўвядзенне расійскай мовы[177]. 17 красавіка 1808 года школьная рада сваёй пастановай адклала тую справу на наступны год. Толькі ад 1811/12 г. у школе сістэматычна вучылі гэтую мову. Выкладчыкам на працягу многіх гадоў быў Дыянізы Трасэмберг[178]. Раней - як ужо згадвалася - вывучэнне расійскай мовы было несістэматычнае і часта на нізкім узроўні, напрыклад у 1805/06 школьным годзе займаўся гэтым адзін з вучняў, т.зв. дырэктар (рэпетытар) Ян Білдзікевіч. Часам таксама мовы вучылі платныя настаўнікі: напрыклад. у школьным годзе 1803/04 французскую і расійскую мовы выкладаў Юзаф Янкоўскі[179]. Не абазначае гэта аднак, што замежныя мовы знайходзіліся ў дастатковым аб'ёме ў праграме навучання. Школа неаднакратна мела клопаты са знаходжаннем педагога[180]. Спарадычна толькі вучылі ў Лідзе нямецкую мову, часта бракавала кампетэнтнага настаўніка для французскай мовы[181].

У 1820 годзе праз адсутнасць адпаведных настаўнікаў і рэзкага зніжэння колькасці вучняў Лідская школа была заменена на парафіяльную[182]. Універсітэцкія ўлады хацелі, каб правінцыял перанёс фундуш у Шчучын. Стан ліквідацыі не трываў аднак лішне доўга. Школа хутка вярнула ранг і аднавіла педагагічныя кадры[183]. Відаць гэта на падставе табліцы лічэбнасці педагаічных кадраў для 1800-1833 гадоў (пры параўнанні звестак трэба аднак памятаць пра існаванне платных свецкіх настаўнікаў (моваў), якіх табліца не ахоплівае)[184].

| **Гады** | **Колькаць настаўнікаў-манахаў** |
|---|---|
| 1800/01 | 1 |
| 1801/02 - 1805/06 | 3 |
| 1806/07 | 4 |
| 1807/08 | 3 |
| 1808/09 - 1811/12 | 4 |
| 1812/13 - 1816/17 | 3 |
| 1817/18 | 4 (у канцы года - 3) |
| 1818/19 | 3 (у тым ліку начальнік Дому) |
| 1820/21 | 2 |
| 1821/22 - 1823/24 | 3 |
| 1824/25 - 1826/27 | 4 |
| 1827/28 | 5 |
| 1828/29 - 1830/31 | 6 |
| 1831/32 | 5 |
| 1832/33 | 6 |

Не зусім адразу відаць узроставая тэндэнцыя на прыкладзе складання лічбы вучняў, якія хадзілі ў лідскую школу ў 1798 - 1833 гг. Прадстаўленне дакладных звестак на тую тэму абцяжарвае запіс візітатарамі выключна колькасці вучняў прысутных у дзень візітацыі.

[173] CH-47, s. 70.

[174] D. Beauvois, dz. cyt., s. 174.

[175] Доўгі час хацеў ён панізіць статус школы. Падобна таксама піярскі правінцыял ад 1811 г. намерваўся зачыніць школу. D. Beauvois, dz. cyt., s. 134.

[176] CH-47, s. 83.

[177] Сведчаць пра гэта шматлікія паседжанні школьнай рады, напр.: 30.XI.1805 г., "каб пэўныя гадзіны былі вызначны на расейскую мову". 17.IV.1808 г., каб расійскую *"выкладалі, як нацыянальную"* - адкладзена да наступнага года; 12.VIII.1811 г. паседжанне, на якім чыталі патрабаванне ўладаў, "каб у школах выкладалі расейскую мову". 3.II.1814 г. паседжанне "па разгляду далейшага правядзення ўрокаў расейскай мовы".

[178] У 1828/29 - 1831/32 гадах клерык Пій Ясенскі, у 1832/33 г. Юзаф Станіслаўскі.

[179] CH-47, s. 29.

[180] Было так да канца існавання школы, пар. ліст правінцыяла Юзафа Крукоўскага - Вільня 7.IX.1827 г.) да прэфекта Каласантага Адамовіча. Правінцыял паведаміў, што быў у рэктара *"ласкава просячы абяцанага, г.зн. настаўніка расейскай мовы. Заверыў, што той будзе прысланы"* (копія) рукапіс Б. Асалін, 3667/III (mf BN 8804), s. 340.

[181] Напр. 9.II.1805 г. "Склікана была сесія з асоб, якія належалі да школ. Прадмет мерапрыемства быў такі, каб французская мова ў вызначаныя гадзіны тымі ж вызначанымі асобамі выкладалася: 10.XI.1808 г. школьная рада заклапацілася, як папоўніць недахоп настаўніка французскай. Пастанавілі, што да часу знаходжання пастаяннага настаўніка вучыць будзе гэтую мову кс. Яцак Румяноўскі. Dzieje obrad domowych, rkps Arch. Pol. Prow. Pijarow w Krakowie, sygn. Col. Lid. 1.

[182] Не быў закрыты цалкам, як лічыў D. Beauvois, dz. cyt., s. 134.

[183] Рэктар Віленскага ўніверсітэта Пелікан у лісце да правінцыяла Юзафа Крукоўскага ад 6 ліпеня 1827 г. паведамляў, што ў Міжрэцкай гімназіі і Лідскай павятовай школе *"быў наведзены належны парадак"* (копія) - рукапіс Б. Асалін. 3667/III (mf BN 8804), s. 347. Не абазначвае гэта, канешне, што зніклі ў той перыяд праблемы з педагагічнымі кадрамі. Напр. Каласанты Адамовіч (Станіслаў, Каласанты ад св. Станіслава 1796-1861) выказваў незвычайную "строгасць у пакараннях". *"Нейкая незвычайная ахвота труціла яго ў задаванні болю і любаванні пакутамі"*. Хмай звяртаецца да ўспамінаў Т. Вальшэвіча (датычыць 1819 года).

[184] Дадамо, што ў канцы красавіка 1827 года рэктар Віленскага ўніверсітэта адведаў Лідскую школу і выставіў ёй вельмі пахвальную адзнаку.

| Дата | Колькасць |
|---|---|
| 24 VI 1798 | да 50 |
| 9 III 1800 | 31 |
| 28 III 1803 | 56 |
| 22 V 1804 | 61 |
| 11 VI 1803 | да 60 |
| 6 IV 1804 | 45 |
| 1804/5 | 45 |
| 1805 | 47 |
| 10 VII 1806 | 37 [185] |
| 22-24 III 1808 | 44 |
| 30 VI 1809 | 31 |
| 19 X 1809 | 32 |
| 12 XI 1809 | 42 |
| 1810 | 29 |
| 23 IX 1811 | 32 |
| 11 VII 1811 | 40 |
| 4 V 1812 | 42 |
| 1 IX 1813 | 14 |
| IV 1814 | 20 [186] |
| у першай палове і на канец 1815/16 | 41 |
| 9 V 1816 | 47 |
| 20 IX 1816 | 25 |
| у палове 1816/17 | 42 |
| у канцы года 1816/17 | 48 |
| 7 XI 1817 | 33 |
| у палове 1817/18 | 36 [187] |
| 9 VI 1818 | 36 [188] |
| 1818/1819 | 31 |
| 1819/1820 | 15 |
| 25-26 II 1820 | 15 [189] |
| IX 1820 | 18 |
| 16 VI 1822 | 24 [190] |
| 23 XI 1825 | 60 |
| 6 V 1826 | 45 |
| 23 V 1828 | 55 |
| 21 X 1833 | 103 |

Не без уплыву на выразнае паніжэнне колькасці вучняў у 1800 - 1817 гадах былі значныя дэмаграфічныя страты напалеонаўскага перыяду. У 1817 г. Ліда налічвала ледзве 770 жыхароў[191]. У сваю чаргу раптоўны рост колькасці вучняў у 1833 г. быў вынікам закрыцця школы ў Шчучыне. Разам з вучнямі прыбылі ў Ліду згаданыя ўжо шчучынскія настаўнікі. Аднак ужо ў 1833 г. куратар Карташэўскі пастанавіў замяніць піяраў у Лідзе і дамініканцаў у Нясвіжы расійскімі настаўнікамі ў рамках метадычнай акцыі закрыцця ордэнскіх школ пасля Лістападаўскага паўстання (1831-1832 гг.)[192]. Школьны год 1832/33 аказаўся апошнім у гісторыі піярскай школы ў Лідзе. 2.IX.1834 г. школу канчаткова закрылі. Яе адраджэнне ў форме Гандлёвай школы наступіла толькі ў міжваенным дваццацігоддзі.

На заканчэнне варта дадаць трохі інфармацыі, якая характарызуе вучнёўскую моладзь у Лідзе ў першыя тры дзесяцігоддзі XIX ст. Пра сацыяльны склад супольнасці лідскіх вучняў мы не маем лішне шмат інфармацыі. У школьным годзе 1803/04 пераважалі маладыя шляхціцы, хоць не бракавала сыноў мяшчан: 9.X.1803 г. у I класе налічвалася 20 шляхціцаў і 4 мяшчан, у II класе - 12 шляхціцаў і 1 мешчанін, у III класе - 8 шляхціцаў. Сярод вучняў здараліся іншаверцы[193]. У асобных класах вучыліся хлопцы ў вельмі розным узросце. Так, напрыклад, у 1802/03 г. у I класе - ва ўзросце ад 8 да 16 гадоў, у II класе - ад 12 да 18 гадоў, у III класе - ад 19 да 24 гадоў; у 1808/09 г. у I класе - ад 7 да 15 гадоў, у II класе - ад 10 да 15 гадоў, у III класе - ад 11 да 20 гадоў, у IV класе 2 вучні ва ўзросце 15 і 18 гадоў.

Нялёгкія лёсы школы пацвярджае пералік яе начальнікаў у 1797-1833 гадах. У асабліва неспрыяльныя гады для лідскіх піяраў (як напрыклад у 1800/01 г.) не называюць наогул школьнага кіраўніка, характэрныя таксама ў амавёным перыядзе частыя змены на той пасадзе (напрыклад, гады 1802-1807) або спалучэнне пасадаў начальніка кляштара і школы[194].

1797/98 -1799/00 - Гжэгаш Янкевіч;
1800/01 - няма;
1801/02 - Гжэгаш Янкевіч;
1802/03 - Ваўрынец Адамовіч;
1803/04 - Аўгустын Вярсоцкі;
1804/05 - Тамаш Францоўскі;
1805/06 - Якуб Захарэвіч;
1806/07 - 1807/08 - Раймунд Жашоўскі (і рэктар);
1808/09 - 1811/12 - Антоні Юхновіч (і рэктар);
1812/13 - 1814/15 - Ігнацы Пажалевіч;
1815/16 - 1819/20 - няма;
1820/21 - 1822/23 - Ігнацы Пажалевіч;
1823/24 - Дзмітр Тамашэвіч;
1824/25 - няма;
1825/26 - 1828/29 - Каласанты Адамовіч (называны таксама віца-прэфектам);
1829/30 - Караль Ліпінскі;
1830/31 - Антоні Паеўскі (і рэктар);
1831/32 - Фердынанд Шумборскі;
1832/33 - Банавентура Пяткевіч.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[185] Бацькі мусілі разабраць вучняў па дамах, бо былі павыганяны з кватэр. CH-47, s. 55. У 1807 г. ад 6 красавіка да канца ліпеня школа была закрытая.

[186] Што цікава, у гэтым школьным годзе *“парафіяльныя школы ў розных месцах гэтага павета ў колькасці 13 вучняў, якія жылі пры іх [...]”*, не мелі. CH-47, s. 71.

[187] У іншым рапарце - 42, CH-47, s. 81.

[188] У іншым рапарце - 46, CH-47, s. 81.

[189] Праўдападобна без вучняў пачатковага класа. Як ужо згадвалася, другі фундушовы вучань - Вінцэнты Мігдала - сышоў, прыстаўшы да ўланаў. CH-47, s. 81.

[190] З нагоды вайсковага кватаравання фактычна наледзве 13.

[191] Slownik Geograficzny Krolewstwa Polskiego, t. 5, s. 217.

[192] D. Beauvois, dz. cyt., s. 430-431.

[193] Напр. 24.III.1808 г. - CH-47, s. 52.

[194] Існавала таксама функцыя *“ганаровага дазорцы школы”*. Гл. CH-47, s. 81v. Ліст грамадзян да Ганаровых дазорцаў для школы ў Лідзе: Ігнацы Скіндар, маршалак - Войцах Нарбут” (1817).

***Леанід Лаўрэш***

# Лідская павятовая 5-ці класная вучэльня ва ўспамінах Яўстаха Шалевіча

Польскі гісторык Людвіка Зыцкая ў кнізе, надрукаванай у 1939 г.[1] сярод іншых узгадала і мемуары жыхара Лідчыны Яўстаха Шалевіча пра вучобу ў Лідскай павятовай вучэльні ў сярэдзіне XIX ст. Шалевіч на пачатку XX ст. перапісваўся з рэдакцыяй кракаўскай газеты "Przyjaciel Ludu", у якой тады працавала Зыцкая. Менавіта па яе просьбе ён і напісаў свае ўспаміны, якія сёння, разам з яго лістамі ў рэдакцыю захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве[2]. 89 сканаў двайных старонак сшытка ўспамінаў Шалевіча, абышліся мне ўсяго па 0,9 еўра за скан. Цяжкасці ўзніклі толькі з-за немагчымасці правесці аплату праз нашу банкаўскую сістэму - плаціць за сканы прыйшлося з Варшавы.

Свае ўспаміны Шалевіч напісаў у 1914 г. У яго атрымаўся дастаткова сумбурны тэкст - аўтар яўна не меў навыкаў напісання сістэматычных вялікіх наратываў. Не дзіва, бо ягоная адукацыя абмяжоўвалася толькі 3-ма класамі Лідскай павятовай вучэльні. Пры перакладзе мне прыйшлося храналагічна сістэматызаваць тэкст успамінаў і прапускаць шматлікія паўторы.

На жаль, на старонках успамінаў аўтар не сказаў, дзе жыла і чым валодала яго сям'я, і не зразумела нават, у якім маёнтку ён нарадзіўся. Вядома, што Шалевічы на Лідчыне жылі ў Ваверскай парафіі, і некаторыя дэталі ўспамінаў дазваляюць дапусціць, што Шалевіч нарадзіўся недзе на тэрыторыі гэтай парафіі.

На працягу ўсяго свайго жыцця Шалевіч меў замілаванне да механікі - бачна, што гэта быў неардынарны чалавек, які з-за адсутнасці адукацыі не змог узняцца на высокі навуковы ці інжынерны ўзровень, але я не ведаю іншага гэтакага самавука-вынаходніка ў гісторыі Лідчыны.

Цалкам мемуары Яўстаха Шалевіча будуць надрукаваны ў адным з наступных нумароў гэтага часопіса, публікацыя яго ўспамінаў дадасць нам яшчэ аднаго цікавага чалавека ў шэраг вартых памяці лідзян.

Пра Лідскую павятовую вучэльню я ўжо пісаў раней у часопісе “Маладосць”[3] і ў гэтым артыкуле раскажу толькі тое новае, пра што даведаўся з мемуараў Яўстаха Шалевіча.

Вучыцца ў Лідзе Яўстах Шалевіч пачаў у 1855 годзе.

Павятовая вучэльня ў канцы 1850-х гг. месцілася ў прыватным доме нейкага Міцкевіча па вуліцы Віленскай. Шалевіч паведамляе: *"Гэты дом яшчэ нядаўна існаваў, і калі я праходзіў каля яго, заўсёды ўспамінаў мілыя і святыя часы маёй вучобы. А калі вокны былі адамкнутыя, я з вялікай цікавасцю заглядваў у пакоі. Але не так даўно той дом згарэў, і на памяць пра яго на паштоўцы[4] застаўся бачны толькі кавалак даху"* [5].

Амаль што ўсе сцены школьнага калідора былі завешаны геаграфічнымі і гістарычнымі картамі: *"Я заўсёды разглядваў іх з вялікай цікавасцю"* [6].

У пяцікласнай павятовай вучэльні выкладаліся наступныя навукі: рэлігія, мовы (руская, французская, нейкі час як факультатыў нават выкладалася польская), матэматыка, гісторыя Расіі і сусветная, маляванне, каліграфія, пачаткі землямерніцтва, у 3-м класе пачаткі будаўніцтва (ці архітэктуры) і ў 5-тым заканазнаўства.

Ва успамінах Шалевіч для сваёй навучальнай установы часцей чым слова "вучэльня" ўжывае слова "школа" [7]. Таксама ён ужывае і слова "прагімназія", якой пяцікласная вучэльня па сваёй сутнасці і з'яўлялася, а сваіх настаўнікаў называе "прафесарамі" - гэтак традыцыйна называлі выкладчыкаў гімназій у той час.

Яўстах Шалевіч пісаў: *"У павятовай школе і ў гімназіі мелася абавязковая для вучняў форма: сурдут з цёмна-зялёнага сукна з пунсовым каўнярам, пунсовымі выпушкамі і металічнымі, жоўтымі, бліскучымі ў два рады гузікамі з гербам губерні. Шапка* (кепі - *Л.Л.*) *з цёмна-зялёнага сукна мела пунсовыя паскі і такія ж выпушкі. Верхнім адзеннем служыў шырокі і доўгі плашч з шырокай пелярынай і вузкім стаячым каўняром - усё гэта з шэрага сукна. Форма мне вельмі падабалася, бо была зручнай і прыгожай. Калі я вучыўся ў трэцім класе, гэтую форму скасавалі і ўвялі паліто, падобнае на сучаснае* (верагодна падобнае на паліто (шынель) гімназіста пачатку XX ст. - *Л.Л.*)" [8]

На гербе Віленскай губерні знаходзілася выява Пагоні, і таму лідскія шкаляры па нашым горадзе хадзілі з Пагоняй на гузіках у два шэрагі.

---

[1] Ludwika Zycka, Michalina Leska. Dzialalnosc popowstaniowa Polakow na ziemi minskiej (materialy i wspomnienia). Warszawa, 1939.

[2] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Szalewicz Eustachy. Wspomnienia szkolne ze szkoly powiatowej w Lidzie i gimnazjum w Nowogrodku.

[3] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідская павятовая вучэльня // Маладосць. 2017. № 07. С. 125-132.

[4] Гэта загадка, дзе ж на вуліцы Віленскай стаяў дом Міцкевіча. З тэксту бачна, што згарэў ён ужо пасля пажару 1891 г., верагодна, на пачатку XX ст. і яго дах бачны на нейкай з паштовак.

[5] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 34.

[6] Там жа. Арк. 21 адв.

[7] Лідская школа па-руску называлася "Лидское уездное пятиклассное для дворян училище".

[8] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 31 адв.



***Форменны гузік Лідскай павятовай вучэльні***

З тэксту Яўстаха Шалевіча бачна, што з дзяцінства ён меў слабое здароўе, і менавіта гэта не дазволіла яму атрымаць сістэматычную адукацыю. Але ён меў вялікую і нават дзіўную для дзіцяці цягу да вучобы: "[Я] *шмат працаваў, шмат вучыўся і быў ужо гатовы да 1-га класа. На вакацыі я прыехаў дадому і ў жніўні павінен ужо быў ехаць вучыцца* [ў Ліду] - *чакаў гэты дзень, як неба. Набліжаецца чаканая хвіліна, але раптам бацькі паведамляюць, што ў гэтым годзе я ў школу не пайду, бо можа за год маё здароўе паправіцца*[9] *(да 10-ці гадоў я быў хворы і палову жыцця правёў у ложку). Як у гэтым вершыку: "Хоць ён бледны і сухотнік, але да стрэльбы ахвотнік!"*[10] *Гэтак і я на пачатку жыцця быў бледны і выглядаў, як сухотнік, але да навукі быў вялікі ахвотнік!*

*Вестка пра тое, што я ў гэтым годзе не пайду ў школу ўдарыла мяне як маланка, нічога не адказаў я бацькам, а толькі схаваўся ў кут і заплакаў. А хутка новая бяда - эпідэмія халеры, і таму бацькі не жадаюць аддаваць мяне ў небяспечны горад ... Але нарэшце надышоў чаканы дзень"* [11].

З свайго маёнтка ў Ваверскай парафіі малы Яўстах з бацькам выбраліся ў Ліду і прыехалі на паштовую станцыю Місявічы[12]. Тут яны спаткалі паштальёна, які як раз у гэтую хвіліну прыехаў з Ліды. "Што чутно ў горадзе?" - запытаў бацька Яўстаха і паштальён адказаў яму: *"Дрэнныя навіны, штодзень у горадзе ад халеры паміраюць па 25 чалавек"* [13]. Бацька спужаўся і ўжо хацеў паварочваць назад, але малы Шалевіч заенчыў, і бацька вырашыў ехаць у Ліду, каб зрабіць так, як вырашыць школьны лекар.

У Лідзе Шалевічы сустрэлі знаёмага сям'і, скарбніка Крахельскага.

- Што ты тут робіш?

- Прывёз у школу хлапчука.

- А не баішся Пана Бога? Нашто прывёз гэту худобу? Як пачне вучыцца - адразу памрэ[14].

Шалевіч-бацька зноў пачаў хвалявацца за жыццё малога сына, але старэйшы яго сын Адольф, які ўжо скончыў Лідскую вучэльню і працаваў пад кіраўніцтвам Крахельскага, угаварыў бацьку пакінуць малога сына вучыцца ў Лідзе і зняць для яго кватэру ў сп. Цемахоўскай - там, дзе ўжо кватараваў Адольф і будучы выкладчык (прафесар) Яўстаха Іосіф Урбановіч. За стол і памяшканне гаспадыня згадзілася браць 45 рублёў штогод (багатыя людзі за кватэры для сваіх дзяцей-вучняў у Лідзе плацілі і па 50 рублёў). У першы год вучобы малога Шалевіча плата за навучанне каштавала 2 рублі 50 кап., а на другі год падаражала да 3-х рублёў, мемуарыст не ўдакладняе - за год ці за месяц[15].

Лекцыі павінны былі пачынацца праз некалькі дзён, і бацька прапанаваў з'ездзіць дахаты, але малы Яўстах адмовіўся. Ён знайшоў добрага таварыша - сына гаспадыні і вучня 4-га класа Болеся Цемахоўскага. Разам з ім гуляў па горадзе, і новы сябар патлумачыў і расказаў хлопцу шмат цікавага.

Нарэшце пачалася вучоба: *"Надыходзіць гэтая мілая гадзіна, гэтая дарагая і пажаданая хвіліна пачатку заняткаў. Уваходжу ў школу! Як тут усё прыгожа і ўрачыста, як усё цешыць вышэйшым сэнсам! Адразу палюбіў усіх прафесараў, пачаў уважаць іх як вышэйшыя істоты. Прэфекта (дырэктара) лічыў нейкім серафінам*[16]. *Лекцыі пачаў слухаць з надзвычайным запалам і замілаваннем. Дзіўна закахаўся ва ўсе без вынятку навукі, ад рэлігіі да малявання і каліграфіі. Уважліва слухаў лекцыі прафесараў, праглытваючы кожнае іх слова. Прапусціць хоць адно слова дарагіх прафесараў было б для мяне вялікай стратай. Таму на ўроках паводзіў сябе вельмі ўзорна - па-анёльску. Жадаў, каб да мяне ставіліся, як да*

[9] Тады можна было ісці ў першы клас хоць у 20 гадоў.

[10] У тэксце - па-беларуску - *Л. Л.*

[11] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 4 адв. - 5.

[12] Паштовая станцыя паміж Лідай і Ішчалнай - *Л. Л.*

[13] У тую эпідэмію халеры ў Лідзе штодня памірала 3 - 4 чалавекі.

[14] Фотамастак Ян Булгак пісаў пра XIX ст.: *"... сярод тагачаснай шляхты панавала даўняе, яшчэ даволі распаўсюджанае, меркаванне, што навука дрэнна адбіваецца на здароўі. Прадузятасць да навукі паходзіла з таго, што моладзь мужчынскага полу, прызвычаеная да гарцавання на кані, да палявання і ўвогуле да руху на свежым паветры, без радасці садзілася за кніжкі, і ў школьным пакоі ёй было цесна і душна. Часта пасля некалькіх гадоў, праведзеных у гімназіі без аніякіх поспехаў, бацькі забіралі дадому вусатых сыноў, у якіх ужо не граматыка была ў галаве, а жаніцьба. Так было з братам маёй маці - дзядзькам Тадэвушам Хаціскім, які вярнуўся ... з другога класа гімназіі ў Навагрудку, бо бацькі баяліся дрэнных наступстваў школы для яго квітнеючага здароўя. А хлопец быў ужо, як дуб, проста са школы пачаў ездзіць у сваты і праз пару гадоў ажаніўся. Большасць тагачаснай моладзі не скончыла гімназіі: чатырохкласны школьны стаж ужо лічыўся сур'ёзным вынікам, а ўніверсітэцкі дыплом па-просту быў рэдкасцю."* - Гл: Булгак Ян. Край дзіцячых гадоў. Мінск, 2004. С. 75.

[15] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 6 адв. - 7.

[16] У сэнсе, анёлам. Серафіны - вышэйшы чын анёлаў, асабліва набліжаных да Бога. - *Л.Л.*

*пільнага, працавітага і добрага вучня. Калі сустракаў прафесараў на вуліцы, адразу саступаў ім дарогу. Здымаў перад імі шапку не толькі таму, што мелася гэтакае правіла і абавязак вучня, але з-за сапраўднай павагі да іх. I мае высілкі і праца на пачатку не прайшлі марна. Я заслужыў вядомасць у горадзе і ва ўсім павеце, як пільны, працавіты і ўзорны вучань"* [17].

Як я ўжо пісаў вышэй, Яўстах Шалевіч здымаў кватэру ў той жа гаспадыні, у якой здымаў яе і прафесар **Урбановіч**[18], які выкладаў чарчэнне, маляванне, каліграфію. *"Гэта быў вельмі светлы чалавек, падобна, выхаванец былога Віленскага ўніверсітэта*[19]*. Усё жыццё пражыў нежанаты. Паходзіў з ваколіцы каля Нёмана, са шляхты Лідскага павета. Яшчэ ён быў музыкантам, добра граў на скрыпцы і кларнеце. Як мог, вучыў мяне музыцы. Быў вялікім аматарам навукі, збіраў да сябе хлопцаў і вучыў іх прыватна, часцей без усялякай аплаты, каб толькі пашыраць кола аматараў навукі і мастацтва. Акрамя вышэй згаданых навук, ён у 1-м класе выкладаў геаметрыю, у 2-м - землямерную справу, а ў 3-м архітэктуру. Трыццаць гадоў займаў пасаду прафесара ў Лідзе і лічыўся чалавекам выключных ведаў. Вынаходзіў новыя метады навучання і выкладаў кожны прадмет зразумела і даступна. Вельмі цікава і меладычна кампанаваў музыкальныя фрагменты опер, як напрыклад кантрданс "Спеў гандальера", які я граю і зараз і захоўваю яго нотны запіс. Вельмі цікавіўся ўсім новым, што ў той час з'яўлялася - тэлеграфам, паравымі машынамі і г. д."* [20]

Урбановіч прыватна вучыў дзяцей задарма, а калі хто з іх плаціў, таму казаў: “Дзякуй”. Гэта быў адзінокі, шляхетны чалавек ва ўзросце 56 гадоў, можа таму яму і было цікава сябраваць з вучнямі, якія цягнуліся да ведаў: *"Казаў мне, каб я ў вольны час прыходзіў да яго. Правіў мне мае працы па фізіцы, касмаграфіі і натуральнай, рускай і агульнай гісторыі і г.д. Расказваў мне пра электрычнасць, пра маланку з бліскавіцай, дождж, град і снег, і пра шмат яшчэ што. Я ўсё я гэта слухаў з вялікай увагай і захапленнем бо ў 1-м класе пра гэтакія рэчы не расказвалі, і таму мае калегі пра гэта ніякага ўяўлення не мелі. Называў мяне "Яўсташак-душачка". Нарэшце прапанаваў мне перасяліцца ў яго пакой. Тады наша жыццё закіпела. Мы цэлымі вечарамі гралі, і бывалі моманты, калі я засынаў са скрыпкай у руцэ. Усталявалі надта прыязныя адносіны. Гулялі з ім па горадзе не як прафесар з вучнем, а як калегі. Душы нашы былі адзіны. Прыватна вучыў мяне маляваць, і за год у мяне сабраўся вялікі стос паперы, гэта прыдалося на экзаменах, калі я пераходзіў з 1-га ў 2-гі клас. Падчас агульнага збору ўсіх вучняў у адной зале, дырэктар высока ацаніў мае малюнкі і ўсім паставіў мяне ў прыклад. На пасведчанні за 1-шы клас дырэктар напісаў: "Благодарю Шалевича за его успехи во всём. Благодарю ещё более за усердие к рисованию, выказанное им сверх прямых по классу обязанностей""* [21].

Урбановіч з'яўляўся здольным педагогам. У кожнай навуцы, якую выкладаў, ён выдумляў свае метады і тлумачыў вучням прадметы вельмі зразумела і даступна. Шалевіч гартаў сшыткі і дзённікі свайго прафесара - у маладосці Урбановіч вельмі прыгожа пісаў гусіным пяром, і таму не любіў стальныя пер'і і не жадаў імі пісаць. Калі вучань прыносіў на заняткі стальное пяро, прафесар заганяў пяро ў лаву і ламаў.

Іосіф Урбановіч цікавы нам яшчэ і тым, што ён меў першы ў горадзе фатаграфічны апарат і рабіў першыя ў Лідзе фотаздымкі!

Яўстах Шалевіч пісаў: *"Мяне ён вельмі любіў і зняў мой партрэт. Гэта было ў 1856 г., пра фатаграфію ў Лідзе яшчэ мала хто ведаў. Ён мне не раз тлумачыў, як з дапамогай сонечнага святла здымаць партрэты і пейзажы. А свой першы фотаздымак ён, як і я, бачыў у Гуліна*[22]*, калі той прывёз яго з Пецярбурга"* [23]. Рабіў Урбановіч і фотапартрэты іншых вучняў - Шалевіч ўзгадвае фотаздымкам яшчэ аднаго "любімага" вучня гэтага настаўніка па прозвішчы Шчотка.

Звяртаючыся да вучня, Урбановіч называў яго "Каралевічам", і таму яму самому надалі мянушку "Кароль", і паколькі Шалевіч быў ягоным фаварытам, дык і яго самаго таксама бэсцілі мянушкай "Кароль".

Падобна, што з другога класа Яўстах кватараваў па вуліцы Крывой у доме Калясінскай. Адзін раз па гэтай вуліцы ішлі разам прафесары Бутоўскі і Урбановіч. Урбановіч прапанаваў Бутоўскаму зайсці да Шалевіча: *"Гэта выдатны вучань, яму будзе прыемна, калі мы да яго зойдзем. Ён шмат працуе над геаграфіяй і зараз чэрціць карту Германскага Саюза*[24]*"*. На што Бутоўскі адказаў: *"Каб ён і зоркі з неба здымаў, але настаўнік і тады не павінен па-сяброўску заходзіць да вучня, заходзіць можа толькі па-службе. Але ўсё ж адзін раз сам да мяне зайшоў"*.

У другім месцы Шалевіч піша пра тое, што Іосіф Урабновіч быў надзвычай скупым чалавекам і таму за жыццё назбіраў вялікія грошы. Ён ніколі не паліў і не ўжываў алкаголь, а калі перастаў выкладаць, дажываў свой век разам з пляменнікамі ў ваколіцы Астравухі - меў тут шчаслівую старасць. Выкладчык не піў гарэлкі, піва і наогул не браў у рот ніякіх алкагольных напояў.

[17] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 8 - 8 адв.

[18] Настаўнік "чистописания, черчения и рисования, коллежский секретарь Иосиф Васильевич Урбанович". Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1858 г. Вильно, 1858. С. 42.

[19] Віленскі ўніверсітэт быў зачынены пасля паўстання 1831 г.

[20] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 9 адв. - 10.

[21] Там жа. Арк. 10 адв. - 11 адв.

[22] Выкладчык рускай мовы Гулін нарадзіўся ў Пецярбурзе. "Пры мне ён толькі адзін раз коньмі ездзіў у свой родны горад, чыгункі яшчэ не было. Прывёз адтуль здымак на срэбнай блясе - першы фотаздымак, які я бачыў у жыцці", - успамінаў Шалевіч. Здымак на металічнай блясе меў назву дагератып.

[23] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 27.

[24] Шалевічу дазволілі ўзяць у вучэльні карту Германскага Саюза (адзінай Германіі яшчэ не было), і ён скапіраваў на кардоне карту для сябе.

Шалевіч пісаў, што яго прафесар Урбановіч займаўся своеасаблівым жанравым жывапісам - для выхавання вучняў пісаў дыдактычныя карціны. Любімы вучань гэтак праз 60 гадоў апісваў гэтыя спецыфічныя творы: сатана з рагамі, на курыных нагах нахіляе галінку, на якой сядзяць курыльшчык, піяка, аматар жанчын і карцёжнік. А вакол людзі рознага веку, станаў і полу з вытарашчанымі вачамі імкнуцца залезці на гэту галінку … Другая карціна: д'ябал з рагамі на курыных лапах, з страшным выразам твару трымае ў руках шыльду на якой напісана: "Бяздзейныя, лянівыя, дзёрзкія - заходзьце!"

На дрэнных вучняў Урабновіч крычаў: "Ты скотина, подлец! Будешь, будешь целовать в косматую ручку, но пощады никой не будет!" Што азначала, што калі пойдзеш у пекла, дык будзеш д'ябла касматую руку цалаваць, але дарэмна - раней трэба было думаць.

Яшчэ да пачатку вучобы нашага мемуарыста, у Лідзе з'явіўся нейкі мастак Пятрусевіч, які акварэллю намаляваў партрэт прафесара Урбановіча, потым *"партрэт скапіраваў добры малявальшчык-канцылярыст Віталіс Шаблоўскі. З Шаблоўскім я быў у сяброўскіх стасунках і выкленчыў у яго партрэт. Захоўваў у сябе гэтакую дарагую памяць пра свайго прафесара. Калі я ўжо вучыўся ў Наваградку, прафесар Фэглер прасіў аддаць яму гэты партрэт таварыша. Я не мог спрачацца з паважаным Фэглерам і з вялікім болем сэрца мусіў расстацца з дарагой для мяне рэччу. Лёс Фэглера быў сумным. Ён памёр у Вільні і пасля смерці абодвух гэтых дарагіх для мяне настаўнікаў, я шукаў партрэт ці яго копію, але гэтак і не знайшоў"* [25].

Прафесарам геаграфіі ў старэйшых класах быў вельмі самавіты і прыемны чалавек - Мінейка. Калі ён з’ехаў, на яго месца прыслалі з Масквы нейкага Бутоўскага. Гэта быў добра адукаваны настаўнік - да Ліды ён выкладаў у Маскоўскім універсітэце, але за нейкую правіну яго саслалі ў Беларусь.

*"Быў добрым і нават вялікім прамоўцам. Гэтакіх прамоўцаў я ў сваім жыцці бачыў толькі 2 - 3 разы. Нават прафесар Урбановіч такім не быў. Прамаўляў, як Богам натхнёны. Калі ён першы раз прыйшоў да нас у 3-м класе чытаць лекцыю па геаграфіі і распавёў нам пра Расію, мы адразу адчулі яго дар прамоўцы і глыбокія веды ў гэтай навуцы. На яго лекцыях падавалася, што ў грудзях ягоных гарыць агонь і хацелася стаць такім як ён"*, - пісаў Шалевіч. Але ў іншым месцы, мемуарыст назваў яго паяцам, комікам і фіглярам, *"якога свет не бачыў"*.

У лідскай ссылцы Бутоўскі адчуваў вялікую роспач за свой нізкі сацыяльны статус у чужым для яго горадзе. На лекцыях ён мог свавоціць, бегаць па класе, падскокваць, рабіць страшныя міны, але пры гэтым заўсёды меў прыстойны выгляд, і ўсё было яму да твару. Вучні, гледзячы на яго, баяліся ўпасці з лаўкі ад здзіўлення, а Яўстах, які і так *"звычайна знаходзіўся ў нервовым стане і да таго ж меў схільнасць да гумару, часам падаў з-за смеху з лавы на зямлю! Калінікалі ў класе стаяў такі рогат, што ў суседнім, 4-м класе немагчыма было праводзіць заняткі. Калі ён ... выкладаў ў маім ... класе, дык з-за ўсяго гэтага нават лекцыя магла быць сарваная"*.

Калі нехта з вучняў не ведаў урока ці памылкова адказваў Бутоўскаму, той звычайна казаў: *"Патрапіў пальцам у чарніліцу!"* Пасля чаго хапаў вучня за руку і насамрэч ўціскваў яго палец ў чарніліцу!

Няшчасным мучанікам з'яўляўся вучань Уладак Крахельскі, сын казначэя. Ён быў запісаны ў журнале першым, і таму яму прыходзілася адказваць на ўсіх уроках. Крахельскі не быў добрым вучнем, і яго палец не раз бываў у чарніліцы. Бутоўскі круціў яго палец ва ўсе бакі і часам хадзіў з ім па класе пад-руку. Нават дырэктар вучэльні не смеў выступаць супраць Бутоўскага.

Неяк на занятках Крахельскі сказаў: *"В Орлеане памятник орленской дрове*[26] ". Настаўнік тут жа яго запытаў:

- Што гэта "дрова"?
- "Дровица" - адказаў Крахельскі.
- А што гэта, "дровица"?
- Паненка.
- А што такое паненка?

Пасля гэтага пытання вучань замаўчаў …

Бутоўскі адказаў за вучня: *"Это высшее существо! Это сверхпонятное существо! Это не естественное существо! Это благородное существо! ..."*

Лідскі настаўнік яўна знаходзіўся пад уплывам нямецкіх паэтаў-рамантыкаў, і можна ўявіць, як яго пакрыўдзіла яго тое, што сын тутэйшага казначэя з-за няведання рускай мовы назваў "звышнатуральную" існасць дрывамі.

Яшчэ да прыезду ў Ліду Аркадзь Бутоўскі атрымаў адносную вядомасць як дзіцячы пісьменнік. Першая яго кніга выйшла ў 1851 г.[27] У гэтай кнізе паменшанага фармату для дзяцей коратка выкладаўся курс гісторыі Расіі, зразумела, што з імперскага пункту гледжання. У канцы кнігі знаходзіліся храналагічная табліца галоўных падзей, радавод вялікіх князёў, цароў, імператараў і храналагічная табліца з гадамі іх жыцця.

У лідскай ссылцы пісьменнік напісаў сваю другую кнігу. Для друку яе перапісаў вышэйзгаданы Шаблоўскі. Яўстах Шалевіч сцвярджае, што кніга пры канцы 1850-х гг. была надрукаваная ў Вільні, але я не знайшоў слядоў гэтага віленскага выдання Бутоўскага і, верагодна, кніга існавала толькі ў рукапісе. Яўстах Шалевіч ў 1870-я гг. таксама шукаў кнігу Бутоўскага ва ўсіх рускіх кнігарнях Вільні і не знайшоў. Але былы вучань пісьменніка памятаў, што кніга складалася з 32 раздзелаў, з якіх ён памятаў толькі тры: *"1. Грех скончался. 2. Правда осталась в Иерусалиме. 3. Гостеприимство в бегах"*. Як бачым, кніга пісалася з дыдактычна-выхаваўчымі мэтамі і прызначалася для

[25] Там жа. Арк. 29., 32 адв. - 35.

[26] Крахельскі пераблытаў словы "дева" і "дрова" - *Л. Л.*

[27] Гл: Бутовский Аркадий. Рассказы детям о достопримечательнейших событиях истории России. (Посвящено детям всех сословий). С.-Петербург Типография Карла Крайя. 1851г. 153 с.

вучняў[28] .

Род Бутоўскіх паходзіў са шляхты Палтаўскай губерні. Бацька Аркадзя - Іван Рыгоравіч Бутоўскі - адстаўны афіцэр, літаратар і перакладчык, удзельнік войнаў з Напалеонам і руска-шведскай вайны 1808 - 1809 гг.[29] У 1916 г. адзін з Бутоўскіх напісаў кнігу пра свой радавод. З гэтай кнігі бачна, што па ўспамінах сваякоў, наш Аркадзь Бутоўскі быў *"здольны і дасціпны чалавек"*, але *"бязладнае і разгульнае жыццё дачасна звяло яго ў магілу"*. Былы лідскі настаўнік быў пахаваны на Новадзявочых могілках у Пецярбургу, але ўжо да 1912 г. даты жыцця на яго магільнай пліце сцерліся[30].

Матэматыку ў лідскай вучэльні вёў прафесар Віткоўскі, ён *"добра выкладаў гэты прадмет, але меў вялікі недахоп - у яго было немагчыма нічога спытаць. Усе прафесары мяне любілі за тое, што я цікавіўся ў іх кожнай рэччу і пра ўсё выпытваў, а гэты не дазваляў задаваць яму пытанні - такі меў прынцып. А я не мог яму даравацъ, што ў гэтакай важнай навуцы як матэматыка, нічога нельга ўдакладніць ці спытаць"* [31].

З-за таго, што Віткоўскаму нельга было задаць пытанне, адзнакі па яго прадмету Шалевіч меў не высокія: *"Гэты настаўнік сапсаваў мне адзнаку па алгебры. На экзаменах ён таксама нецярпліва бліскаў вачамі. Быў занадта строгі, недаступны і моцна лаяўся на вучняў"* [32].

Да паўстання 1863 г. для рыма-католікаў рэлігію выкладалі па-польску. На калідорах і класах на перапынках дазвалялася размаўляць па-польску, але сама польская мова не выкладалася. Аднак, на запусты[33] 1858 г. дазволілі выкладанне польскай мовы - гэта была эпоха лібералізацыі Аляксандра II [34]. Прафесарам польскай мовы стаў выкладчык Бякеша. Яўстах Шалевіч піша: *"Як сёння, гэтак і тады нашы вучні - шаноўныя палякі, не надта імкнуліся вывучаць сваю мову. Таму шаноўны прафесар мусіў звяртацца да іх з маральнымі прамовамі пра неабходнасць яе вывучэння"* [35]. У другім месцы: *"Польскай мове нас вучыў Бякеша, працавіты і старанны настаўнік, але, як я ўжо пісаў, нашы вучні не надта жадалі карыстацца з яго навукі"*[36].

Падчас вучобы Шалевіча дырэктарам лідскай школы працаваў Аляксандр Аляксеевіч Шахаў. На мясцовы манер яго назвалі прэфектам, а па-руску яго пасада мела назву **"Штатный смотритель Лидского дворянского училища"** [37].

Шалевіч нагадваў, што: *"Наш шаноўны прэфект ... добра піў гарэлачку"*. А расійскі афіцэр Любарскі, які служыў у Лідзе перад паўстаннем 1863 г. гэтак успамінаў пра Шахава: *"Рускія людзі ў цывільнай адміністрацыі краю сустракаліся вельмі рэдка, большай часткай толькі ў губернскіх гарадах, у павятовых рускі чалавек уяўляў сабой выключную з'яву. Прытым тутэйшы рускі службовы люд быў зусім адмысловага гатунку. Карэнных выхадцаў з Расіі заносіла сюды якая-небудзь выпадковасць ... . Такія назіранні я вынес з вельмі многіх гарадоў Паўночна-Заходняга Краю, куды мяне кідаў лёс. Усяго даўжэй мне прыйшлося пражыць з батальёнам нашага палка ў горадзе Лідзе Віленскай губерні. Тут у цывільнай адміністрацыі, пачынаючы з гараднічага, усе былі тутэйшыя. Праўда, знайшоўся адзіны рускі, наглядчык павятовай вучэльні, званы па польскай тэрміналогіі "панам прэфектам", ды і той быў горкі п'яніца. Гэта быў карэнны русак, але ў маральных адносінах зусім бесхарактарны. Відаць, яго схавалі ў гэтую глухмень за п'янства. Да сваёй вучэльні ён амаль не меў дачынення, і ... настаўнікі выкладалі так, як хацелі, без усякага кантролю; балазе ў той час яшчэ не была ўсталявана, як зараз, сістэматычная рэвізія выкладання з боку акруговых начальнікаў"* [38].

[28] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 26 - 29 адв.

[29] Шмат гадоў Бутоўскі-бацька працаваў над перакладам твора Бернара Фантэнеля "Гісторыя крыжовых паходаў" (пераклад у 5 частках, 1822-1836). 1-я частка перакладу апублікавана ў 1822 г. і атрымала добрую адзнаку шэрагу рэцэнзентаў. Ф. Булгарын знаходзіў той пераклад вельмі карысным, аднак адзначыў значныя хібнасці ў перакладзе ўласных імёнаў. Першыя два тамы былі перавыданы ў 1841 г.

Пераклад у 1824 г. кнігі Блеза Паскаля "Думкі" (апублікаваны ў 1843 г.) выклікаў аднадушную ўхвалу крытыкі.

У 1834 г. Бутоўскі выдаў брашуру "Аб адкрыцці помніка імператару Аляксандру I",

У лістападзе 1836 г. Бутоўскі-бацька па просьбе сваёй стрыечнай сястры Н. Дуравай выдаў яе кнігу "Кавалерист-девица. Происшествие в России", якая атрымала добрыя водгукі.

У 1858 г. у "Рускім інвалідзе" Бутоўскі апублікаваў свае ўспаміны аб Напалеонаўскіх войнах 1805-1807 гг. - "Первая война императора Александра I с Наполеоном I в 1805 году" і "Вторая эпоха борьбы Александра с Наполеоном". Абедзве часткі атрымалі добрыя рэцэнзіі. Аднак апублікаваная ім у тым жа годзе 3-я частка "Третья достославная эпоха борьбы Александра I с Наполеоном" (пра вайну 1812 года, у якой ён не ўдзельнічаў) атрымала негатыўныя ацэнкі з-за шэрагу значных недакладнасцяў і памылак.

[30] Гл: Бутовский А. Д. В родном гнезде (Летопись рода Бутовских). С.-Петроград, 1916.

[31] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 15.

[32] Там жа. Арк. 24.

[33] Пачатак вялікага паста.

[34] У выніку рэформ Аляксандра II нейкі час цягнулася палітычная "адліга", былі памілаваны паўстанцы 1831 г., і інш. Аднак пасля паўстання 1863 г. польская мова была цалкам забаронена ва ўсіх установах не толькі Беларусі, але і этнічнай Польшчы. Зараз мала хто ведае, што выкладанне ў польскіх школах, гімназіях і Варшаўскім універсітэце вялося выключана па-руску. Ва ўсіх установах віселі шыльды: "Говорить по-польски запрещено".

[35] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 22 адв.

[36] Там жа. Арк. 24.

[37] Наглядчыкам павятовай дваранскай вучэльні ў Лідзе ў 1860 г. быў надворны дарадца Аляксандр Аляксеевіч Шахаў. Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1860 г. Вильно, 1860. С. 39.

[38] Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. 1895. Т. 59, № 3. С. 818.

Алкагалізм Шахава з гадамі толькі ўзмацняўся. Вучань 5-га класа Баляслаў Цямахоўскі нават напісаў верш на рускай мове пра "захапленне" дырэктара[39].

Прафесар французскай мовы Баўблеўскі добра ведаў свой прадмет і прыгожа яго выкладаў.

Нямецкую мову выкладаў немец-каталік Ягор Фэглер. *"Вельмі маральная асоба, сімпатычны і мілы. Быў жанаты на сп. Сумарокавай"* [40].

Пасаду памочніка выкладчыкаў займаў Пігулеўскі, вучоны, лагодны і мілы стары. Ён выкладаў 3 прадметы: рускую мову, арыфметыку і геаметрыю, а ў 2-гім класе - геаграфію. *"Нялёгка яму было ўтрымліваць сям'ю. Старэйшы сын вучыўся ва ўніверсітэце і расказвалі, што вучыўся дрэнна. Два іншыя сыны хадзілі ў нашу школу, і абодва былі вельмі неразвітымі. Пра яго дачок нічога не ведаю. У нашай Лідскай школе былі 3-ы праваслаўныя вучні - гэтыя два Пігулеўскія і трэці Ніканаў. Гэты вучыўся сярэдне, але меў прыгожы почырк. У нашай школе меліся рускія выкладчыкі, гэта: дырэктар, прафесар рускай мовы Гулін і Пігулеўскі* (па прозвішчы бачна, што Пігулеўскі, беларус - *Л. Л.*). *Выкладчыкі-палякі* (дакладней, мясцовыя рыма-каталікі - *Л. Л.*): *Баўблеўскі, Урбановіч і Рудзінскі. Прафесар падрыхтоўчага класа Фэглер - немец-каталік"*[41].

Мемуарыст цікава расказвае пра свае экзамены: *"Калі здаваў з 1-га ў 2-гі клас, гэтак усё пайшло добра, што сказаў я толькі 2 - 3 словы, а "пяцёрка"*[42] *ужо гатовая. Памятаю іспыт па геаграфіі. Здаваў яе самому дырэктару*[43]*. Ён любіў гэтую навуку, бо раней быў прафесарам геаграфіі і гісторыі. Я таксама быў яго ўлюбёнчыкам, ён не раз гладзіў мяне па галаве. Выцягнуў білет, але ён пажадаў задаць мне свае пытанні. Кажа мне па-руску:*

*- Калі б мы пачалі капаць глыбокую яму, куды б мы нарэшце патрапілі?*

*- На другі бок зямнога шара.*

*- А праз які вядомы пункт Зямлі мы б прайшлі?*

*- Праз цэнтр Зямлі, - адказваю.*

*- Да цэнтра Зямлі мы б ішлі ўгару ці ўдол?*

*- Удол.*

*Потым мой дарагі дырэктар пажадаў мяне трохі падлавіць - ці насамрэч я разумею, і, гледзячы на кніжку, пераварочвае яе старонкі і як бы між іншым кажа сам сабе:*

*- А пасля цэнтра Зямлі мы таксама будзем ісці ўдол ...*

*Я раптоўна здагадваюся пра правільны адказ і на ўвесь клас крычу:*

*- Не! Тады мы будзем ісці ўгару!*

*- Выдатна, выдатна! - таксама галасна адказаў дырэктар і загадаў мне вяртацца на месца.*

*Прафесары ўсміхаліся, а ўвесь клас пільна назіраў за мной.*

*Калі вяртаўся на лаву, радасці і шчасцю майму не было межаў, і каб мне ў той момант хто прапанаваў атрымаць у падарунак палову Еўропы, для мяне гэта б нічога не значыла. Хацеў тады прасіць свайго шаноўнага дырэктара, каб ён яшчэ дазволіў мне расказаць на гэтую тэму яшчэ нейкіх цікавостак. Бо я мог растлумачыць яму, чаму пасля цэнтра напрамак руху зменіцца. Рукамі, над галавой грэблі б пясок і ён бы падаў на нас, а потым імкнуўся бы да цэнтра Зямлі. І мы самі павінны былі б упасці да цэнтра Зямлі. Па геаграфіі я атрымаў "5", але мне хацелася падскочыць і расказаць, што ўсё гэта мне раней растлумачыў добры і шляхетны прафесар Урбановіч"* [44].

Хто у свой час чытаў кнігі папулярызатара навукі Р. Перальмана, той памятае аналагічныя задачы і іх рашэнні. Падобна, гэткія задачы "на кемлівасць" былі распаўсюджаны ў тагачасных гімназіях.

Шалевіч цікава апавядае пра наведванні Лідскай вучэльні куратарам Віленскай навучальнай акругі Урангелем[45]: *"Нас навучылі, як яму адказваць, і калі ён што запытае, як яго тытулаваць пры звароце. Нам загадалі, каб адзенне і абутак былі ў найлепшым стане. Я вучыўся дзень і ноч, каб добра адказаць куратару, калі ён да мяне звернецца. Але мой мундзір быў парваны, і я не меў часу занесці яго да краўца. Дзень за днём хадзіў у школу ў гэтакім мундзіры, і калі з візітацыяй прыехала важная асоба, дык пайшоў у школу з дзіркамі пад пахай мундзіра"*, - пісаў Шалевіч.

І далей: *"Дайшла чарга да нашага класа. Куратар прапанаваў ксяндзу што-небудзь у нас запытаць. Ксёндз запытаў пра Хрыста. Хто адкажа? Усе сядзяць. Ксёндз задае пытанне яшчэ раз. Я ўстаю і адказваю. Потым куратар загадвае задаць пытанне*

---

[39] Наш директор уж взбесился,
Это видно со всего,
Он и с совестью простился,
Верно, верно, уж давно!

Для него и грех скончался,
Как Аркадий наш сказал.
Он и с истиной расстался,
Это всякий замечал.

Все пороки в нём слилися,
Верьте, правду говорю,
Черти садом собралися
В черную его душу.

Ром и водку без разбора
Пьет, как воду завсегда.
Знает Мала, Вера, Сара,
Его всякая корчма.

Кроме водочки милее
Нет ему уж ничего.
Сердце бьёт его сильнее,
Лишь увидит он вино!

Гл: ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 30 - 31 адв.

[40] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 23 адв.

[41] Там жа. Арк. 31.

[42] Па пяцібальнай сістэме.

[43] Таму самаму Шахаву.

[44] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 12 - 12 адв.

[45] Апякун Віленскай вучэбнай акругі, генерал-лейтэнант, барон Рыгор Пятровіч Урангель - Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1858 г. Вильно, 1858. С. 34.

*прафесару матэматыкі. Той вызывае мяне да дошкі. А я пачаў прыкрываць сваю дзірку пад пахай і гэтак спужаўся, што ўсё ўва мне замёрла. Прафесар прадыктаваў мне задачу. Я, стаю каля дошкі, як пафарбаваны слуп, і не маю паняцця пра задачу - думаю толькі, што будзе? Што будзе, калі я гэтай задачы не развяжу? Узношу думкі да Пана Бога: Божа міласэрны, змілуйся, змілуйся нада мною. У той момант я быў самым нешчаслівым чалавекам у свеце. Гэтак нерухома прастаяў некалькі хвілін - прафесар цярпліва чакаў. Пот з ілба градам ліўся па твары, а я стаю каля дошкі гэтак, каб ніхто не бачыў дзірку на мундзіры. І тут са мной нешта здараецца - як быццам находзіць прасвятленне. Раптоўна я разумею, як развязаць задачу. Збіраюся з думкамі і пішу на дошцы тое, што трэба. Куратар яшчэ нешта запытвае ў мяне, і я адказваю, але твар ў мяне ўвесь мокры ад поту. Куратар усміхаецца і кажа: "Совершенно вспотел!", пасля чаго адпускае мяне на месца"* [46].

У той час яшчэ ўжываліся пакаранні вучняў розгамі: "*У мае часы ў школах яшчэ выкарыстоўвалі цялеснае пакаранне, скасавалі яго ў 1859 г."* [47] Прызначаў пакаранне наглядчык (дырэктар) вучэльні: *"Наш каханы Шахаў сек вучняў дасканальна, даставалася ім, калі і па 30 розаг, часам і кроў пырскала, але ён ўсяроўна рабіў сваю справу. Даставалася нават вучням чацвёртага і пятага класаў, але я вучыўся добра, і мяне ніколі не секлі"* [48].

Шалевіч расказаў гэтакую школьную гісторыю: *"Адзін чатырохкласнік, гувернёр Д. з кватэры Нарбутовай, сын шляхціца з ваколіцы В. вучыўся добра, але быў вялікі свавольнік. Неяк, калі ўжо празваніў званок на лекцыі, ён як бомба ўварваўся ў наш клас, кленчыў на стале і паказваў усім нам вельмі нягжэчную частку цела. І трэба так здарыцца, каб у гэты момант у клас, каб весці ўрок, увайшоў ксёндз, а тая частка цела якраз была накіравана ў бок ксяндза. Небарака саскочыў са стала і думаў схавацца, але ксёндз усё заўважыў і паставіў яго на калені ў калідоры вучэльні - ніякія малітвы, абяцанкі і просьбы не дапамаглі. Дырэктар заўважыў на калідоры ўкленчанага Д. і прапісаў яму яшчэ розаг! Атрымаў спадар гувернёр! Другі раз той жа самы Д. быў абвінавачаны прафесарам Урбановічам, і зноў яму розаг мала не было!"* [49]

Як і ва ўсіх вучэбных установах таго часу, абавязкі штатнага "ката" выконваў Рудскі - вартаўнік Лідскай вучэльні. Ён працаваў тут 38 гадоў. *"Паколькі, без розаг у той час вучыць не атрымлівалася, менавіта яму трэба было выконваць кару. Вучні, якія прайшлі праз яго рукі, у мой час былі ўжо палкоўнікамі, генераламі, канонікамі, прэлатамі і г. д. Неяк я спаткаўся на пошце з адным палкоўнікам, які атрымаў выхаванне ў нашай школе. Распытваў ён мяне пра Ліду і тутэйшую школу. Між іншым, успомніў вартаўніка Рудскага. "Ён і зараз служыць", - адказаў я палкоўніку: "Без яго - ніяк". "Шчаслівую меў руку, добра мяне стымуляваў", - уздыхнуў афіцэр"* [50].

Я яшчэ не чытаў школьных успамінаў, у якіх былы вучань не ўзгадваў бы мянушкі сваіх настаўнікаў. Закрануў гэтую тэму і нават такі ўзорны вучань, як Яўстах Шалевіч: *"Як у зерні бывае пустазелле, гэтак і сярод вучняў бываюць нягоднікі, якія надаюць прафесарам мянушкі. Гэтак Урбановіча ўсе назвалі "Каралём" і рэдка калі інакш. Віткоўскага называлі "Віт", Фэглера - "Флюк", Баўблеўскага - "Апалонік" (Opolonik). Гэты звычай надаваць прафесарам мянушкі мне надта не спадабаўся. Пачуўшы іх, я выходзіў з сябе і гэтым зарабіў шмат непрыяцеляў сярод вучняў. Калі прапаноўвалі сарваць лекцыю, я як вельмі правільны вучань не згаджаўся, і злосць калег вылівалася на мяне. Аднаго разу нават яны хацелі закруціць мне галаву ў паліто і пабіць. А ў другі раз мяне выклікалі на двубой - кулачны паядынак. Я быў вельмі слабы і не паспеў літаральна нават адным пальцам паварушыць, як аказаўся на зямлі. Нічога не мог зрабіць з сваімі супраціўнікамі - ні словам, ні сілай. Але мяне вельмі крыўдзіла іх зласлівасць і дурата, бо як жа можна не паважаць сваіх настаўнікаў, якія нас вучаць і да дабра вядуць"* [51].

Яўстах Шалевіч закончыў 3 класы Лідскай 5-ці класнай вучэльні, якая магла лічыцца прагімназіяй. Улетку 1858 г. прагімназія была скасаваная і замест яе адчынена 3-х гадовая вучэльня, якая давала толькі пачатковую адукацыю: *"Атрымаўшы пасведчанне за 3-ці клас, я паехаў дахаты. Тут з першага дня я расклаў свае любімыя кнігі і пачаў рыхтавацца да 4-га класа. Праз 3 тыдні атрымаў ліст ад брата пра тое, што Лідская школа зачынена, але замест павятовай вучэльні ў Наваградку створаная 7-мі класная гімназія*[52]*. Ён прапанаваў мне прыехаць у Ліду і далей вучыцца ў Наваградку"* [53]. Аднак у Наваградку Шалевіч правучыўся толькі некалькі месяцаў.

* * *

У тыя часы, калі зачынілася Лідская прагімназія, у Еўропе інтэнсіўна развівалася сістэма народнай адукацыі, уводзілася ўсеагульная пачатковая і планаваўся пераход да агульнай няпоўная сярэдняй адукацыі. *"Нямецкі настаўнік стварыў Германію"*, - казаў Бісмарк. І толькі Расія, як заўсёды, ішла ў супрацьлеглы бок, бо адукаваным людзям не верыла і мела надзею на рускі штык і рускага папа замест адукацыі. У перспектыве гэта разам з іншымі фактарамі, прывядзе да павялічэння суцэльнага цывілізацыйнага адставання, да паразаў у войнах і да рэвалюцый.

[46] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 23 адв. Арк. 18 - 19.
[47] Там жа. Арк. 31 адв.
[48] Там жа. Арк. 32.
[49] Там жа.
[50] Там жа. Арк. 33 адв.
[51] Там жа. Арк. 35.
[52] Два лідскія выкладчыкі - Баўблеўскі і Фэглер былі пераведзеныя ў Наваградскую гімназію.
[53] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172. Арк. 36.

*Лідскія калекцыі*

# Калекцыянерка з Ліды сабрала больш за тры тысячы ёлачных цацак

У калекцыі Марыны Яцко - савецкія ракеты, героі казкі "Руслан і Людміла", цацка з партрэтамі Леніна і Сталіна і ўнікальная гірлянда, якая працуе з 60-х гадоў.

Разглядаць савецкія цацкі - гэта як заглыбіцца ў мінулае, асабліва для тых, хто памятае шкляныя шары і алюміневыя агуркі на ёлцы і яшчэ, як сам з'ядаў па начах павешаныя цукеркі, акуратна загортваючы потым пусты фанцік.

Марына Яцко жыве ў Лідзе і працуе на самай звычайнай працы - страхавым агентам. А вось хобі ў яе не самае звычайнае: яна калекцыянуе цацкі часоў Савецкага Саюза. Захапілася пяць гадоў назад, калі вырашыла ўпрыгожыць ёлку нечым арыгінальным:

- Убачыла ў інтэрнэце аб'яву пра продаж шкляных ружовых шароў. Хацела купіць адзін, а вярнулася дахаты з цэлай скрынкай, - распавядае лідзянка.

Марына села вывучаць, што яшчэ цікавенькага прадаюць на барахолках… і адкрыла для сябе новы свет. Многія цацкі даводзілася шукаць не на форумах, а ў вёсках. Адзін з рэдкіх набораў упрыгожванняў для ёлкі аддала бабуля мужа:

- У 1958 годзе яна купіла гэты набор, і потым не завешвала вокны - усе хадзілі і глядзелі на яе ёлку, - усміхаецца Марына.

Каб зразумець, чаму калекцыянеры вядуць паляванне на кожны асобнік цацак з СССР, паспрабуйце ўспомніць, як вы пазбавіліся ад іх у дзяцінстве. Далікатныя ўпрыгожванні патрабуюць асцярожнага догляду: на многіх размалёўка змываецца нават вадой. Захоўваць іх трэба без трымальнікаў-вусікаў: яны шкодзяць шкло знутры.

Марына распавядае, што некаторыя цацкі з часам парэпаліся ці страцілі фарбу:

- Але рука не паднімаецца падфарбаваць ці заляпіць, баюся, зраблю горш, - кажа яна.

Цяпер яе калекцыя налічвае больш за тры тысячы цацак. Захоўваюцца гэтыя скарбы ў адмысловых цяжкіх скрынях тых жа часоў, асцярожна рассартаваныя па тэмах: садавіна і гародніна, жывёлы, казкі…

Дапамагаюць у нялёгкай справе дзве энцыклапедыі цацак - у іх апісаны ўсе калекцыі, якія выходзілі, і прыкладныя цэны на іх. Дастаць такую кнігу таксама нялёгка: кожную выпускалі ўсяго тысячай асобнікаў.

Хвілін праз дваццаць гутаркі пачынаю заўважаць у самых нечаканых месцах пары вачэй. Аказваецца, Дзяды Марозы так трывала мімікравалі пад светлы пакой, што іх проста амаль нерэальна знайсці. Колькі іх у кватэры, складана сказаць нават самой гаспадыні:

- Дзядуляў у мяне шмат, а вось са Снягуркамі заўсёды праблема. Унучку Дзеду Марозу прыдумалі толькі ў 1930-х, каб дзеці яго не баяліся, і выпускалі



невялікімі партыямі, таму цяпер яны каштуюць нямала - па 200-300 рублёў і даражэй. У мяне ёсць адна Снягурка 1938 года. А гэты Дзед Мароз з рогам багацця - мой любімы! - калекцыянерка абдымае любімую цацку, як дзіця.



*Дзяды Марозы і Снягуркі*



*Дзед Мароз і Снягурка*

Зацвердзіць дызайн цацкі ў часы СССР было вельмі складана:

- Каб цацка выйшла ў свет, на фабрыцы збіраўся кансіліум, які абмяркоўваў эскізы мастака. Кожная

цацка павінна была несці ідэалагічную нагрузку, патрыятычна выхоўваць дзяцей. Мода таксама ўплывала на дызайн: Сталіну падабаўся фільм "Цырк" - выйшла цыркавая серыя, прыйшоў да ўлады Хрушчоў - з'явіліся катахі кукурузы. Пасля палёту ў космас выйшла серыя са спадарожнікамі і касманаўтамі… Выходзіла і абаронная серыя з танкаў, самалётаў і нават паравозаў з надпісам "Сталін", - распавядае Марына.

Самая дарагая цацка ў яе калекцыі - якраз блазан Вяткін з цыркавой серыі, у камплекце з якім ідзе сабачка Манюня. У адрозненне ад блазна, цэны на якога стартуюць ад 250 рублёў, Манюні выпусцілі куды больш, таму і каштуе сабачка ў 10 разоў танней.

Марына дастае скрынкі з асцярожна спакаванымі наборамі цацак і з бляскам у вачах распавядае пра кожную: вось Руслан і Людміла, вось Машанька і мачаха з "Марозка", а вось - адвакат Гарох і сабака Трымай-Хапай з "Чыпаліна".



*Героі казкі "Руслан і Людміла"*

- Да сабачкі бракуе Містара Моркоу - гэта вельмі рэдкая і дарагая цацка, сапраўдная пярліна любой калекцыі! Дарэчы, з гэтай жа серыі і самая дарагая цацка з усіх, што бачыла на аўкцыёне, - Мандарын быў за 800 рублёў! Дарагі і Сеньёр Памідор, а вось сам Чыпаліна цікавасці для калекцыянера не ўяўляе - яго выпускалі шмат разоў і ў вялікай колькасці.

Ці існуе такая цацка, якую ну вельмі моцна жадаецца займець? Аказваецца, так.

- Астролаг з "Казкі пра Залатога пеўнічка" Пушкіна! Яна вельмі рэдкая, і вар'яцкі мне падабаецца, - кажа калекцыянер. - Праўда, каштуе яна каля 400 даляраў…



*Серыя "Космас"*

Ёсць у Марыны і ўпрыгожванні на касмічную тэматыку: тры ракеты, два дырыжаблі.

- Цікавая двухбаковая цацка 1960 года: з аднаго боку на ёй - месяц, а з другога - касманаўт. Тады ў СССР былі ўпэўнены, што першымі высадзяць людзей на месяц, і выпусцілі ў гонар гэтага цацку. Але Амерыка апярэдзіла. А гэта гіганцкія крамлёўскія цацкі - іх вешалі на вулічныя елкі. Такая ўжо калі і ляснецца, то нічога з ёй не будзе! - смяецца калекцыянер.

Затым перад нашымі вачамі праплываюць персанажы з "Казкі пра залатую рыбку", "Дюймовачкі", "Бураціна", "Марозка", "Казкі пра цара Салтана"… А Чырвоныя Каптурыкі наогул знайшліся на любы густ: бландынкі, брунэткі, шатэнкі і рудыя.

- У мяне нават ёсць набор цацак "Рэпка", выпушчаны ў Менску на заводзе люстраных вырабаў. Спецыфічныя цацкі выпускалі ва Украіне - на іх глядзіш і адразу разумееш іх геаграфію: там быў свой, асаблівы погляд на цацкі.



*Набор цацак "Рэпка"*

Заўважаю пунсовую цацку з партрэтамі абодвух правадыроў адразу - Леніна і Сталіна.

- Такую цацку пару гадоў назад у Расіі прадалі за 3 тысячы даляраў. Яе выпусцілі ў ГДР яшчэ да смерці Сталіна. Але я схіляюся да таго, што гэта - сучасная рэпліка. У савецкі час не рабілі цацкі міндалепадобнай



*Ленін і Сталін*

формы, толькі круглыя, да таго ж, у яе грубаватыя швы. Ды і ў Саюзе Леніна і Сталіна, вядома ж, нельга было павесіць на ёлцы, - кажа Марына.

Некаторыя цацкі толькі на першы погляд падобныя на ўпрыгожванні нашых дзён, але гэта не так: іх рабілі падчас Другой сусветнай вайны з адыходаў ваеннай вытворчасці - дроту, дрэва. Марына кажа, што мужчына-калекцыянер, якому ад бацькоў засталася вялікая калекцыя ваенных цацак, абмяняў парачку такіх на яе шкляныя цацкі.



***Парад - але***

У вялікай калекцыі ёсць месца не толькі для ёлачных упрыгожванняў. У ёй і сцяжкі, і канфеці, і заціскі для свечак на ёлку, старадаўнія паштоўкі і гірлянды.

Гірлянда "Сюрпрыз" вытворчасці Харкаўскай фабрыкі пластмасавых вырабаў наогул здаецца цудам інжынернай думкі - усярэдзіне каляровых шкляных лямпачак - адмысловая вадкасць, якая пры награванні ад электрычнасці пачынае бурліць і свяціцца. На скрынцы стаіць *1966 год* і цана - *9 рублёў*. Варта аддаць належнае, рабілі іх на сумленне - нават праз паўстагоддзе ўсё спраўна працуе.

Як аказалася, ні муж, ні сын гераіні яе хобі не падзяляюць: сына прыцягваюць машыны, а муж бурчыць, што месцы ў шафе з-за цацак зусім не засталося. За пяць гадоў калекцыя разраслася, і месца ў кватэры стала катэгарычна бракаваць. Таму вялікая частка цацак пераехала да сваякоў на захоўванне.

- Кожны раз, купляючы цацку, уяўна пытала сябе: "Ну і куды ты яе зараз пакласці збіраешся?" Ды і задавальненне гэта не з танных: калі ўсё гэта прадаць, машыну б сабе сапраўды купіла. Цяпер, перад Новым годам, у кватэры стаяць дзесяць ёлак з цацкамі. Вядома, самыя каштоўныя экземпляры мы не вешаем - калі зваліцца, будзе вельмі крыўдна! - кажа Марына.

**ГІСТОРЫЯ ПЫТАННЯ**

**Як змяняліся цацкі і ёлкі ў Савецкім Саюзе**

Эксклюзіўнасць цацак тым вышэй, чым радзей і раней іх выпускалі. Самыя каштоўныя тыя, што выраблялі да 1966-га года. Усе яны распісаны ўручную. Марына распавядае, што па іх адразу відаць, дзе працаваў майстар, а дзе - чаляднік. А ў 1966 годзе з'явілася канвеерная вытворчасць, размалёўка спрасцілася, і з цацак знікла індывідуальнасць.

Самыя старыя савецкія цацкі 1930-х гадоў, рабілі з дапамогай тэхнікі карданаж. Па сутнасці, гэта вырабы, калі ты сам робіш сабе цацку. У наборы быў кардон, з якога трэба было выразаць дзве фігуркі, потым сшыць іх паміж сабой, засунуць вату і дрот.

У 50-х пачалі выпускаць упрыгожванні з прасаванай ваты. На драцяны каркас намотвалася вата, яна прасавалася і фарбавалася, затым цацкам наляплялі твары з пап'е-машэ. Тады нават выпусцілі серыю прасаваных цацак "Жывёльны двор": карова, авечка, курачка…



***З энцыклапедыяй цацак***

У 70-80-х пачалі папулярнымі цацкі з пенапласту: яны бяспечныя і танныя. Мішуру ў тыя часы рабілі з медзі, і зняць яе з ёлкі было немагчыма - дрот намёртва сплятаўся з дрэвам.

А вось самі ёлкі былі наогул забаронены да 1937 года, пакуль улада не распавяла народу, што гэта свята шчаслівага дзяцінства, пра якое клапоціцца асабіста таварыш Сталін. Так ёлкі і апынуліся ў хатах. А мініялінкі з маленькімі цацкамі пачалі выпускаць у 1960-я гады, калі многія жылі ў маленькіх камунальных кватэрах.

***"Камсамольская праўда", lida.info.***

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Найбольш рэакцыйная**

У тыя першыя дні на вуліцах Вільні можна было ўбачыць такія панямецкія аўтамабілі з групкамі АК-аўцаў. Іхняе кіраўніцтва змабілізавала вялікую частку сваіх прыхільнікаў і сцягнула іх у ваколіцы Вільні якраз у момант набліжэння савецкіх войскаў.

Сэнс манеўру быў просты: на выпадак адступлення немцаў кіраўніцтва АК намагалася б заняць горад і дэманстраваць гэта пазней супраць Савецкай Арміі.

Немцы, аднак, ані думалі адыходзіць з Вільні без бою. Наадварот, тут якраз намагаліся затрымаць сшалеўшае ад некалькіх тыдняў удач савецкае наступленне. АК-аўцы, падобна, спрабавалі атакаваць самі, адбітыя без цяжкасці, затаіліся, паўстання з голымі рукамі не адважыліся выклікаць. Вільня пазбегла пазнейшай трагедыі Варшавы.

Віленская АК была найбольш рэакцыйная з вельмі простых прычын. Галоўным элементам польскасці на вёсцы былі тут абшарнікі, часткова вернутыя ў маёнткі гітлераўцамі. Савецкая партызанка, рухлівая і шматлікая, мусіла недзе забяспечвацца прадуктамі. Дзе? У чужых дварах ці па беларускіх вёсках, дзе жылі іхнія прыхільнікі.

Таму збройныя аддзелы, якія АК трымала ў полі, залішне часта змагаліся з савецкімі партызанамі, залішне лёгка ўваходзілі ў кампраміс з немцамі. Была гэта хутчэй збройная самаабарона абшарнікаў, чым зародак нацыянальнай арміі.

Цяпер, аднак, пры святле вызвалення Вільні лакальныя верхаводы намагаліся задакументаваць сваю прысутнасць, актыўнасць, антынямецкасць. Савецкія ўлады распазналі гэта адразу, пазней, не маючы сумненняў, што да сапраўдных настрояў гэтых збройных сілаў, інтэрнавалі іх пад Вільняй, а потым выслалі ў лагеры пад Калугай і ў Данбасе. Як звычайна бывае ў падобных выпадках, сотні сумленных і прыстойных людзей адпакутавалі такім чынам за памылковую і палітычна шкодную канцэпцыю сваіх правадыроў.

Мы былі пасланы сюды, каб між іншым старацца растлумачыць памылковасць і шкоднасць гэтай канцэпцыі, каму толькі ўдасца, каб ратаваць ад вынікаў гэтай памылковасці.

Дзякуючы Полю, я вярнуўся назад у тое, што засталося з майго ўніверсітэцкага асяроддзя. М. ін. сутыкнуўся з адным юрыстам, афіцэрам рэзерву, які некалі быў нават досыць блізка да Дамбінскага, калі той быў яшчэ досыць блізка да санацыі.

Пасля кароткай размовы загарэлася жаданне спаткацца з нейкай часткай таго асяроддзя, параўнання, двубою, суда Божага паміж нашай палітычнай рацыяй і тым, што яны лічаць сваёй рацыяй. Юрыст вельмі ахвотна згадзіўся арганізаваць спатканне. У дамоўлены дзень я пайшоў туды адзін.

Памяшканне было вялікае. Адвык ад такіх пакояў, мяккіх тапчаноў, гуцульскіх “лыжнякаў” на сценах. У салоне я застаў з сорак чалавек. Апрануты пацывільнаму, адвакаты, лекары, інжынеры, купцы - усе былі афіцэрамі рэзерву, звязанымі з мясцовай АК.

Не шмат дэталяў засталося мне ў памяці з таго спаткання. Але выдатна памятаю агульную аўру сустрэчы, стан сваіх нерваў, крывую драматычнага напружання.

Адразу было вельмі шмат пытанняў. Я рэпрэзентаваў сабой для тых людзей нешта як найбольш для іх чужое і варожае. Хаця ж некаторыя маглі мець на мэце па-просту знаёмства з новай сілай, якая надходзіла, не падлягала сумненню, што былі тут такія, якім даручана было любой цаной тую сілу скампраментаваць у вачах рэшты.

Я быў адзін. Адразу вакол мяне ўтварыўся нябачны мур. Усе былі вельмі халодныя і ледзве ветлівыя. Але пасля некалькіх маіх фраз, сухіх, узважаных для той атмасферы, адразу засыпалі мяне пытаннямі.

Першыя былі толькі цікавасцю: што за армія, ці сапраўды існуе, хто ёй камандуе, за што змагаецца. Адразу аднак далучыліся да гэтага пытанні зласлівыя, правакацыйныя, непрыхавана варожыя. А яшчэ праз хвілю пытанні пачалі пераўтварацца ў вялікую, хаатычную і гарачую дыскусію.

Засыпалі мяне зласлівасцямі. Стараліся падбіраць аргументы асабліва цяжкія для адказу.

А я ўсё ж адказваў без асаблівай цяжкасці. Сам таму дзівіўся, але ўсё ж з мінулага года быў на палітычнай рабоце ў нашай арміі. У той рабоце мы спазналі сілу нашай палітычнай рацыі. Пераканаўся, што і ў асяроддзі так выключна варожым гэтая зброя дае вынікі.

Сказаў, што быў адзін. Але тая адзінота была чыста фармальная. Былі са мной перамогі Чырвонай Арміі. Быў са мной падставовы аргумент існавання нашага народа.

Народу нашаму пагражаў фізічнай смерцю гітлераўскі фашызм. І вось знайшлася сіла, якая той фашызм б’е, і ўжо на парозе польскіх зямель.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

Як небяспечную палітычную пазіцыю мушу прыбраць такіх, якія ненавідзяць тую сілу, хоць хочуць, як кажуць, ратаваць народ наш ад фашызму!

Калі, трохі раззлаваны іхнім напорам, запытаў сорак віленскіх інтэлегентаў пра іхнія ўласныя аргументы, не ўмелі знайсці нічога іншага, як жаласныя размовы пра англа-амерыканскі ўльтыматум, які меў бы затрымаць савецкае войска і...

І што? Пакінуць Польшчу гітлераўцам? Ці паверыць Бору, што расправімся з гітлераўцамі адзін на адзін?

Раптам пачалі замаўкаць віленскія інтэлегенты. Найбольш зацятыя яшчэ намагаліся, каб нешта выдумаць, нейкую камбінацыйку, яшчэ дзяўблі мяне зласлівасцямі, але - о, дзіва! - я мог дазволіць сабе памаўчаць, запаліць папяросу.

Таму, што скончыўся слоўны двубой сарака супраць аднаго. Дыскусія выбухнула сярод іх саміх. Розніца думак стала такой відавочнай у іхнім уласным асяроддзі, што забыліся на мяне, не саромеліся таго чужога, варожага тыпа, пачалі сварыцца паміж сабой.

Народная Польшча, агульнае папяровае бачанне якой мы вынеслі з Сялецкага лагера, Польшча зямельнай рэформы, нацыяналізацыі прамысловасці, дружбы з Савецкім Саюзам, тая адзіная Польшча, якая можа існаваць у нашу эпоху - нясмела з’явілася ў свядомасці тых інтэлегентаў. Мабыць наймацнейшым аргументам за яе была абсурднасць гіпотэз і запэўніванняў найзацяцейшых лонданчыкаў.

Канешне, найдаўжэй трымаліся яны Вільні і Львова. Цяжка мне было аперaваць нашым асноўным аргументам у той справе: не можа быць вольным народ, які прыгнятае іншыя народы. Махалі рукамі, калі ім гэта падсоўваў. Махалі рукамі ў іншым сэнсе: цяжка.... Знайшліся і такія, якія пагражалі сваім правадырам: што ў свой час змарнавалі такую аказію. У свой - гэта значыць у 1941 годзе, за часы Сікорскага...

Сход закончыўся ў абсалютным разладзе. Зморaны выйшаў на балкон, і тут даскочыў да мяне нейкі маленькі, нярвовы чалавечак, якога датуль у дыскусіі не заўважыў. Схапіў мяне за руку, пачаў шаптаць:

- Проша пана, па сакрэту пану скажу: я камендант Арміі Краёвай на Віленскае ваяводства. Два гады рызыкаваў што дзень. І ў адным пункце пан мае рацыю - гэта быдла, тыя абшарнікі.

Рука яго сутаргава сціснулася на маёй, вочы шалёна блішчалі. Меў маленькія вусікі, належаў да такіх рухавых, невялікіх мужчын, якім той уласна недахоп павялічвае безупыннае ўзвышэнне. У войску называюць іх “конусамі”. Жаўнеры вельмі іх баяцца, бо яны зласлівыя, быццам бы калекі.

Заглянуў мне ў вочы. Я мусіў нахіліцца.

- Уявіце сабе, калі ласка, Па ўсім ваяводстве кідаўся, ведаеце, што за пекла гэта было, тут чырвоныя, тут немцы, тут літоўская міліцыя, ну, то жонку мусіў пасяліць у адным такім двары. То гэтае быдла, ведаеце, за асобным сталом сказалі ёй падаваць! Маёй жонцы! І пазней рахунак мне выставілі, кошты яе ўтрымання! А я, каму я маю выставіць рахунак? Што два гады шыю падстаўляў, каго баронячы, проша пана, каго баронячы?

Наша размова на тым скончылася. Нярвовы “конус” не складаў ніякіх асаблівых дэкларацый. нічога не прасіў, ні пра што не выпытваў. Чаму падскочыў да мяне на балконе?

Дзіўныя душы людскія. Я - першы напатканы ім прадстаўнік новага, варожага яму ладу - быў яму патрэбны, каб мог па-просту звычайна выказаць асабістую крыўду, якая мусіла яму моцна дакучаць, якую гонар не дазволіў яму даверыць нікому са сваіх, будзь - што будзь, падначаленых.

**Сентыментальная гісторыя**

Перад выездам у Вільню выклікаў мяне да сябе адзін з нашых вышэйшых афіцэраў, прозвішчам Z. Калі я пстрыкнуў перад ім абцасамі, сказаў мне:

- Паслухайце, капітан, у Вільні зайдзіце на вуліцу Татарскую, нумар такі і такі. Жыве там кравец N. Скажыце яму, што Z жывы і шле яму прывітанне.

- Так ёсць, грамадзянін Z!

- Адрас памятаеце?

Канешне, быў гэта суседні дом з тым, у якім жыў у 1933 годзе, пасля сваркі са Шрэдарамі і пакідання дома Краснадомскіх на Піўной.

Пайшоў цяпер на Татарскую. Дом быў цэлы, кравец жыў на першым паверсе, быў нават дома.

Выйшаў з-за нейкай занавескі ў класічнай кравецкай вопратцы: у камізэльцы і з метрам, перакінутым цераз плячо. Быў маленькі, нявідны. Не разумеючы глядзеў на мяне.

- Пан N?

- Так.

- Пан Z даручыў мне пераказаць пану, што жывы, што ў яго ўсё добра, і пасылае пану прывітанне...

N страшна змяшаўся, рукі яго пачалі лятаць, пачаў запрашаць мяне ўсярэдзіну. Я падзякаваў. Задаў пару пытанняў: у якім званні Z, на якой пасадзе. Калі сказаў, скамянеў. Падалося мне, што за сцяной, за драўлянай перагародкай нехта паварушыўся, нехта ўскрыкнуў.

Выйшаў, праведзены да дзвярэй краўцом. У цёмным калідоры быў нехта яшчэ.

Забыўся пра ўсю тую дробную гісторыю. Можа. праз чатыры гады прыехаў з Парыжа ў Варшаву. Зайшоў у “Чытэльнік”, дзе меў нейкую выдавецкую справу.

Выскачыла адна з маіх універсітэцкіх каляжанак, мілая, вечна ўсмешлівая Блянка Барташэўская.

- Слухай, тут мая каляжанка з Вільні. Абавязкова хоча з табой паразмаўляць.

Выйшла кабета за трыццаць, нашага тыпу, гэта значыць: вялікая, моцная, з мілым, пухлым тварам, на якім якраз пачалі з’яўляцца першыя, бязлітасныя маршчынкі.

- Пан быў у нас, - сказала з моцным віленскім акцэнтам.

- Калі?

- У сорак чацвёртым. Мы жылі на Татарскай. Пан памятае, кравец...

Цяпер успомніў.

- Проша пана, няхай мне пан выбачыць, што з

Z? Дзе ён? Што робіць?

Мушу сказаць, што ў той час пра Z распускалі розныя плёткі. Што арыштаваны, што Бог ведае, што.

- Але ж усё ў парадку. У акадэміі, праз пару гадоў скончыць яе.

- І вернецца?

- Відавочна. Жыве нармальна. Ён там з жонкай, з дзіцем, якое ходзіць у школу.

Не змянілася нават з твару, не паспела. Слёзы пырснулі ў яе з вачэй, праз хвілю затраслася ад плачу.

Стаяў, як дурань, не разумеючы, што з ёю, што на яе звалілася. Постаць Z была так нам усім знаёма, яго дзейнасць, яго сям'я, што па-просту не дасачыў дэталяў, якія для мяне былі вядомыя, а для яе, той пышнай здаровай, але перацвіўшай дзяўчыны сталіся панурай рэальнасцю: жонка, дзіця... Маё мімалётнае прывітанне прывяло да яшчэ некалькіх гадоў пустога чакання...

**Кафка і чаравікі**

Толькі праз пару дзён пачаў даграбацца да бліжэйшых знаёмых, прыяцеляў. Поль раздабыў нарэшце адрас аднаго з маіх літаратурных калег. Я прайходзіў у яго карпатлівае літаратурнае навучанне ў перадваенныя гады.

Быў страшна языкасты, хоць заікаўся. Заўсёды на два тыдні апераджаў мяне ў папулярызацыі новых кніжак, прозвішчаў, літаратурнай моды. Ледзве паспеў захапіцца "Вострым па вострым" Гукслея, як быў ужо пры Кафцы. Бязлітасны да слабейшых, умеў тым сваім двум тыдням надаць значэнне цэлай эпохі.

Таму я ішоў да яго з пэўным неспакоем: не бачыліся з ім не два тыдні, а пяць гадоў. У гэты час я не займаўся "авангарднай" літаратурайт і не здалеў дайсці нават да Кафкі. Ён жа тым часам - гэй жа га! - якіх інтэлектуальных вяршынь павінен быў дасягнуць.

Нейкі абадраны падворак, нейкая афіцынка. Быў дома! Прыняў мяне вельмі сардэчна. Селі адразу да размовы. Распытваў мяне не шмат, як звыкла, хацеў гаварыць пра сябе.

Але ж, не аднаму навучыўся падчас акупацыі. Між іншым стаў шаўцом, што дало яму сціплае, але рэгулярнае ўтрыманне. З пэўнай пагардай гаварыў пра пару нашых калегаў, лірычных паэтаў, якія пры Гітлеры сталі празаікамі асаблівага асартыменту: гандлярамі золатам і брыльянтамі. Ён жа толькі шыў чаравікі.

Пастаянна вяртаўся да тых чаравікаў! Так, як перад вайной умеў заўсёды гаварыць пра ўласныя (не лішне, на шчасце, часта ствараныя) вершы, так цяпер важнічаў чаравікамі. Хацеў нават зрабіць для майго ўжытку невялікую практычную лекцыю.

Я слухаў яго няўважліва. Бо праглядаў тое, што ён перахаваў з нашай перадваеннай дзейнасці і пісаніны. Якое багацце назваў! Колькі часопісаў, тыгоднікаў, нават газет выдавала тая малюткая група віленскай літаратурнай і палітычнай моладзі!

Канешне, шукаў перш за ўсё сваё: вершыкі, артыкульчыкі, нататкі, з якіх запомніў часам толькі назву, часам наогул нічога, але заўсёды нейкія агульныя ўражанні, што гэта добра, цікава...

Знайходзіў іх здзіўлены, як гэта далёка, якія малыя! Як бы глядзеў на іх праз перавернутую падзорную трубу.

Развітваўся з гаспадаром, поўны сораму, што гэтыя ўспаміны аказаліся сапраўды такія сціпленькія. І цяпер на вуліцы здаў сабе справу, што і ён падвёў мае чаканні, не ззяе ніякай інтэлектуальнай навізной. Што пасля Кафкі за ўвесь час акупацыі навучыўся толькі тым сваім чаравікам.

**Дзяўчына з тварам, як маліна**

Яшчэ адно спатканне, у прыгожых, як звыкла, Троках.

На руінах Троцкага замка (не таго на выспе) я прамаўляў да прызаўнікоў, якія мелі пайсці ў нашую Першую армію. Парк, рассыпаўшыеся замкавыя муры, найпрыгожы від на возера, выспы, ваколічныя гаі. Перада мной некалькі соцень чалавек, перш за ўсё прызыўнікі, таксама трохі сямей.

На першы погляд мястэчка не моцна пацярпела ад вайны. Ні баёў, ні бамбардзіровак не было, амаль нічога не спалена. Лакальная асаблівасць - караімы - захаваліся цэлымі. Яўрэі, аднак, зніклі, вымардаваныя на Панарах. Было іх не шмат, трохі рамеснікаў, трохі шынкароў. У адзін з такіх шынкоў мы хадзілі ў час прыезду на рэгаты на ветразевых лодках.

Якраз даведаўся пра смерць яго ўладальніцы, вясёлай, тоўстай яўрэйкі па прозвішчы Відэцкая.

І калі прамаўляў да прызаўнікоў, пачуццё, якое ад пачатку меў да нямецкага фашызму: нейкая мешаніна страху, нянавісці і абурэння, было падмацавана гэтым яго мясцовым злачынствам, хоць я не ўспомніў пра яго ні слова.

Калі скончыў, настроі прызыўнікоў былі някепскія, задалі пару рэальных пытанняў. Выходзіў з парку, сам не ведаючы, ці ісці пашвэндацца па вуліцах, ці вяртацца ў Вільню? У гэты час нехта звярнуўся да мяне.

Была гэта маладая, можа васемнаццацігадовая дзяўчына ўражвальнай прыгажосці. Блакітнавокая, светлавалосая, ружовавусная - мела ўсе дадзеныя, каб яе прыгажосць назваць уласна, прамяністай, чыстай, дзявочай. Я спыніўся аслупянелы.

Спытала, ці я сабе яе прыпамінаю. Буркнуў:

- Адкуль?

- Я то пана, аднак, добра памятаю, пан тут бываў у панства Фэкечаў.

Канешне, ездзілі да Нюські Фэкеч, прыяцелькі Іркі і прыгожай дзяўчыны. Пачало мне нешта праясняцца ў галаве. У час тых візітаў нешта там блыталася па падворку, нейкае стварэнне даўганогае, кірпатае. падрапанае.

- Гэта ж я! - сказала прыгожая дзяўчына, - гэта я была...

Пайшлі па вуліцы мястэчка, яна лапочучы нешта з грацыяй і без значэння, я ўглядаючыся ў яе і злуючыся, што ў два разы за яе старэйшы. Была аднак не толькі прыгожая, была мілая. Неўзабаве дала мне зразумець, што розніца ў веку не падаецца ёй істотнай. Ішлі, перайшоўшы да класічнай у такіх выпадках методы: прыпамінаць дэталі тых першых спатканняў і дадумваць іх значэнне. Такім спосабам цяперашняе

спатканне траціць сваю мімалётнасць, абрастае перадгісторыяй, дазваляе прыспешыць бег падзей.

І калі маё захапленне ёю дасягнула вяршыні, дайшлі якраз да таго месца, дзе знайходзіўся наш любімы шынок. Быў спалены.

- Памятае, пані, - працягваў. - Быў тут шынок той тоўстай, вясёлай... як жа яна называлася? Мела такую выдатную караімскую халву!

- Памятаю, канешне. А тым часам..., - тут даверліва панізіла голас, - знае, пан. Гітлер, канешне, нарабіў страшных рэчаў. Але адно зрабіў добра з тымі яўрэямі!...

Спахапілася адразу, хоць не бачыла майго твару, не датыкаласяда маёй рукі. Яе даспяваўшая жаноцкасць мусіла яе ў тую хвілю абараніць. Ужо моўчкі. ужо толькі для спраўджання, якое вялікае ёсць глупства, што пальнула - паглядзела на мяне.

- Прабачце,- мармытнула. - Можа, пан - яўрэй?

- Што ж з таго, што не? - сказаў не гледзячы на яе, саромеючыся за яе, саромеючыся сябе самога, уражаны, зламаны, смутны.

Яшчэ нешта бубніла, яшчэ з робленай бадзёрасцю намагалася вярнуцца да свае нядаўняй бяскрыўднай балбатні. І я таксама намагаўся сябе пераканаць: дванаццаць гадоў мела перад вайной. Што ж яна ведае пра свет? Пачула тыя словы з вуснаў старэйшых, паважаных ёю людзей. Прыняла іх за свае, запомніла, бо няздольная да такога крытычнага аналізу...

І не мог ужо на яе глядзець. Усё, што складала праменнасць яе прыгажосці, падалося мне цяпер поўным нейкага іншага значэння, можа, аж панурага, можа толькі плюгавага...

**Не ўсе былі такія**

Канешне, не ўсе былі такія. Але вяртанне ў краіну маладосці аказалася таксама не латвым, мела досыць грозных значэнняў, больш чым краіна дзяцінства. Цяжка аказалася злапаць нашую маладосць, далёкую і - што горш, пасля злапання растрапаных нітак - зусім не такую, якую захавалі ва ўспамінах, якая заўсёды мае схільнасць да надання мінуламу ўрачыстых рысаў.

Праз пару тыдняў пасля нас прыехаў у Вільню той-сёй з "групы Дамбінскага". Стэфан Ендрыхоўскі даведаўся пра арышт і траплянне ў лагер Ганэчкі. Гаварылі пра нейкую мясцовасць пад Коўняй. Узяў ровар і паехаў на месца. Не даехаў: фронт яшчэ туды не дайшоў. Праз пару дзён вярнуўся ў Маскву.

Прыехала Ірэна Штрахельская. Ёй пашанцавала: брат Ежы і маці ацалелі. У іх доме недзе каля Пякелка, спаткаліся з недабіткамі нашага асяродка. Даведаліся пра далейшыя лёсы прыяцеляў, пераважна дрэнныя.

Пра Казіка Петрусевіча - што быў у партызанах на Беларусі. Яго жонка, Лілька, з ім разам. Была гэта прыгожая дзяўчына, сімпатычная, хоць куды. Вельмі мне падабалася.

Казік ажаніўся з ёю ў сваім стылі, па-вар'яцку. Была з нейкай зацятай эндэцкай сям'і. Ну, то Казік яе ўкраў, вырваў з асяроддзя, сілай накінуў ёй лад жыцця, схільнасці, бадай, ці не стыль вопраткі.

Казік быў баявіта, праграмна антымяшчанскі - але так, у стылі савецкіх дваццатых гадоў, калі і што да сям'і лічылася, ці не перажыткам. Ужо абое з Лількай закончылі вучобу, а жылі ў адным пакоі, дзе пры акне стаяў стол, па яго баках два ложкі шпітальнага тыпу і канец. На стале страшны балаган, усё разам: кніжкі, шклянкі, паперы, талеркі. Кожны зайходзь, калі хочаш, рабі, што хочаш, валіся на ложка, гавары, выходзь. Лілька ўсё зносіць, вокам не маргне, што мае гэтага вышэй галавы. Можа, ёй тое цыганскае жыццё падабалася.

Даведваемся, што памерла. Банальна, як на акупацыі: пры родах. Былі з Казікам у такіх умовах, што доктара не было, нейкае ўскладненне, як у цёмныя знахарскія часы, і Лілька загінула.

Сам Казік знойдзецца пазней. Таксама быў не раз на валасок ад смерці. Ацалеў.

Друта з Гугам ацалелі таксама: былі на вёсцы, працавалі недзе ў маёнтку парабкамі. Мута Дзявіцкая з мужам таксама.

Адна наша дзяўчына стала тэмай гонару і гамерычнага смеху. Была з мужам, як і тыя, на вёсцы. Працавалі на розных палявых работах. Праз нейкі час пачала таўсцець.

- Дзіўна, - гаворыць мужу. - Глядзі, зноў патаўсцела. Гэта ўсё ад той бульбы.

Таўсцела, таўсцела, аж пачаліся болі. Нарадзіўся моцны хлопчык...

У пані Дзявіцкай адбылася іншая сустрэча, чым у таго юрыста. Прыйшла моладзь, іншая, чым мы, так бы сказаць - цяперашняя. Разам з Ірэнай мы апавядалі пра Першую армію, пра нашую палітычную праграму.

Слухалі нас у цішыні. Я не адразу ўлавіў, што моладзь досыць няпростая. Тое, што я гаварыў, было вельмі звычайным, столькі разоў паўтараным мной у апошнія месяцы, што сталася для мяне проста руцінай.

Нашы маладыя слухачы глядзелі аднак на нас іначай. Некаторыя з іх ведалі нас некалькі гадоў таму назад, яшчэ з часоў "Групы". Толькі што мелі тады гадоў трохі за дзесяць, былі падлеткамі. Гэтыя некалькі гадоў зрабілі з іх маладзёнаў, а нас у іхніх вачах акружылі аўрай таямнічасці, амаль легенды.

Тут не было ніякіх правакацыйных пытанняў. Пыталіся галоўным чынам, як трапіць у І-ю армію. Найактышнейшая групка слухачоў праз пару тыдняў трапіла ў Люблін і была расхапана "на пні" сотняй узнікаючых якраз установаў.

**20 ліпеня, налёт**

Колькі дзён быў тады ў Вільні? Тыдзень? Мабыць, не больш. Але тыя дні былі цяжкія на падзеі. Кожны з іх значыў больш, чым не адзін месяц.

У гэты час савецкія войскі дабраліся да мяжы Усходняй Прусіі, дайшлі пад Беласток, Ваўкавыск. Пачыналі рухацца ўкраінскія франты. Грозна набрыньвала лінія Прута. На захадзе саюзнікі нарэшце расшырылі свой Нармандскі плацдарм.

Усюды наспявалі вырашальныя падзеі. Зноў мяне агарнула нецярплівасць. Вырываўся з Валыні ў Вільню, бо па-першае, тут тады ішло найбольшае наступленне, па-другое, бо трохі спадзяваўся, што Ірка

з Евай перабраліся ў Вільню, дзе, будзь - што будзе, Ірка мела сваіх цётак. Цяпер, калі на Валыні якраз мела рушыць новае настпленне, Вільня мне падалася ўжо ўпарадкаванай і нецікавай. Даў знаць у Маскву, што ўжо паехаў бы.

Аднак, пакуль Барэйша мяне выцягнуў, перажыў яшчэ ў Вільні адзін моцны налёт. Было гэта 20 ліпеня. Мы былі якраз у Дзявіцкіх. Загаварыліся, ноч была светлая, калі загулі самалёты.

Нічога такога не бачыў ад траўня, ад Роўна. Хутка здагадаліся, што галоўны аб'ект налёту - гэта ваколіцы вакзала. Стаялі на балконе. Неба рудое ад зарыва, няспынныя праблiскі выбухаў, яркае агністае святло "свечак", трасенне зямлі, жудасць.

Новы Свет, які пацярпеў ужо пры вызваленні Вільні, быў цяпер цалкам знішчаны. Пазней я даведаўся, што тады загінуў Зянон Шрэдар, які ажаніўся і жыў у доміку бабці, на Снежнай.

Гэты квартал наогул быў нешчаслівы. Канчаткова знішчыў яго падрыў гіганцкага цягніка з боепрыпасамі ў студзені 1945 года.

Той дзень, як аказалася, быў пераломны з многіх пунктаў погляду. Амерыканскія танкі рушылі на Брэтань і Лауру. Рушыла савецкае наступленне над Бугам. І ў той жа дзень прыйшлі весткі пра замах на Гітлера.

Нельга было ў той дзень нікога злавіць, усе сядзелі пры радыёпрыёмніках, выхопліваючы з трэскаў адрывачныя словы, склейваючы іх, намагаючыся надаць ім сэнс. Якраз цяпер канец вайны падаваўся за найбліжэйшым рогам вуліцы. Нават вестка пра расправу Гітлера над замахаўцамі не здолела парушыць нашай нецярплівасці.

На шчасце прыйшоў выклік у Маскву.

**Масква, Барэйша**

Апошні раз яе бачыў вайной. Некалькі дзён круціліся, чакаючы на адлёт групы, якую Барэйша якраз фармаваў для першай польскай газеты ў краі. Нецярплівасць страшная; ужо маем сенсацыі, пераход Буга, вызваленне Хэльма, маніфест, узнікненне ПНВК і выхад з падполля Краёвай нацыянальнай рады.

А тым часам яшчэ гэтая ваенная Масква. Толькі цяпер адрыўкі ўспамінаў набіраюць лірычныя колеры. Успамінаецца лета 41-га, маршыраваўшыя аддзелы, гаснуўшая - не вядома, на вуліцы ці ў галосніках песня:

*Вставай страна огромная,*
*Вставай на смертный бой...*

Цяпер усё цалкам іначай. Перамога гарантаваная. Ёсць, зрэшты, вельмі цяжка з харчаваннем, з усім, але гэтага не відно, толькі тое чаканне перамогі. Што вечар нецяплівасць - ёсць сёння салют ці няма. І калі ёсць, то якога рангу, звычайнага, гэта значыць дванаццаць залпаў, ці вышэйшага, г.зн. дваццаць чатыры залпы. А былі і найвышэйшыя, па трыццаць шэсць, здаецца. Гэта пры вызваленні сталіц.

Гэтая вайна, гэтая вайна, якая так страшна пачалася, так доўга працягвалася, усё-такі заканчваецца. Я ўвесь у нецярпенні, калі будзе па ёй. Ведаю з папярэдніх досведаў, хоць дробных, што вельмі неабачліва на нешта занадта чакаць: бо тады забываеш пра ценявы бок таго, што на што чакаеш, бачыш адзін толькі бляск і непазбежна перажываеш расчараванні ў момант спаўнення мараў. А ўсё ж цяпер не патрафлю хоць бы сілаю ўявіць сабе тыя цені часу "па вайне".

"Па вайне" - гэта і вызваленне ад ваеннага страху, ад бруду і жудасці, якіх столькі наглядзеліся, гэта і рэалізацыя вялікіх планаў пра гэтую нашу Польшчу, і свабода літаратурнай працы. І можа найдабітней, найканкрэтней, што надавала сэнс усяму, што добрае ў тым "па вайне" - адшуканне Іркі і Евы.

Перапоўнены нецярплівасцю, ці ж бы мог хоць хвілю думаць, што і час, які якраз заканчваецца, набярэ некалі для мяне каларыт пачуццёвага далёкага ад цемры. Цяпер часам, успамінаючы вайну, усміхаемся, такімі дробнымі падаюцца страхі, якія мяне наведвалі ў Сяльцах, так шмат знайшлося сапраўдных страхаў і "па вайне". Напэўна галоўнай прычынай тых мілых успамінаў была маладосць, якая ўласна скончылася, якая нават на вайну патрафіла накінуць нешта светлае.

Толькі цяпер усведамляю сабе і нешта іншае. Пасля вайны знайшоў шмат рэчаў, якія на чалавечай біржы ўважаліся за найвышэйшыя. Ніколі не шкадаваў пра ваенныя часы, ані, барані Божа, не марыў, каб яны вярнуліся. А тым не менш, калі маю акрэсліць сябе як характар, як асобу - то іначай, як чалавекам Другой вайны назваць сябе не патрафлю. Гэта была страшная эпоха. Мы не мусілі яе выбіраць, трапілі ў яе, як у транспартную катастрофу, яна выбрала нас і пазначыла да канца жыцця.

У той позьневаеннай Маскве намножылася польскіх пляцовак. Нарадзіліся першыя саноўнікі, яшчэ толькі смешныя, яшчэ аб'екты першых жартаў. Пачала паўставаць атмасфера сталіцы: гандляванняў, манёўраў, плётак, схаванага спаборніцтва. Былі больш нецярплівыя, якія вырываліся ў першыя вызваленыя гарады. Іншыя лічылі за лепшае сядзець, займалі пасля першых пакоі ў "абшчажыццях". Наз'язджалася шмат людзей з глыбінкі. З'явіўся Вітас, гэты меншы, Андрэй. Мелі таксама "свайго Стагля, якога, здаецца, ужо выцягнулі з войска. Быў Ржымоўскі, выграблены намі з Крамянца. З Сібіры з'явіўся Дробнер.

Бываў ужо ў нас у "Новых гарызонтах", у Куйбышаве. З уласцівай яму геніяльнасцю разуменя вялікіх, палітычных рацый і поўнага ігнаравання такой неістотнай рэчы, як "гістарычны момант", недзе ў 1942 годзе агітаваў нас за скліканне Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення і фармавання ўласных вайсковых частак. Калі гэта стала мажлівым праз год, не прамінаў, як Ірыкоўскі, сцвярджаць, што першым падаў такую ідэю.

Гэты выдатны апавядальнік. З'явіўся ў сваім сукмане ці то тужурцы, з вусамі, сівы. Апавядаў пра Сібір. Жукоўскаму апавядаў пра візіт да яго Завішы Чорнага, таго з "Вяселля". Я запомніў дробны малюнак: Дробнер пасе быдла ў стэпе, страшныя камары, раптам бачыць: дарогай едзе воз з труной, ззаду ідзе пару чалавек, танцуюць! Здзіўлены прыглядаецца. Не, толькі адганяюць камароў рукамі, нагамі, усім.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У 2-й палове 2018 года ў Менску пачаў выходзіць часопіс “Наша гісторыя”, заснаваны Прыватным выдавецкім унітарным прадпрыемствам “Суродзічы”. Выйшла 5 нумароў.**
**№ 1 - наклад 9000 ас., № 2 - наклад 10500 ас.,**
**№ 3 - наклад 7000 ас., № 4 - наклад - 7000 ас.,**
**№ 5 - наклад 7000 ас.**
















**У Смаленску ў выдавецтве “Інбелкульт” выйшла кніга Уладзіміра Канановіча “Рыцар на полі бою: Клецк, жнівень 1506 года”, 412 ст., наклад 200 ас.**



**У Менску ў выдавецтве А.М. Янушкевіча выйшла кніга Уладзіміра Падалінскага “Прадстаўніцтва Вялікага Княства Літоўскага на Люблінскім сойме 1569 года”, 240 ст., наклад 300 ас.**







**У Гародні ў выдавецтве “ЮрСаПрынт” выйшлі 2-я і 3-я кнігі рамана Аркадзя Ліцьвіна “Прастрэлены талер”,**
**кн. 2 - 298 ст., наклад 90 ас.,**
**кн. 3 - 292 ст., наклад 90 ас.**



***Курган з магілай паўстанцаў 1863 года ў былым фальварку Стрэліца Лідскага раёна.*** *Здымак С. Судніка, 2018 г.*